**УДК 392.1(=826)(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-534(4Беи-4Гом)**
Л 77

Рэцэнзенты:

**Коваль В.І.**, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства ўстановы адукацыі “Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны”;

**Валодзіна Т.В.**, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў дзяржаўнай установы адукацыі “Цэнтр дасле- даванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры” НАН Беларусі.

**Лапацін, Г.І.**
**Л77 “К каждаму разгавору прыказка ё...”** З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Матэрыялы да фразеалагічна-парэміалагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005 – 2012 гг. Частка 1. На правах рукапісу. /Генадзь Лапацін. – Гомель, 2018. 112 с.

Гэтая кніга ўнікальная двойчы. Па-першае, упершыню ў фразеалагічна-парэміалагічнай практыцы створаны фразеалагічна-парэміалагічны слоўнік асобы, якой з’яўляецца былая жыхарка пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Варвара Аляксандраўна Грэцкая. І, па-другое, гэта фразеалагічна-парэміалагічная карціна сусвету ва ўяўленнях беларусаў, увасобленая ў жыццё адной вёскі. Кніга будзе карыснай для ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай культурай.

УДК 392.1(=826)(476.2)
ББК 63.521(=411.3)-534(4Беи-4Гом)





# Для запісаў

## Для запісаў



# “Я гаварю па-амяленскі…”

Кніга “Варвара Грэцкая: “К каждаму разгавору прыказка ё...” – гэта другая кніга, прысвечаная традыцыйнай культуры пасёлка Амяльное, які знаходзіўся на тэрыторыі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1992 годзе ў сувязі з наступствамі аварыі на ЧАЭС жыхары Амяльнога былі адселены ў іншыя населеныя пукты Беларусі. З таго часу і па цяперашні час гераіня гэтай кнігі жыве ў Ветцы.[1]

Гэтаму выданню папярэднічала кніга “Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры”.[2] Яе змест склалі запісаныя мной, супрацоўнікам Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава, за перыяд з 2005 па пачатак 2014 гг. песні каляндарнага і сямейна-побытавага цыклаў, лірычныя, дзіцячыя, рэкруцкія, сіроцкія песні, прыпеўкі, апісанні звычаяў і абрадаў, былічкі, легенды, прыкметы, павер’і. Зведзеныя разам, занатаваныя ад яе тэксты ствараюць своеасаблівую энцыклапедыю жыцця беларускай вёскі Амяльное. Дзякуючы ім, можна даведацца пра сямейны і грамадскі побыт амяльчан, уяўленні пра жывёльны і раслінны сусвет, старажытныя міфалагічныя і хрысціянскія ўяўленні, асаблівасці асобных абрадаў і рамёстваў, якія існавалі ў гэтым пасёлку. І, па вялікім рахунку, гэта карціна сусвету ва ўяўленнях беларусаў. Гэта зразумела: культура кожнай вёскі належыць як самой вёсцы, так і ўсёй культурнай традыцыі, да якой вёска належыць. Культура і мова кожнай вёскі, пацвярджаючы і падтрымліваючы агульнае сваёй вялікай культуры, заўсёды ўносяць у яе і штосьці сваё, асаблівае, адметнае. Пасёлак Амяльное ў гэтым плане – не выключэнне. Яго культура, яго мова належаць як жыхарам Амяльнога, так і ўсёй беларускай традыцыі.

На дадзены час ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай занатавана 2310 парэмічных адзінак, якія ахопліваюць літаральна ўсе сферы жыцця амяльчан. У кнігу “Я гавару па-амяленскі...” увайшло 1100 адзінак. Гэты звод можа рэальна прэтэндаваць на ўвасабленне фразеалагічна-парэміалагічнай карціны сусвету ва ўяўленнях беларусаў, увасобленай у

---

[1] Пасёлак Амяльное Веткаўскага раёна быў заснаваны на пачатку XX стагоддзя і тэрытарыяльна належыць да вёскі Старое Закружжа, якая па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку XIX стагоддзя. (Гарады і вёскі Беларусі. Энцыклапедыя, Т. 1, кн. 1. Гомельская вобласць / С. В. Марцэлеў; Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн. 2004–632 с. С. 207 – 208.) У 1992 годзе ў выніку аварыі на ЧАЭС і радыяцыйнага забруджвання жыхары абодвух населеных пунктаў у шэрагу іншых 58 вёсак і пасёлкаў Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці былі адселены на сталае месца жыхарства ў іншыя гарады і раёны Беларусі. Праца па зборы і фіксацыі помнікаў традыцыйнай культуры рэгёна была распачата супрацоўнікамі Веткаўскага музея напрыканцы 1970-х – пачатку 1980-х гг. Не спынілася яна і пасля адсялення вёсак, паколькі супрацоўнікі музея падрымліваюць стасункі з перасяленцамі, якія на дадзены час жывуць у Ветцы.

[2] Лапацін, Г.І. Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры /Генадзь Лапацін. – Гомель: Барк, 2015. – 248 с.

традыцыю адной вёскі. І, на мой погляд, ён істотна дапаўняе карціну сусвету, якая грунтуецца на зафіксаваным ад яе фальклорна-этнаграфічным комплексе. Гэта натуральна, паколькі фальклорнае, этнаграфічнае, моўнае ўвасабленне дыялектнай традыцыі з'яўляецца адным цэлым. Пры гэтым фразеалагізмы сведчаць аб самым устойлівым у жыцці чалавека. Тое, што замацавана прыказкай, прымаўкай, выслоўем, фразеалагізмам, хутчэй за ўсё з'яўляецца тыповым, а не выключным. Дзякуючы гэтаму праз іх ад пакалення да пакалення перадаецца жыццёвы вопыт. Зместам асобных артыкулаў гэтага слоўніка з'яўляюцца фрагменты нашых размоў, у якіх узнікалі ўстоўлівыя адзінкі мовы, і такім чынам яны падаюцца ў прасторы свайго натуральнага існавання.

Варвара Аляксандраўна ў сваіх адмысловых і міжвольных каментарах да вобразных адзінак грунтуецца на глыбокім, заснаваным на асабістым вопыце, веданні рэалій амяленскага жыцця. Паводле вызначэння маёй суразмовіцы: "Усякіе жызні і ўсякія прыказкі. К каждай жызні прыказкі дзелаюць. К каждай жызні прыказка ё... Харошая жызня... Каждай жызні прыказку прыкладуць..." Большую частку таго, пра што распавядае Варвара Аляксандраўна, яна пераняла ад сваёй бабулі з бацькоўскага боку Алены Максімаўны Грэцкай (у дзявоцтве – Кулагінай, 1859 – 1953). У сваю чаргу, спасылаючыся ў аповедах на сваю бабулю, Варвара Аляксандраўна ўзгадвае, што тая таксама спасылалася ў сваіх аповедах на "бабу" і "прабабу", што дазваляе ў аглядным часе ўбачыць у яе аповедах рэаліі пачатку XIX ст. Трэба адзначыць, што асобныя запісы былі зроблены пры ўдзеле роднай сястры Варвары Аляксандраўны – Гарявой Тамары Аляксандраўны (1927 г. н.); яе стрыечнай сястры – Кужэльнай Праскоўі Сяргееўны (1933 г. н.) ; яе сына – Грэцкага Сяргея Васільевіча (1950 г. н.) ; унукаў – Сяргея (1989 г. н.) і Варвары (1986 г.н. )

Варвара Аляксандраўна Грэцкая размаўляе на мове ("языке"), які сама вызначае як "калісяшні", "старынны", "амяленскі", "прыродны", "дзеравенскі":

*"Я гаварю па-свайму, па-дзірявенскаму…"*

*"Прыродны язык. Родны язык. Вот з каторым родзісся, прывыкніш к яму, так і гаворыш".*

Гэтая мова як частка амяленскай культуры спасцігалася ёю ў працэсе штодзённых размоў з бабуляй Алёнай Максімаўнай, мамай Пелагеяй Пятроўнай, іншымі старэйшымі аднавяскоўцамі:

*"Большыя гаворяць, і мы ўслед за імы". – <Большыя – гэта хто? – Г.Л.> – Дзяды, бабы, маткі, большыя хлопцы, дзеўкі, а меншыя... Тады мы гаворыма ўсі".*

*"Вучацца ад каго... Стары круціцца, а малы вучыцца... Што старыя гаворяць, то малыя пераймаяць. Вот цыгане па-свойму... А зналі наш... Як*



## Для запісаў

Адзін танец, толькі называлі па-разнаму. Ты б падышла, сказала: “Сыграй мне барыню, а другі прыдзя: “Ну-ка трэццяка. Усё раўно барыню іграя.

**Ня сахар → Ня мёд.**

**Ня слухаю, як свіння рюхая.**

**Ня слухаю, як свіння рюхая**. Ты б мне *брахню тачыў*. Я на свайго кажу: “Я **ня слухаю, як свіння рюхая**”.

<І баба Алёна так казала?>

Пачане... “Баба, так і так...” – “**А ты ня слухай, як свіння рюхая**. Свіння рюхая, а ты атыйдзісь”. Свіння гаварыць ня ўмея.

**Ня ў’ежна, дак зато ўлежна.** Гл. таксама: **Выряй выляціў.**

Ляняцца работаць. Вот ё сем’і – лучшэ праляжаць. Казала Фёкла: “У-у-у! Работаць! І дурак будзя работаць. Нада выгуляцца. Мне **ня в’ежна, дак зато ўлежна**. Сплю – дакуль хочу, устану...” У абед ва ўсіх дым не ідзець з печы, а ў Фёклы ідзець дым. Ішчэ толькі печ затопя, а людзі ўжо павытапяць і на работу пойдуць.

**Не ўмея кату хваста завязаць.**

Вот *завяжы кату хваста*. Ён жа нікалі ні завяжыцца. Калісь матка. “Мам, я ня ўмею!”. – “Да ты ***ня ўмеіш кату і хваста завязаць***!” Нада ўсё ўмець. І дзелаць нада. О! Мая матка строгая была. Ня то шта, ня ўмею – ну і сядзі. Яна скажа: “Вочы бачаць і *рукі* ё, *не паадсыхалі*. Дзелай! Ты доўжын дзелаць”.

*<Дак, яму ж нельзя хваста завязаць.>*

Ну, вот нельзя! А вот нада! Завяжы ж!

**Няшчотная сіла.**

Грушы, *салодкія, як мёд*. Ягор патруся – груш **няшчотная сіла**.

**Няшчотная сіла** – не перяшчытаіш. Ета яны ляжаць адна на адном, такім вот слоям. Не сашчытаць.



*яны панімаяць... Два языкі ўмеяць... А мы аднаго... Вучацца малыя ад бальшых...”*

*“Як баба гаварыла, мы ж точна... Я, як баба, гаварю... Што баба, што матка, усі гаворым адзінакава. Калісь дзед Майка прыдзя гуляць к нам, будзя такія словы гаварыць, як і баба. Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца. Што тыя дзелаяць, то і яны. Яны разгаварывалі, і мы знаім”.*

*”Што баба гаварыла, матка, то і гаворыш. І дзед Майка, усі, у каждым дварэ так гаварылі, ня толькі ў нас, і ў тым, і ў другом дварэ. Па-старыннаму я багата гаварю слоў”.*

У адрозненне ад шматлікіх носьбітаў народнай мовы, асабліва гэта датычыцца прадстаўнікоў маладзейшага пакалення, яна не саромеецца яе, а, хутчэй, наадварот, любуецца ёю:

*“Ціпер культурна гаворяць. Вон жа Лукашэнка гаварыць... Усякія такія словы гасударственныя... А калісь жа па-калісяшняму... Лукашэнка... Ён не па-беларуску... Змешана... Змешана яшчэ красівей – і рускі, і беларускі. Адзін гаварыў па радзіву, я ўключыла, дак гаварыў “гэта”, “каб тое”... Ета – па-беларускі. Ужо другі пачаў гаварыць... Ужо ні па-беларускі. Мне думаіцца: “Лукашэнка ўжо па-рускі і па-беларускі гаварыў – красівей. Ці-та мы прывыклі...”*

І гэта сваё, прыроднае, не паддаецца ні ўплыву адукацыі, ні крытыцы з боку тых, хто лічыць сваю гаворку больш правільнай, а для людзей яе кола – і жыццю ў вялікім горадзе. У якасці прыкладу яна прыводзіць як саму сябе, так і свайго пляменніка, вайскоўца, палкоўніка, які жыве ў Маскве:

*“Казаў наш Грыша: “Я работаю ў Маскве з людзямы не з дурнымы, но ўсё раўно, свой язык – па-амяленску гаварю. Мне ўсё генерал тый гаворя: “Ну, ты ўсё раўно дзе-нібудзь улепіш сваё слова, дзерявенскае такоя”. Я гаварю: “Радзіўся хадзіць, поўзаць не магу. Вот, напрымер, вуж поўзая, чылавек поўзаць не поўзая. Ці радзіўся лятаць ці верабей, ці варона якая – ён жа лятая. Хадзіць ён паходзя, а ўсё ж лятая. Так і чылавек”.*

*“Наш Грыша ў Маскве. З генералам рука об руку дужа дружаць. Дак ён будзя на мяне казаць, паківая пальцам, я ўжо знаю, ета я па-свойму ляплю”. Свой прыродны язык. Як хто клыча”.*

*“Наш Грыша зарадзіўся ўжо тут... Як гаварыў... Прывык ён у маладосці, малады... І во прыязжаў... І ён не гаворя чыста па-гарадскі... Па-нашаму, як мы гаворым”.*

Падчас адной з нашых размоў запытваю ў яе пра яе сына: “На якой мове Сяргей гаворыць?”

*“Так, як і мы гаворым... Як і я гаварю”. <Дык ён жа ў горадзе жыве колькі.> “Каторыя словы гарадскія. Набальша нашы”.*

Безумоўна, вялікае значэнне для яе мае тое, што на гэтай мове размаўляла яе бабуля, якая заўсёды і ва ўсім была для яе прыкладам і аўтарытэтам.

*“На мяне Аляксеяўна кажа, мне дала выгавар. Я гавару: “Сярёж, у нас лусцінка хлеба. Ідзі схадзі!” Яна і гаворя: “Нада казаць не “лусцінка”, нада казаць “скібачка” асталась ці “кусочык”. Што ты ета пракалісяшняя-пракалісяшняя?” Я вот, як баба гаварыла ў нас, і матка так гаварыла:*

*“Дзеці, у лес ідзіцё, вазьміця хлеба па лусціні”. Мы ўжо знаім, што па лусцінцы, па скібаццы хлеба возьмім. “А, мам, мы скора прыдзім!” – “Не знаіця, калі прыдзіце!” Вот – лусціна! Табе некрасіва? Лучшэ сказаць скібка ці кусочык? Як?* <Мне: **лусціна**.> *Лусціна? Ня грэбуіш. А яна мне гаворя. Я – што баба гаварыла і матка, то мы і гаворым. Ягорка наш: “Мама, я хочу хлеба. Дай хоць лусцінку”.*

Вялікі ўплыў на тое, што ў мове Варвары Аляксандраўны захаваліся шматлікія даўнія словы, аказалі песні. Тое, што гэтыя словы сустракаюцца менавіта ў песнях, для яе таксама аргумент, і не меней важкі:

*“Я скрозь гавару: “Лусціна...” Баба так казала. Гавару: “Сярёжка, там хлеба лусцінка асталась”. Ён ужо зная... Я вот прывыкла, і скрозь гавару, сколькі жыву. У нас там усі казалі. Калісь жа пякарні не было, дак свой – самапечка. Ну, вот калі нада хлеба, да німа, дак прыходзіш: “Пазычця хлеба...” А хто скажа: “Асталась лусцінка”. І ўсі так: “Лусцінка і лусцінка...” І вот жа ё песня пра Маслінку, што “хлеба німа ні лусцінкі”. І пра зайчыка: “Кашкі наварылі,/ Дзетак накармілі, / Далі морквы, капустачкі /І хлеба па лустачкі.../ “Па кусочку ж” не гаворяць. Усі тады казалі: “Лусціна”. І вот будзіма іціць у лес, баба: “Вазьміця па лусцінцы хлеба”. Мы ўжо адрэжыма. І Козырыха будзя казаць: “Во, дземаны! Ці ўзялі вы па лусціне хлеба?”*

Неабцяжараная ведамі мовазнаўчай тэрміналогіі, Варвара Аляксандраўна Грэцкая ў сваіх развагах пра асаблівасці амяленскай гаворкі прыводзіць прыклады, а часам робіць высновы, якія з поўным правам можна аднесці да арфаэпіі, лексікалогіі, фразеалогіі, дыялекталогіі, камунікатыўных асаблівасцей мовы і маўленчай дзейнасці, што дазваляе вызначыць такі раздзел вывучэння традыцыйнай культуры як народнае мовазнаўства. Упершыню гэтая з’ява, вызначаная як folk linguistics (народная лінгвістыка), была ўведзена ў навуковы ўжытак 1964 годзе на канферэнцыі UCLA (University of California, Los Angeles) амерыканскім лінгвістам нямецкага паходжання Генры Хёнігсвальдам.[3] Паводле яго меркаванняў, народная лінгвістыка – гэта тое, што носьбіты мовы думаюць

[3] Hoenigswald, H.M. A proposal for the study of folk-linguistics. “Sociolinguistics”, / H.M. Hoenigswald – The Hague–Paris, 1966, 16–20.



сказала: “Бяры…” Ён сказаў: “Як гуляла, так і расці…” І дазналіся тыя… Сядзіць Коршун, мацюкая… А Каршуніха сядзіць, Машына свякруха, гаворя: “Што ты мацюкаіш пры дзяцёнку?” Каця сядзіць, кружава вяжа. “Палядзі, дзіцёнак сядзіць твой”. А ён кажа: “У твайво дзіцёнка ўжо *ў пузі дзіцёнак трэццяка рэжа*… Яна ўжо забыла то, што ты думаіш… Яны ўжо хлешчэ нас ідзелалі. Ты за мяне чэсная ішла, я цябе чэснаю браў. Сам чэсны быў. А ў цябе ўжо *трэццяка рэжа* ўнук ці ўнучка”.

<*Гэта як?*>

Яна ўжо бярэменная была. “А ты кажыш, штоб я пры ёй не гаварыў…” Яна кажа: “Каця, што-та ён такоя гаворя?” Яна галаву апусціла… Маўчыць… Хліп, хліп – заплакала. “Чо ты плачыш?” – “Мам, у мяне ўжо штось шаволіцца ў жываце”. – “Каця, ці ты адурэла?” – “Мам, я і сама ня знаю”. А яна ўжо бярэмінная, дзіцёнак шэваліўсь. Яна на мужыка: “Міцька, ну што будзім дзелаць?” А ён: “Пытай у яе… Яна ж чэсная ў цябе… Дак папытай у яе… А мне Лукаш даўно казаў”. Яна пазвала старшаю: “Манька, ну што ж нам дзелаць? Ета курвіна ўжо брюхатая”. Дак яна: “Ідзі, да прасі матку яго…” – “Ой, я ж не пайду… Я ўчора з ёй высварылася, дак усяк называла, дак як мне к ёй іціць? Яна мне скажа: “Ідзі…” Ну, усё раўно ж прыпярая. Вот яны ўжо сабраліся, нада ж: “Пайдзём. Што будзь то будзь… Пайдзём, Міцька…” А тэй кажа: “Ідзі… Бяры яе… Як яна давала, так ніхай прося, што хоча дзелая. А я не пайду туды”. Ну, прышлі туды… Ён сказаў: “Нічога ні знаю…” Лёг, дзярюгай прыкрыўся жаніх. А ета кажа: “Ты ж мяне ёрніцай называла, да казала: “*Прыблудная авечка*”. Што я прыблудзілася сюда. Яна з Украіны дзесь... У Чарнігаві жылі... “А прышла прасіць... Што с…-прала, да прышла лізаць”. Дак ужо ўпала і абнімала: “І прасці міня...” Дак ніхай моліцца Богу за свёкра... Дзядзька Касцюк... Ён харошы такі дзядзька: “Ідзіця... Я сам ряшу, што я ряшу, то і будзя”. І сказаў: “Арыно, (ён Арыной яе зваў)... Арыно, ты падумай... А ты падумай, што ты *шкоду здзелаў*... А ты падумай, што ў цябе будзя ўнучак ці ўнучка бегаць – сірата. А ён сабе возьмя другую. Дак ніхай ужо жывуць. А ты нас… – падліжы”.

<*У пузе* **трэццяка” рэжа.** Такая прыказка?>

Да. Ён так сказаў, што вон ўжо прыгая, нагамы ў пузе шаволя, “вон ужо **“Трэццяка” ў пузе танцуя**, а ты кажыш: “Не кажы страмная пры ёй...”

<т**рэццяк** – *гэта што – танец такі?*>

Да, трэццяка... Барыня... Гаворяць: “Ідзі-ка трэццяка ўрэж!...” Ну, барыню... Хлопцы і дзеўкі танцавалі.

<*Чаму* т**рэццяка** *казалі?*>

Казалі так: трэццяк... “А ну, хто пойдзя трэццяка рэзаць? Заіграяць барыню”.

<т**рэццяк** і барыня – адное і тое?>

Ну, трэццяк назаві ці барыня сказаць. А хто скажа гапака. Гапак тожэ танец быў.

Хто барыню пойдзя, а хто: “А ну-ка “Трэццяка” сыграй мне”. Ягор іграя.

<“*Барыня” гэта “Барыня”, а “***Трэццяк***” гэта “***Трэцця***к*”.>

**Ня знаць ні роду, ні прыраду.**

Во як Дзюбіха з Насцяй. Адна другой даказаяць. Адна **ня зная ні роду, ні прыраду** Дзюбіхінага, а Дзюбіха не зная яе. Вот плятуць: "Курвіна! Блядзіна!" Не зная, хто там у раду злодзей ці варюга, ці бандзюга – ну, плахі чэлавек. Усі так гаварылі. Як пачануць: "Такая-сякая! І твая матка такая!" Прырадак – ета прабабы – туды далей. Род – брат, сястра, матка. А ета ўжо дзяды, дзядзькі, бабы – прырадкі ўжо: аднаго-та роду. Прырадкі – дзяды, бабы – ета, ужо ўжо атжытыя. А род твой: матка твая, бацька, брат, сястра. Ты, напрымер, у сям'е пачнеш... Мужык з жонкай ругаюцца: і будзя яна казаць на мужыка, ці ён будзя казаць. А ён тых прырадкаў і ні зная. Будзя баба калісь казаць: "Дак, ён жа воўсі ні зная. Людзі былі як людзі, харошыя".

**Ня мёд.**

Жывецца – **ня мёд**. "Я, – гаворя, – не ўказываю нічога... Есць я вазьму, і ем, і ўсё. А усё раўно, мне слова німа. Што-та дзелаяць. Штоб я сказаў: "Вот ета ня так". – "Замаўчы!" Калісь усі так казалі: "Яму там **ня мёд** (ці **ня сахар)".** Саладзей німа мёду.

**Ня нада пытаць у дурнога розуму.**

Нікалі не пытай у дурнога розуму. Так і я... Было ўрэмя... Атвячала.

**Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца.**

(а) Гаворяць: **"Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца**!**"**

<Ці з лужы п'юць?>

З лужы п'юць. Як прыпрэ табе, сохня, вот высахня язык, *як колік*, дак кажыцца... Ліш бы жажду ўталіў.

(б) **Ня плюй у лужу. Падойдзіш, да ішчэ і нап'ецся**.

Баба казала: "**Ня плюй у лужу. Падойдзіш, да ішчэ і нап'ецся**". І ўсі тады так казалі.

*<Баба так да чаго казала?>*

Вот ты, напрымер, ідзеш… Лужына… Ты скажыш: "Тфу на ету лужыну!.." А пройдзіш, захочыш хоць язык… Песня ж ё: "Ходзяць коні над рякою з апусціўшай галавою// Хоць бы найціць хоць ручаячок, памачыць хоць язычочак…" Падойдзіш, да сербанеш… І то *адвядзеш душу*…

*<Баба ж не пра лужу казала. Пра нешта іншае.>*

Ці што-нібудзь.. Абругай чылавека… А тады ж падыйціць к яму… А як?.. Ты ж яго абругала. Калісь Машы нашае залоўка, да сястра была Каця… На ўсё была маладзіца дастойная: і здзелаць, і пагаварыць… А гарэлка спорціла… Нашла друзей такіх, пашла ў *сіняю парцію*. Дак высварылася… Гуляла з адным хлопцам… Ён сам с Кашубы… Едуць… "Там харашо…" Туды паедуць… "А *куды вароні ні ляцець, дак г… даўбаць*". Дак яна с тым хлопцам гуляла, да і забярэмініла… А калі



аб сваіх моўных паводзінах і моўных паводзінах іншых. На дадзены час гэтая тэма мае вельмі багатую бібліяграфію. У 2012 годзе ў Санкт-Пецярбургу адбылася першая міжнародная канферэнцыя, арганізаваная сумесна Інстытутам лінгвістычных даследаванняў РАН і Еўрапейскім ўніверсітэтам ў Санкт-Пецярбургу: "Народная лингвистика": взгляд носителей языка на язык". Удзел у ёй прынялі даследчыкі з Расіі, ЗША, Швейцарыі, Бельгіі, Францыі, Ірана, Германіі, Вялікабрытаніі, Егіпта, Нідэрландаў. Тым не менш, я дайшоў да гэтых жа высноў самастойна, грунтуючыся толькі на сваіх шматгадовых размовах з Варварай Грэцкай.[4]

*"У каждам сяле і названія, і гаворка, і абычаі".*

*"Гавар**ю** – па-амяленскі, а па-марозаўскі – гавар**у**. Вот у Марозаўцы гаворяць "р**а**бая", усё на **ра**, а ў нас — "р**я**бая". Марозаўка – чатыры кіламетры ці тры з палавінай. У Гуці саўсім другой разгавор. А Пянное, Амяльное, Падкаменне – ета адзін язык. А Барьба – ета маскаллё. Вот у Ветцы, тут тожа ані па-свойму гаварылі. Ні так. Баба Сняжкова, прыду калісь к ім, гаварю: "Баб, ты не па-нашаму гаворыш". Яна гаворя: "Дзе які разгавор, прывыкаіш".*

*"Маскалі гаворяць... У нас гаворяць хочыш, ня хочыш. А ў іх звалі хош, ня хош, а нада дзелаць. Пашка гаворя: "У нас гаворяць: "Хто адкуль? А я здзешні". А маскалі гаворяць: "Хто скуль? А я здзешні". Вот табе і разговор".*

*"Ну, вот у нас гаварылі рябая* карова, а марозаўцы гаварылі рабая, *у нас р**я**туйця, а там р**а**туйцяю. Марозаўка – чатыры кіломітры ат нас. У Гуці па-свойму гаварылі, а ў Неглюбцы тожа ўжо па-свойму. Які-небудзь разгавор, дак яны: "Тутачкі, тамачкі". Ціперь ні знаю, а то ж яны... Яны і ціпер шчэ, во ліжала ў бальніцы з Неглюбкі Ганна. У нас Галя завуць, а ў іх – Ганна. Я гаварю: "Галя, падай-ка ты мне..." Яна гаворя: "Заві міне Ганна". Гаварю: "Падай-ка мне ў халадзільніку..." – Яна там штось брала сваё, ці смятану. Дак яна: "А тутачкі я ня знаю, дзе тваё стаіць". "Тутачкі, тамачкі" – гаворяць. А ў нас гаворяць тут, там. Мы ж гаворыма тут. "А дзе ляжыць?" – "Тут во ляжыць". А то тутачкі ляжыць, тамачкі. А маскалі па-свойму гаворяць. Тутачкі гаворяць у Неглюбцы, а скажы ў нас тутачкі, дак скажуць: "Ты ўжо, як ганачка неглюбская, гаворыш". Я б сказала, напрымер, у сваёй дзярэўні тутачкі, тамачкі, сказалі б: "Во ўжо ганачка!" І празвалі б "ганачка".* <"*Ганакамі"* называюць жыхароў в. Неглюбка. – Г. Л.>

*"Каробкі дзелаяць... Карзіны ж плятуць з лазы бульбу капаць... Яна круглая... Абруч такі, і плятуць з лазы... Дзелаяць рэбры, і лазінкі туды і*

---

[4] Лапацін, Г.І. "Дорага слова сказаць..." / Г.І. Лапацін // "Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Ўсходняга Палесся : праблемы вывучэння і захавання ў постчарнобыльскі час", IV міжнародная навук. канф. (2013, Гомель). IV міжнародная навуковая канферэнцыя. "Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Ўсходняга Палесся : праблемы вывучэння і захавання ў постчарнобыльскі час", 31 мая 2013 г. [тэкст]: матэрыялы \ рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.): Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2012. с. 39-44.

*туды... І яна лёгінькая... Высахня... І* <u>*пачопку*</u> *дзелаяць... І бульбу капаіш, траву свінням ходзіш... Называіцца “каробка”.*

*<Пачопка – гэта што?>*

*“Абора такая. Круглая... І на адзін бачок, і на другі... І на плечы павесіш... Пойдзіш у траву, у грыбы хадзілі з каробкамы... То ж у руках нада несць... Цяжола, а ета на плечы павесіў. Яблакі мы насілі, штоб ня цёрліся, у Злынку, і каробку бралі”.* (Злынка – гарадскі пасёлак Навазыбкаўскага раёна Бранскай вобласці ў Расіі.)

*“У Дзям’янках называлі... Там дзелалі –* <u>*кашалі*</u> *называлісь... З бярёсты... Еслі бальшая бярёза, і яны з бярёзы аблупліваяць тую кажуру, бярёсту, і дзелаяць кашалі – красівыя і лёгкія, і на плячах добра насіць. Мне калісь свякруха дала: “На табе кашэль. Будзіш ягады насіць”.*

*“Сядзяць, разгаварываяць, будуць гаварыць дзень. Пойдуць перякусяць, зноў выходзяць, перягаварываяць небыліцу. А работаць! Ты ж гряду пасадзі! Гаворяць як ідзе. У нас гаворяць “брэхні бряхаць”, “небыліцу перягаварываць”, а там гаворяць “лясы тачыць”. “Што ўжо точыця?” А што за лясы? Я ня знаю”.* (Дзям’янкі – вёска ў Гомельскім раёне Гомельскай вобласці.)

Практычна пра тое самае сведчыць яе сын:

<Маглі адрозніць: чалавек са Стаўбуна ці з Балсуноў?>

“*Да... Нашто нам Баўсуны... У нас Гута... Марозаўка... Ужо ні так гаворяць... Мы чуім па разгавору, што марозаўцы... Рабая... Усё на ра... А ў нас на ря... Дак мы калісь...*

*А нас дражнілі... Як толькі ідуць амяленцы, закружцы, яны: “Рябая карова ўсе хряпкі паела...” А ў іх – рабая, храпкі...Усё на* ***ра.***

*Вазьмі Падкаменне, Амяльное... Эта па-нашаму... Гута, там па-свайму гаворяць... Гаворяць, як пачышчане... І то і так... Пачышчані гаворяць па-інакшаму... Грамычане, пачышчане, глыбаўцы... <Жыхары вёсак Веткаўскага раёна: Старыя і Новыя Грамыкі, Пацёсы, Глыбаўка.> У каждам сяле свая завідзёнка... Сівінцы усё чэ, чэ... Барьбяне па-свойму... Сівінцы ўсі пад адзін лад гаворяць...”*

У яе мове шмат слоў, для сучаснага чалавека незвычайных, магчыма, незразумелых:

*“Гаварылі, напрымер... Баба кажа: “Ідзіця на* <u>*копань*</u> *да палядзіця,* <u>*лодзь*</u> *ляжыць там ці не?” Табе б сказаў “лодзь”. Ты б сказаў: “Што-та за лодзь?” А калісь звалі: “Во ляжыць* <u>*лодзь*</u>*... А тады ўжо пачалі гаварыць, што* <u>*кладка*</u>*.*

*“Многа слоў пазабывата. Калісь жа па-свойму гаварылі... Ня так. А ціпер жа знаіш, папіряменівалі... Калісь і* <u>*губерніі*</u> *былі, і* <u>*воласці*</u>*, а ціперя раёны ўжо”.*



**Ні чорнага, ні белага (ні сказаць).**

“Нагі маёй тут большэ ня будзя...” Я **ні чорнага, ні белага ні атвеціла**.

**Ніякім родам.**

Усё гаворяць: “**Ніякім родам** не скажу”. А аб’ясніць не магу.

**Няважна, што яна бумажна, ліш бы шымацела → Крыва хрома – пагляжу дома.**

**Ня дай Бог свінне рогі, а дураку (хамуту няграматнаму) панства.**

**Ня дай Бог, чылавеку панства, а свінне – рогі.**

(а) Гаворяць: “**Ня дай Бог свінне рогі...** – што ўсіх ба лычам да рагамі калола і парола.. – **а дураку такому панства**”. Чуць дай, дак ён вышвыряваць будзя цябе ў лысіну... Да ідзі на двор.

*<На каго так кажуць?>*

На ўрэдных людзей. Еслі ўрэдны пачане, дак гаворяць: “**Не дае Бог свінне рогі, а хамуту** такому **неграматнам**у...” У нас Ходзька калісь быў, дак падыдзі к яму, ён счас палядзіць: “Марш к ё... мацеры! Прышлі! Усё ў вас жалабы! У мяне сваіх дзялоў!” Дак поўгода пабыў, мужчыны выступілі, здзелалі сабранія, выступілі на сабраніі: “Зняць яго з прыдсідаціляў! *Штоб яго духу не было*! Ён толькі *карманы набівая*. Лесу панавазіў на калхозных конях, тады плотнікаў у выхадныя... У выхадны плотнік бесплатна ідзі работай: хто жэрдкі цеша, хто – палення, хто – рубя... Хату зрубілі на сем аршын... Здзелалі сарайчык, цёлку ўзяў у калхозі. Дак мужчыны гаворяць: “Дак ён скора калхоз ўнічтожа. З калхоза ўсё сабе забірэ”. Дак яго ўзялі і скінулі.

(б) Гаворяць: “**Ня дай Бог, чылавеку панства, а свінне** – **рогі**...”Чаго ж ты не гэкаіш? Акадземіі паканчаў, а не гэкаіш... А ён сам сябе выдзіляя... Ён лучшы ўсіх... А там такі асталоп... Танцаваць ня ўмеў... Ён не панімаў... Другія ж хлопцы... Яны ізразу танцуяць і панімаюць і “Серпіянку”, і “Страданія”... А ён, *як таўкач*... Ён не панімаў... Кружыцца ніхто не хацеў з ім танцаваць... А на язык Грышка – гад...

**Ня знаць, на якоя неба (узлез бы).**

(а) Баба кажа: “Ад горя **ня знаў бы, на якоя неба ўзлез**”. Ад горя... Штоб ужо цішыня і парядак.

(б) Такая прыказка. Усё казалі мужчыны. Такіё ё тузы.... мужчыны казалі: *Стаў тузам, што ў каня па пузам.* Дак ходу німа. На прыдсідаціля калхоза, ці на брыгадзіра... Як станя чуць начальнічкам, дак тады **ня зная, на якоя неба ўзлезць**.

**Ня знаць, на яком падносі...**

Яны там... **Ня знаюць, на яком падносі**... Няўдобіцу тую хочуць скарэе аддаць замуж...

(б) Я яго пытаю: “Ці **ё аўчынка выдзелкі**?” А ён: “**Ё аўчынка выдзелкі**. Я тут тры мільёны палучаў, а там ад сямі да дзесяці”.

(в)[**Грэцкі С.С.**:

**Аўчынка вычынкі ня выдзя**. Эта ж баба усігда... Мол, тока патраціш время, а выдзіт адзін на адзін. А смысл?..]

**Німа (ёй) і прамытай вады.**

Усі так казалі... Ёй там **і прамытай вады не было**. Ета што, можа яна і сказаць, нікакога слова з ёй ніхто ні гаварыў.

**Ні сінь пораху ні дзелаць → Ні засінь пораху.**

**Ні туды ні сюды → Не паймаўшы сокала.**

**Ніхай свет ідзець на нет.**

Дак, можа, пойдзя лучшае пакаленіе... Можа, якія Адам і Ева будзя... Ня будзя п’яніц, ня будзя бандзітаў, убіваць ня будуць... Другоя пакаленія будзя, можа, будуць мірна жыць... Ні войнаў, нічога ня будзя.... А та адно гасударства – так, другоя – так...

**Ніхай у балота ідзець → На сухі лес.**

**Ніхто (па цябе) лыка не завяжа.**

(а) Памрэ, ніхто ні журыцца ня будзя. Ад гарэлкі памёр і *чорт тваю душу бяры*. Ета ўсі калісь. А лык, знаш, што такоя. Лык, вон што дзелаюць лапці. І песня была “Сядзіць бацька на прыпячку, вяжа лыкі Васілячку...”

Ну, праўда. Лыкі – ета, што лапці плятуць. Напрымер, не інцірэсін ты мне, да я пра цябе і гаварыць ня буду. **І лыка не завяжу**. На што ты мне?

<*А чаму* **лыка**?>

Так гаварылі, і я гавару, што старыя гаварылі. І ты б сказаў: “А пра яго **і лыка не завяжаць**”.

(б) Ну, праўда... Ці ем ці ні ем... Ніхто, гавораць, **лыка не завяжа**... Ці ела ты, ці ня ела... Ё такія сем’і... І мужык... Ліш бы сам нажраўся... Ніхто лыка ні вяжа: ці ты ела, ці ты піла, ці ты спала, ці ты ня спаўшая ходзі, ці аддыхнуць нада... “Ці ты ела ты сёдні?..” – “А!.. Ела ня ела... Па мне **лыка ня вяжуць**...”

<*Што, лыка так проста вязаць?*>

Ну што, лапці сплесць? Лапці сплець – ета цьфу, да і ўсё!

**Ніхто ў вочы ня плюня**.

Ігнат тут жыў... “Хай мяне счытаюць, як хочаць, а мне **ніхто ў вочы ня плюня** ні з мужчын, ні з баб...”

<**У вочы ня плюня**... *Гэта як?*>

Ня то шта будзя іціць, скажуць: “Цьфу! Чорт пайшоў!” Харошы Ігнат быў...



І гэта – далёка не адзіны прыклад. Шмат якія са слоў, з мовы, на якой размаўлялі ў Амяльным, ужо на яе памяці спрабавалі замяніць новымі, больш культурнымі:

*“А ціпер вазьмі, сколькі ціпер такіх перяіначывалі... Божа ты мой, Божа!.. Такіх слоў, што чорт іх зная... Пачануць рукавадзіцелі етыя гаварыць... Што чорт іх зная... Што далей развіваіцца, болей і болей новыя словы... Хто прыдумая... Ці я ні знаю. А што етыя нашы разгаворы... Па-калісяшняму... Іх нада забыць ужо...”*

Але нават з цягам часу, калі разуменне новых слоў у людзей яе пакалення не выклікае праблем, старыя людзі працягваюць казаць на сваёй мове:

“*Ціпер ужо так не гаворяць, па-старыннаму. А мы калісь, што нашы гаварылі, то і мы гаворым.”*

*“Раней казалі <u>рассадзіць</u>. Вон: “Рассадзіця!” Ціперь ужо: “<u>Пікіроўку дзелаць</u>”.*

<*Ну, вы ж разумееце?*>

*“Ну, знаіма. Сперва не зналі. Мы былі ішчо дзяўчонкамы. У нас агароднік (аграном – Г.Л.) быў: “Дзеўкі, рассажывайця”. Дак мы рассодзім адзін ад аднаго. А тады прайшло колькі гадоў, прышоў малады агароднік: “Дзеўкі, дзелайця пікіроўку”. Бабы пытаяць: “Што за пікіроўка?” І па-свойму: “Ішчэ хероўку ету... Давайця рассажываць. Ён гаворя: “Пікірывалі?” А мы гаворым: “Рассадзілі”.*

Старыя словы былі зразумелымі і блізкімі праз сваю этымалогію:

*“<u>Лапата</u>, калісь <u>уступ</u> быў. Баба кажа: “Ідзе-та ўступ паклалі?” Во, ступаць і капаць – ета ўступ звалі. Па-калісяшняму.*

*“Ступаіш на лапату, штоб глыбей. Уступ звалі калісь. Ета ж па-калісяшняму. Хтось назваў, і ўсі звалі. Тады ўжо стала лапата”.*

*“Баба не казала: “Ідзе лапата? Шукайця лапату. Дзеці, куды вы дзелі ўступ?” Я гавару: “Баб, чаго-та лапату ўступ звалі?” – “Во нагой жа прыцісківаіш і капаіш. Назвалі ўступ”. Эта калісь ішчэ”.*

“*Масліная... Таму шта вкусна ядуць: і масла, і сыр, і сала, і бліны”.*

Па такім ж прынцыпе ствараюцца і новыя словы:

*“Ідом красць яблак увосень... Во ета сад... А ета канава, і на канаві насоджана густа акацыя, колкая такая... Хлопцы дзелалі, як пасадзілі... Вырвяць, а то ўсплашную, ужо ня пройдзіш тудой, а яны возьмяць павырвяць, і дзелаяць лазейкі такія і тут, і на том баку, і на том... Проціў яблак салодкіх... І мы лазілі.... Называіцца <u>зладзейка</u>... Зладзеі лазяць... Празвалі старажы”.*

Словы, як гэта вынікае з яе развагі, існуюць для таго, каб любы прадмет, любы чалавек не застаўся безназоўным:

*“На ўсё нада прозвішча. Напрымер, кружка стаіць. Яе назвалі кружкай, не назвалі Варкай, а назвалі кружкай. А, можа, нада была другім чым-нібудзь. Як калісь назвалі – то і ўсё!”*

*“Ну, я ні знаю. Так назвалі. Вот цібе назавуць Генадзій – усё, а мяне – Варька... Адарка. Ціперь пашлі Кузьмы да Дзянісы”.*

“*Табе наклалі імя Генадзій, а ёй накладзена Масліная...”*

Тонкае пачуццё мовы дазваляе ёй падзяляць словы на *"чорныя"* і *"белыя"*, *"шаўковыя"* і *"пасканныя"*:

*“Белае – ета харашо. А чорнае – смярцельна. Гаворяць: “Ні чорнае, ні белае...” Калісь бацька наш памёр, мне восем гадоў было, я ўсё плакала па бацьку. Дак баба і кажа: “Ляжыць, ужо ні чорнага, ні белага ні скажа”.*

**Кужэльная Праскоўя Сяргееўна, 1933 г. н., стрыечная сястра:**

”*Ні плахога, ні харошага... Ні пакрычыць на вас, ні пажалея”.*

*“Шаўковая слова. Ці гаварыць красіва, ці вываліць плахоя. У мяне ўжо пяньковая, пасканноя – жорсткая”.*

*“Шаўковыя... Ета ўжо харошыя. Як харошыя словы гаворыш – ета ўжо шаўковыя, ласкавыя. Кажаць, у маткі ўсё шаўковыя... Яна ж будзя і гладзіць дзіцёнка, і будзя ўсё харошая гаварыць”.*

*<А пасканныя...>*

*“Пасканныя – ета ўжо плахія, нехарошыя...”*

*<Нябыльныя і пасканныя – адно і тое?>*

*“Адно і тожа... “Што ты нябыльніцу гаворыш?” Ета ўжо плахія словы”. Вон песня ж ё, што гаворя:*

*“Перваму саўю із шаўкавой травы,*
*А другому саўю із тонкай лазы,*
*А трэццяму саўю із жгучай крапівы...”*

*“Пасканныя словы... Гаворяць: “Ня гаўкай”, – на чылавека. “Ідзі к чорту!” Баба: “Што вы пасканныя словы гаворыця?” А хто кажа: “Худых слоў”... Баба Вольгачка казала ўсё, у Крыўцовых баба была: “Худых слоў, дзеці, не гаварыця”. Худыя – ета ўжо плахія. Вот будзім сядзець... “Ой, бляха!” – будзім гаварыць. Яна: “Худых слоў ня гаварыця”.*

У асобную групу вылучаюцца “нябыльныя” (ненарматыўная лексіка) словы: “*Усі так называлі: плахія словы – **нябыльныя**. Нябыльныя словы не гавары”*. Безумоўна, узнікла спакуса пачуць ад маёй субяседніцы адказ на пытанне: чаму менавіта ***нябыльныя***? У сваіх адказах далей чым *нябыльныя – ета срамныя словы, плахія словы – ета нябыльныя, ці дурныя*



**Нізнайка ўсё на печы сядзіць, а знайка па вуліцы бягіць.**

“Ня знаю, ня ўмею...” А як хто зная багата...

**Ні знаш броду, дак ні лезь у воду**.

(а) Ну, вот ні знаш, а туды лезіш. Ты ж ні знаш: мелка тут ці глыбока.

(б) Ні знаш людзей... Я гаварю: “Ня знаю, якія там людзі...” Ён мне і гаворя: “Вот ета бабка... Ета бабка, харошая бабка... А тая бряхлівенная, хвастуненная... Ета нехарошая”. І расказаў мне пра ўсіх... Вот тады я узнала.

<*А як гэта звязана, што* **Ня знаш броду, ня лезь у воду**?>

Ну, ня знаш броду, глубока там ці мелка – ня лезь...

<*А людзі прычым?*>

Прыказка такая “**Ня знаш броду, ня лезь у воду”.** Так і людзі... Ня знаш, ня будзіш гаварыць... Сёдні з ім пагавары, ён заўтра пойдзя, другому раскажа, абы ён расказаў. Да ішчэ і прыбрэша к тому. Дак лучшэе дзела – не гаварыць.

**Ні к тому берягу, ні к тому.**

(а) Пашка пела:

“Коў-коў ножку,
Паеду ў дарожку.
Нада каня падкаваць,
Штоб там лучшэ станцэваць”.

Яно не дакончана. На каню станцэваць, ці без каня? Я ні пайму. Ня кончаная песня. Ні к тому берягу, ні к тому. Як паняць яе? Нада якісь пачатак і канец.

(б) Ну, вот гаворяць... Ты здзелаіш, ну , няправільна, і гаворяць: “Здзелаў ні к тому берягу, ні к тому. Склычыў, да і ўсё.

(в) Я хоць і пачую, паляджу... Нядобра... Ні к тому берягу, ні к тому... Я сама перядзелаю... Бачу, што пачануць з аднаго, канчаяць другую... Песня даўжна быць... Напрымер, “Шыла Маша, вышывала...” Яна і да канца, што случылася, тый памёр жаніх, яна другога найшла... Штоб быў парядак...

**Німа аўчынкі выдзелкі.**
**Ё аўчынка выдзелкі.**
**Аўчынка вычынкі ня выдзя**.

(а) <*Сяргей сказаў:* **Німа аўчынкі выдзелкі...**>

Ета прыказка... Вот дзелаіш што-нібудзь... Дак усі так казалі: “**Німа аўчынкі выдзілкі**... што-нібудзь дорага... Пераплоціш... Матка пойдзя ў Свяцкую прадаць... Мы гаворым: “Мам, ідзе даражэй, ідзе дзешавей?” А яна: “**Німа аўчынкі выдзілкі**. І тут такая цана, і там такая цана. Толькі туды ішчэ нада даехаць... Да ўрэмя... Хай трошкі дзешавей... Да бліжай... Я прадала, да і дома...” І ўсі так казалі... Ета ж усі знали... І Сярёжка (унук) так гаворя...

**Не глядзець ні стыда, ні совесці → Век пражыць – не каробку сшыць.**

**Ні грошай, ні вошай → У бедным калені жыць.**

**Ні дзень ні ноч ні ўнімая (каму-небудзь, каго-небудзь).**

У нас Мельчыха калісь... Я прымер табе прывяду. Калі яна спала? І ноч будзя прясць, і печ ужо ўдосвітку... Яна прыходзя, толькі нашы ўстануць, яна: “Я ўжо печ вытапіла!” Матка гаворя: “Табе **ні дзень, ні ноч ні ўнімая**”. Усё работая і работая. Калісь дзед Белы гаврыў: “Маю Веру **ні дзень, ні ноч ні ўнімая**. Вот паляджу, ходзя ўжо, печ топя...”

**Ні жуй, ні кусай, а толькі бровы падымай.**

Калісь усё: “смашна” – “ні смашна”. Матка паставя, што ўжо ёсць. Ягор будзя сядзець: “Мама, давай прысёрбкі!” Драчоны з салам, а давай яму ішчэ і малака, а хоць сыраквашы. Матка: “Ты ня прыглядайся! Ня трэбуй ішчэ прыкускі. А ты **ні жуй, ні кусай, а толькі бровы падымай** да глатай!” Ён пачане: “*Ня лезя*, мам, *у глотку*. Давай мне сыраквашы!” Хай цячэ... Там, ці сала, ці масла з драчонаў, усё раўно, яму дай прысёрбкі.

**Ні за крупы, дак за сала, ліш бы толькі па яго стала.** Гл. таксама: **У харошага мужа і чуліндра жана.**

Гаворяць: “**Ні за крупы, дак за сала, ліш бы толькі па яго стала**”. Будзя настаіваць. Можа, і няпраўда, а ўсё раўно будзя казаць: “Нет, так!” Вот ета і прыказка такая.

**Ні за нюх табакі.**

(а) <*Сяргей сказаў:* “**Ні за нюх табакі** хлысты прывёз”.>

Я гаварю: “Лес ціперь дарагі”. – “А я сумеў здзелаць”. Хлысты – голыя, без галля.

(б) На базары... Калі хто прыдзя... “Ну, пачом прадаў?” – “А навязлі багата...” Чаго-нібудзь... Тады ж і скаціну... “Аддаў **ні за нюх табакі**...”

**Ні з кожы, ні з рожы.**

Гаворяць: “**Ні з кожы, ні з рожы**. А яна *ваду варя*, да і ўсё”.

**Ні засінь пораху.**

**Ні засінь пораху** ні бярэцца. Ні за што ні бярэцца. Гаварылі: “**Ні за сінь пораху** ні бярэцца... Ну ні за што!”

<*Вы сказалі: “Ён* **ні бярэцца за сінь пораху**”.>

Ета ўсё калісь казалі... “Што ты?..” – “А не бралася ні .. Сёдні **ні сінь пораху ні дзелала**. **Ні сінь пораха ня дзелала**”. Сёдні Райка прышла... Я гаварю: “Што ты там дзелала?” – “**Ні сінь пораха**...”



*словы* яна не пайшла. Разабрацца ў гэтым дапамагаюць іншыя жыццёвыя сітуацыі з ***нябыльным***: “Муж і жонка пасаветуюцца, штоб ***небыліцу*** не купляць. Грошы штоб ряшыць, талковая купіць...” “Сядзяць, разгаварываяць, будуць гаварыць дзень. Пойдуць перякусяць, зноў выходзяць, *перягаварываяць небыліцу”*. Відавочна: ***нябыльнае*** *– нявартае*.

Тым не менш, з успамінаў Варвары Аляксандраўны становіцца зразумелым, што людзі старэйшага ўзросту не садзілі дзяцей на “моўную дыету” (тэрмін – Л.В. Успенскага). Нябыльныя словы траплялі ў дзіцячы лексікон праз сваю вонкавую (гукавую) прыгажосць:

*“Калісь наш Ягор прышоў і кажа: “Баб, я сённі плахія словы прынёс!” – “Які́я? Быльныя ці нябыльныя?” Ён: “Паслухай!” Баба: “Ну, гавары”. Ён: “Ёб тваю дусю маць!” Яна: “Дзе ты разжыўся такіх слоў?” І матка сядзела. Матка абору ўзяла. Ён: “Мам, ета плахія словы?” – “Плахія. Дзе ты раздабыў?” – “Я быў... Жэрдкі цясалі мужчыны, дак дзядзька Церях сказаў такія словы. Яны красівыя... Вот мацюкнулі, яму панаравіліся. Ён прышоў, бабі расказаў”. “Панаравілась” – тут вельмі істотна”.*

*“Як узрослыя гаворяць... Ціпер па-культурнаму... Паперяменівалі... А тады дулі... Як бальшыя гаворяць, так і малыя. Наш калісь Ягорка... Мацюкне дзед Майка, ён прыдзя і кажа... І Хвілька быў... І Сяргей быў малы... Пойдзе... На базе мужчыны жэрдкі цешаць, стойкі – што нада ў калхозі... Плотнікі... І мацюкаюцца... Што-нібудзь расказаваяць, як сядзяць. Ён прыдзя, во калісь Сяргей малы быў... Прыдзя і кажа... З Соніным пабягаць... Прышоў дамоў: “Мам, я новы мацюк навучыўся”. А мы з Сяргеям Соніным бегалі... Хвілька мацюкаў”. – “Як жа ён мацюкаў? Што ён казаў?” – “Ёб тваю гроба маць!” Я гаварю: “Вот у гроб мацюкнеш, ужо ня будуць класць. Тэй гроб ужо плахі. І ня нада так казаць”. Перянімаюць дзеці ўсё. Яны ў ряд з намы жылі... Малая была... І дзеці ж... Куды папала... Ідзе яна пачула? “Надзька, дзе ты пачула?” Мужчыны там... Што яны дзелалі... Яны сказалі... Ідзець і гаворя: “Ой, паячка, ты хуяячка! Ой, паячка, ты хуяячка!” Карма прышла: “У хаці бегая, прыгая і гаворя. Я гаварю: “Штой-та ты такоя гаварыш? Ета плахоя слова”. – “Вон гаварылі...” І пакуль ахоту не сагнала... Ходзя дзень... Хоць ты яе... “Я, – гаварю, – яе атлуплю... Яна будзя сядзець ціхонька, зноў ета паўтаряць”. Дзеці ж... Перяймаяць і гаворяць”.*

Разам з тым, такая ўспрымальнасць дзяцячай натуры зусім не віталася прадстаўнікамі старэйшага пакалення. На прыкладзе сям’і Грэцкіх гэта відавочна:

*“Усё баба казала і матка: “Нябыльныя словы не гаварыця”.*

*<Як етыя песні завуць:* ***срамныя, ліхія, нябыльныя****?>*

*І так, і так...* ***Нябыльныя****, ё* ***нябыльныя****... І* ***гадкія*** *кажаць..”.*

<Нябыльнае слова – гэта якоя?>

*Ну, які́я страмныя. <У вас іх называлі “нябыльныя”?> Нябыльныя”.*

*“Ці ўкрадзіш што-нібудзь... Душу ў ад пускаіш... Ці хто мацюкне, дак душа ў ад ідзе. Як нехарошае што-нібудзь здзелаіш – ужо ў ад ідзець. Калісь баба наша казала: “Два празнікі ў гаду...” Ета Юрый-Ягорый і ходзя на Маслянай нядзелі – Уласкі... дак дужа ўрэдны ён. “Дзетачкі, нічога ня дзелайця, прагуляйця тэй дзень і скаромных слоў, нябыльных не гаварыця. Ета вялікі празнік... Адна мінута і ўсё спорця”. У гэтым плане сям’я Грэцкіх была культурная: “Наш бацька вабшчэ не мацюкаў. І быў прыдсідацілям калхоза. Другія прыдсідацілі, знаіш якія… А ён спакойны быў. Усі казалі: “Сашок, ні кідай нас…”*

*“Як двары гаворяць, і дзеці так вучацца... Наш малы кажа: “Такі смешны хлопчык у... Тры гады, дак папытаіш у яго: “Андрюша, ідзі спаць”. А ён кажа: “Хуячкі... Я не пайду”. Мы ўжо рягочым. Я гаварю: “Для вас ета смешна? Ета красіва? Як вы думаіця? Ён пойдзя ў садзік. Васпітацільніца скажа: “Ідзі туда...” А ён скажа: “Хуячкі... Я не пайду..” Каму стыдна будзя? Бацькі і матцы. Скажаць: “Вы ж навучылі”. – “Хто яго вучыў?” – “Ну, ён жа з кнігі ня вычытаў. І ўчыцель яму ні сказаў: “Етыя словы пішы”. А ён пачуў, як вы... Скажы так і так, а дзіцёнак, ён раз пачуя, два... Усё!.. Зацямя... Для вас смешна, а будзя етаму Сашку... Ён сабярэцца і паедзя на Гомель работаць, а яна павядзе ў сад, яны скажаць: “Забірай свайго, штоб ён “хуячак” тут не казаў”.*

У большасці нябыльныя словы захаваліся ў фразеалагічных адзінках, альбо як вызначае Варавара Аляксандраўна, “прыказках”. [5]

*<Бываюць прыказкі з нябыльнымі словамі. А калі выкінуць нябыльнае слова?>*

*“Нільзя ж... Гаворяць, із песні слова ня выкініш... Як яно ўжо гаворыцца... Ці пяеш, дак ужо ня выкініш... А выкінь... Ня то будзя...”*

*<То песня... А прыказка...>*

“І *з прыказкі ня выкініш ужо... Як нада, дак яго патрябляіш..”.*

*<Каму нада?>*

*“Хто прыказку гаворя, і слова ўмесці скажа з прыказкай... Тоя самая і плахоя скажа...”*

Своеасаблівыя развагі ў Варвары Аляксандраўны — пра тое, што мы назвалі б камунікатыўнымі ўласцівасцямі мовы. Мова даецца чалавеку для таго, каб мець зносіны з іншымі людзьмі, каб выказаць сваё самае патаемнае, каб выказацца, падзяліцца думкамі і клопатамі, улагодзіць душу:

---

[5] Лапацін, Г.І. “Хто прыказку гаворя, і слова ўмесці скажа з прыказкай...” / Г.І. Лапацін // Славянская фразеология. Синхрония и диахрония. Сборник научных статей. Вып. 2. Гомель, УО “Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины. – 2014. С. 152-155.



Яна: “Хто хоча святых вечароў... Ета нерабатні ўсё... Абы выгуляць...” Вот яе і празвалі: “Хто-та ідзець?” – “Парасся Святоха”. Яна прыдзя: “Сёдні нільзя дзелаць. Сёдні – свята”. Дак яе Святоха прадразнілі. Людзям жа толькі скажы, яно і пайшло.

**Несмашнае не глытаіцца, а смашнае не плюваіцца.**

Вот возьміш ты горкае, што-нібудзь нісмашнае, да ты яго плюніш да і ўсё, на чорта яно, а смашнае ня выплюніш, патаму шта яно смашнае. Плюнь кахвету, як яна смашная, ці пірог...

**Не ўзяцца за парушыну.**

Ну, ты прасядзі, напрымер, а будзіш даказываць мне... А **за парушыну не ўзяўся**... парушыну істронуць... Ты не ўзяўся, парушыны нідзе ні скінуў.

**Неўма скольки.**

Тады цыгані часта ездзілі. Дак я абняла іе, пацалавала. “Мы прыехалі. Ну, давольна ты нашым, што гаманілі, што я шаптала? Табе было здзелана. Ты бярэменая ходзіш, а штоб яны на хаду заміралі”. Я гаварю: “Жывіця, **неўма скольки**! Снег ці холад, прыязжайця ка мне”. Дак яны багата раз заязжалі. Гады чэряз два-чэряз тры.

**Неўма што → Галава садовая чэрятам крыта; Еш, пакуль рот свеж.**

**Неўма якоя → Рука об руку ладзяць.**

**Ні вашэй, ні кляшчэй.**

(а) На беднага гаворяць. Бедны чылавек. “А-а-а! Там **ні вашэй, ні кляшчэй** німа!” Ё такія ў нас. Такія людзі беззаботныя, аны пра заўтряга ні падумаюць: сёдня пад’ядуць і добря. Усё наша баба казала: “Ета людзі – **ні вашэй, ні кляшчэй**. Ета людзі сёдняшнім днём жывуць. У нас калісь Краўцовы былі. Ета такія бочкі здаровыя былі: паначыняюць гуркоў і капусты. Пост, а ў іх ужо німа. Столькі памногу елі. У нас гуркоў шчэ поўбочкі ні паелі, а ў іх ужо німа. Ужо пашлі па дворах. Бульбу зваряць: “Дзеці, не з чым есць! Бягіця!” Вот прыдуць к табе: “Ісакавіч! Дай расолу нам!” Яны гуркоў не пытаюць. Дай хоць расолу з глёкам. Ты скажыш: “Німа!” Гуркі будуць сохнуць на версе. Ад цябе пойдуць у другі, і так у кожды двор. Ходзяць па дварах. Баба казала: “Госпадзі! Во ўжо людзі! Німа **ні вашэй, ні кляшчэй**. Нічога німа”.

(б) Эта баба наша ўсё казала. Во прыехаў там адзін: “Я паеду! У зарабаткі, так прыеду ва ўсём кожаным”. А баба наша гаворя: “Сашка, ты прыедзіш адтуль, ні будзя **ні вяшчэй ні кляшчэй** – нічога ня будзя. Вот паглядзіш. Ты бяспутны”. Ён прыехаў – нічога… Дажа папіросы тыя…

Да, з залатой гліны злеплена... Харошы чылавек, вумны... Усі так казалі: “О, ета **– з залатыя гліны злеплена**”. Во ў Пашулі была свякруха... Яе хвалілі... Яна і ў магазіні таргавала, вумная была і рабацяшчая, і Богу малілася... Яна ўсё была маладзіца...

<*Ці бывая* **залатая гліна**?>

Залата гліна... Я ні знаю, ці не... Гаворяць, *залатая гліна*... Калісь дзед Жаваранка казаў: “Ой, Грэцкая! Цябе, **не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш”**. А яна гаворя: “Правільна... Вот нада, штоб усі пальцамі ўказалі: “Вот ета пашла хто?” – “Грэцкая!..”

<*А як гэта:* **не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш?**>

Ня возьміш... Вот калісь сабраніі былі... Матка ўсягда: “Вот ета ня так... Нада так... Яна ім падсчытая...” Яны: “Правільна...” Скрозь на нашу матку казалі: “Цябе **не памазаўшы рукі, сухімі ня возьміш..**.”

Ня возьміш... Вот калісь сабраніі былі... Матка ўсягда: “Вот ета ня так... Нада так... Яна ім падсчытая...” Яны: “Правільна...” Скрозь на нашу матку казалі: “Цябе **не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш**...”

**Не па-свойму крычаць.**

Падаждзі! Як ты Івану ў *стылыя вочы* паглядзіш, вот тады ты **не па-свойму закрычыш.** – Чаго? – А паглядзіш... Ета Іван палучая сімсот пійсят. І ты палучаіш. А як ня будзя Івана, дак палучыш і будзіш счытаць.

**Нерабацень святых дней шукая (пытая).**

(а) *У п’яніц і нерабатней усі дні святыя*.

*У нерабатня ўсе дні святыя*.... Нерабацень і ў будні дзень ляжа, ляжыць колам, ні спіхнуць яго на работу... Таму шта ён ня хоча работаць... І ў будзен дзень, і ў празнік... Яму б кажды дзень былі б празнікі... *Душэ празнік*... Во вып’е... Гаворяць: “Што ўжо *душэ празнік іздзелаў*? Во *распусці карэнні* і ляжы на печы..”

<*А чаму* **святыя дні** *называюцца?*>

Святыя дні... У *святыя дні* усё ж не работаюць... Баба: “Паабедайце і гуляйце... Сёдні *святы дзень*...” Во песня ё:

– Верабейка чубаценькі,  
Ці не бачыў ты гавядзенкі?  
– А я бачыў, а я бачыў, да й ня дам,  
А схаваю гавядзіну к Калядам.  
А ў Каляды святы дзень, святы дзень,  
Буду ляжаць, да есць гавядзіну цэлы дзень

(б) “Баб, калі-та будзя свята?” Яна: “**Нерабатні ўсё святых дней** пытаяць да *святых вечароў*”. У нас калісь была ў дзеда Жаваранкі дзве сястры. Адна – Гарпінка, дак яна на Падкаменні замужам была. У яе чатыры дзеўкі былі. Парасся была – самая меншая. Устае і кажа: “Калі-та *святыя вечары*?” Яна: “Сядзь! Толькі святых вечароў пытая”. Прясць жа ня хоча. А толькі пайці, да пагуляць. Прыдзя к суседзям, ці к Козырыхі пагуляць, ці к нам. І пытая: “Цётка Алёна, калі-та будуць святыя вечары?”



*“Як слова пусціць на вецер, дак лучшэ яго ў карман пакласць. Наш Ягор ажаніўся, с Танькай жыў, а мне казаў: “Нікалі, Варька, нільзя мужыку праўды казаць жонцы. Чуць сварка, яна табе па бяльмах будзя сеч. Дак лучше, як слова пусціць на вецер, дак лучшэ яго ў карман пакласць”.*

*“На то Бог язык даў... А вот чаго толькі чылавек на адном языку гаворя? А ніхай бы і скаціна гаварыла, і пціцы... Дак не... Гаворяць, у іх языка малінькага німа, вот за то яны гаварыць ня ўмеюць”.*

*<А калі б яны ўмелі гаварыць?>*

*“Гаварыў бы з імі. Інцірэсна б было. Так яны ўмеяць. Вот скажыш на карову: “А ну-ка, на места! На места ідзі!” Яна і пойдзя на места. Авечкі – ета глуш. І сабаку вазьмі. У нас калісь сабака быў. Немчык звалі. Выдзіш, карову завеш, ён з будкі ня вылезя. Не яго завуць”.*

*“Чуж чужына – ні радня ніякая, ні дваюрадная, ні траюрадная, ні чыцвяраюрадная, ні пяціюрадная – ніякая. Проста ён сам быў із Літвы – літовец, а яна – беларуска. Проста пазнакомілісь. І вот яны дружаць і дружаць, як свае. Радныя так ня будуць дружыць. Чуж чужына, напрымер. У нас усі так казалі. У нас дзед Майка казаў: “Куліна, ты ж на міне не ругайся. Я ж паехаў у Амерыку, там – чуж чужына. Не было ў міне нікога свайго. Я там з адной маладзічкай падружыўся. Я з ёй прыду, пагавару, і тым даволен, што я з ёй пагаварыў”.*

*“З другім пагаворыш – дак* ***душу адвядзеш****. А з другім, дак можна разазліцца”.*

Адсюль і людзі падзяляюцца на тых, “з кім пагаварыць, як вады напіцца”, і на тых, каго клянуць, жадаючы яму пазбавіцца дарунка гаворкі:

*“Другі чэлавек прыдзя гуляць, дак ўсё баба гаворя: “Ну, вот чэлавек. З етым чэлавекам пагаварыць, дак як вады напіцца. А другі прыдзя, меля бряхню, а еты чылавек – як вады напіцца. Як вот вады хочыш напіцца, аж душа баліць. Ета прыказка такая”.*

“*Ета хто брэша... Дак усё кажаць: “Штоб табе ўжо язык адсох!” Ці вот пачане ругацца... Ета наша баба... Як пачане баба Іванюшкава, яна: “Вой, Куліна,* ***штоб табе ўжо язык адсох****, як ты клянеш ні за што етых дзяцей”. Хто-нібудзь шкрабне Ліду ці Пецьку, яна тады ўжо”...*

Па-свойму ў Амяльным ацэньвалі чалавека па ўменні казаць правільна, дакладна вызначаць свае думкі. Адгэтуль і такія вызначэнні як:

“*Чалавека відна па славах. Вот ён гаворя бряхню. Ужо ж чутна, што ён ужо брэша. Во наш Сяргей пачане... Я яму гаварю: “Закрыйся! Ета ты ўжо пайшоў у розмазь”.*

<*Што значыць* **пайшоў у розмазь***?*>

*“Ну абы што ўжо гаворя. Казала баба наша... Наш Ягорка быў, ён ня любіў урозмазь кашу. Счас кашу зваряць, ён ложку возьмя, прыдзя... Баба памяшая: “Ну, во кашка зварылась... “ На прыпячак становя. Ён счас*

*падойдзя: “Баб, выцягні кашу!” Гадоў восем яму была. “Нашто кашу выцягіваць?” – “Выцягні! А то счас буду крычаць на ўсю хату!” Яна: “Што, наліць кашы?” – “Без цябе знаю!” Ложку возьмя, паварачыя: “Еш сама! Урозмазь я есць кашу ня буду!” – “Дзеўкі, будзіця есць урозмазь?” Я буду казаць: “Еш сама. Ты наварыла, дак еш сама. Мы ня будам. Налей нам жыдкае”. Яна тады малака… Яна не густая ні жыдкая – урозмазь. А туды малака валле, жыдзей здзелая... Ета нам харашо. “Ідзіця пакушайця”. – “Вот, баб , ета мы будзім есць”.*

<*Пра кашу зразумела, а* **гаворыць урозмазь**...>

*“Абы-што гаворя.... Ета – як каша ўрозмазь”.*

*“Гаворяць, вот гаворя, як піша ўсё раўно... Вот другі выдзя на трыбуну, ці на сабраніі... Будзя гаварыць, як піша... Спакваля... У нас Парукаў быў... Не ляпіў: тра-та-та... Штоб панятна ўсім было... А другі сакоча, як піша на машынку...”* (Парукаў Павел Пятровіч – с 1959 г. па сяр. 1970-х гг. старшыня мясцовага калгаса.– Г.Л.).

Падчас нашых размоў на самыя розныя тэмы ў гаворцы маёй субяседніцы ўзнікалі як непасрэдна фразеалагізмы, так і іншыя адзінкі фразеалагічнага накірунку. Неабцяжараная ведамі ў галіне фразеалогіі і парэміі, усе ўстойлівыя выразы, што сустракающца ў яе гаворцы, а гэта: прымаўкі, клятвы, праклёны, пажаданні, рытуальныя канстатаванні і іншыя ўстойлівыя выразы, ад словазлучэння да невялікага (дзве-тры рэплікі) дыялогу, якія яна сама вызначае як “прымаўкі”, прычым як “векавыя”.

“*Калісь бабы і дзяды гаварылі, ад сваіх дзядоў і бацькоў слухалі. І ім гаварылі. У прымер і гаворяць прыказкі етыя. К разгавору тую, тую. А бабы нам гаварылі, мы чулі, як дзяды гаварылі. Так справеку веку ідзець. Адзін аднаму...*”

І, у вышэйшай ступені прадметна Варвара Аляксандраўна вызначае як прыроду іх утоенага існавання ў мове, так і аказіянальную прыроду рэалізацыі ў гутарцы свайго фразеалагічна-парэмічнага запасу:

*“Дак ета ж к разгавору такоя. Не пачала б гаварыць... Можа, іх у міне чорт зная колькі. Як часта будзем гаварыць, дак яны ўсе павыкажацца”.*

*“Усякія прымеры ё... Усё ўзята із жызні: і песні, і казкі, і кнігі, і газеты, і прыказкі... Ета ўсё ўзята із жызні...”*

*“Усяму ё прыказкі... Пападзецца к разгавору, яна сама выскача... А так уздумаіш, не прыдумаіш...”*

*“Людзі з горя прыказкі выдумывалі і з дабра... Яны складалі...”*

*“Дак етага ў міне на языку... Што-нібудзь буду дзелаць... І на ката што-нібудзь скажу, тады забываю. Кот у нас – злодзей”.*

*“Ці іх напамяць усі знаіш? Ета прыдзіцца к разгавору, дак гаворыш”. Ці- та ўсі будзіш помніць прыказкі?.. Іх – мільён на свеці”.*



сястры мужык, матка гаворя: “Дзеда там харашо падчубрыця, а то казаў: “Плахая свадзьба”. Дак ён сядзеў, сядзеў – і пад стол. Назаўтряга прышоў, матка: “Ну, як свадзьба?” – “**На яць**! Ня помню, як дамоў мяне дацягнулі. Ачнуўся ў сваёй хаце”.

(б) Дзед хваліў... “**На яць**”... Як мост памыіш, ці што... “Хто мыў сёдні? **На яць** вымылі мост”. Ці хто хату мёў... “Хто мёў хату?..”

**Не завідуй ні на харомы, ні на цярёмы.**

Калісь жа усё казалі: “**Не завідуй ні на харомы, ні на цярёмы**, а завідуй на здароўе. Як німа здароўя...”

**Не зладзіць, як з ірадам → З горям папалам.**

**Не паймаўшы сокала, пер’е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі.**

Баба наша ўсё казала. Хлопцы ходзяць, нас жа тры было: Маша, Туся і я. Дак Касцюк ходзя к Тусі. Мы замужам былі, а к Тусі – хлопец. Я гавару: “Вон ужо зяцюля ідзе!” Баба: “Мая ты унучачка, **не паймаўшы сокала, пер’е не скубі**! Ета ішчэ ён *ні туды ні сюды.* Ходзя хлопец – і ўсё.” Калі вячэраім: “Касцюк, хадзі вячэраць!” А матка: “Нечага карміць загадзей! А то сёдня будзя хадзіць, а заўтра... Да і пойдзя. А ты *аставайся, Саўка, са сваім таварам.* **Не паймаўшы сокала, пер’е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі.**

**Не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш.**

<*Так толькі дзед казаў на матку* **не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш**?>

На ўсіх гаворяць: “О, то, брат, **круты чылавек**! **Не падмазаўшы рукі, не падыходзь к яму**... *Круты чылавек*... Вумны... Ён *зная навылёт усё*...”

Казаў дзед пра матку: “Ты *з залатыя гліны зляплена*!” Яна вумная была.... І вумная, і рабацяшчая... Харошая была матка... Яна і ў магазіні таргавала, і кароў даіла, і свінней даглядала, і нас расціла... І ўсі казалі: “Прападзёш!...” Калісь былі такія задзіры: “Прападзёш ты, Грэцкая! Німа ўжо ў цябе *каменная гары*...” Мол, бацька памёр... А матка і кажа: “Не! Мае дзеці хлешчы вашых будуць хадзіць...” І праўда!.. Яна ў магазіні... Прывязуць... Матку ж ня любяць... Яна гаворя: “А я сваіх дзяцей перва надзену...” Тады ж тавар які послі вайны?.. Дак што прывязуць, яна ў сяльпо набярэ, прыносіць дамоў... Яны: “Будзім па ведамасці, па накладной...” Яна: “Хоць і ў с... паглядзяць! Я знаю, як дзелаць...” Там *ёй***,** у сяльпо, *усе вянцы*... Набярэ... “Во ета, глядзіця, па ведамасці... Яно ляжыць... А то шта я набрала ў сільпе, ета нікому, ні чыё ня дзела...” Дак мы нарядна хадзілі... Ну, сіццавая было... Я дзяўчонкай была послі вайны, дак хадзіла нарядна...

<**З залатой гліны...** *Гэта так хвалілі?*>

**На языку баўтаіцца.**

**На языку баўтаіцца**, ні магу ўспомніць. Хочыш сказаць, да ня знаіш...

**На язык толькі ўзяць.**

У нас так гаварылі. Дажы на язык... Я **на язык толькі ўзяла**: толькі пакушала: смак які? Язык жа смак дае.

**На якой тайнай вячэры ты быў?**

**Тайнаю вячэрю дзелаць.**

Ета я на Паўла казала: “**Ідзе ты на тайнай вячэры быў**?”

Думаю: Дзе ж ён адзін быў?” То ж ён з Надзькай ходзя. А то прынёс канхвет штук пітнаццаць... Я гаварю: “**Дзе ж ты на тайнай вячэры быў**?”

<*Такая прыказка?*>

*Тайная ж вячэря* была. Ісус Христос быў. А Павел гаворя: “Ты ж яе і прыбіряла, і начавала, і ўсё дзелала, прышоў к табе, ты ня дайдзіш, дак я прынёс і выпіць, і закусіць”. <*Маецца на ўвазе жонка Паўла, якая памерла.*>

<*Калі так казалі пра* **тайнаю вячэру**? *Баба так казала? Матка казала?*>

Як хто... Туся наша любіла... Вячэря варыцца, бульба, яна яе ня жджэ. У нас на хаці сала было, стаяла кадушка, зімой. “Туся, вячэря!” Яна сабярэцца: “Я ня хочу вячэряць!” Ну і: “ня хочу!” і “ня хочу!” А баба гаворя: “Полька, яна прыдзя, каржа з’есць, і ўсё”. Мы вячэряім бульбу гарячаю, там што, матка... Па крошаццы сала дасць нам.. Капуста, гуркі, з яблакам кіслым елі. А тады агледзілі: “Што такоя? Туся... Як вячэря, яна ня йдзе”. А яна... Хвацілісь нажа... Німа... Я гаварю: “Ідзе той нож дзеўся?” І я чую: хтось, уродзе, ходзя па паталку. Я гаварю: “Мам, хтось па паталку ходзя”. Яна: “Можа, каты гайсаяць?” Я гаварю: “Ня знаю”. І думаю: “Палезу-ка я паляджу”. Лесвічка. Па лесвічкі палезла. Паляджу: кадушка стаіць, яна сядзіць на мурлаціні і разгаўляіцца. Я ціхонічка ізлезла, прышла гаварю: “Мам, Туся знаіш, чаго вячэряць ня хоча?” Яна: “Чаго?” Я гаварю: “Вон разгаўляіцца, як на Вялікадня, адна. Сала ляжыць, скібка хлеба тоўстая, нож. Яна рэжа, колькі нада”. Яна: “Ах! Я счас іе накармлю!” Яна палезла і кажа: “Што? Ужо **тайнаю вячэрю дзелаіш**? Гасподзь Бог **тайнаю вячэрю дзелаў**. І ты – **тайнаю вячэрю...** Затым ты і вячэряць ня хочыш? Усё!” З тых пор вячэряць стала. Бульба варыцца, яна ўжо... Матка і кажа: “Ну, што? **Тайнаю вячэрю** прэкраціла. Дак ты і вячэрю нашу стала есць. А то ўсё бегаіш: “Ня хочу есць!” Ета ж Бог дзелаў тайнаю вячэрю.

**На яць.**

(а) Казаў дзед Майка на матку, Тусю аддавалі: “Ну, як Палашка... Плахая свадзьба твая”. А матка гаворя: “Чаго?” – “Помню, як дамоў ішоў. Як мяне вялі, я помню. Ішчэ не хацеў ісціць, думаю: “Ішчэ рюмак бы шарахнуў”. А мяне прывялі. Матка гаворя: “Ну, сёдня ўжо ня будзіш знаць, як прывядуць”. – “Вот так я і хочу!” Мой хрёсны і большай маёй Машы



*“Як гаворыш, дак яно.... Што не гаворыш... Яно і забыта. Калі б не гаварыла пра свадзьбы... Яно б і не ўздумалася”.*

*“Калі б дзеда Майку можна, як Брэжневага, перявярнуць другім бокам, сказаць: “Ну-ка, Брэжнеў, паднямайся, кіруй!” І так дзеду сказаць, дак ён бы табе за дзень сто штук змяніў. У тога на каждам языку прыказка. Ён памятлівы дзед”.*

<*Што значыць:* **на каждам языку прыказка**?>

*“Во кот прабягіць, ён возьмя і на яго скажа прыказку”.*

*“Колькі забытых етых прыказак, дак калі б табе тыя дзяды... Дзед Майка да дзед Белы, дзед Жаваранка, дзед Касцючкаў... Суседзі нашы... Харошыя былі дзяды... Па вячарах сядзелі...”*

*“Харошаю пагаворку прыдумалі добрыя людзі”.*

*“Прыказка ў разгаворы якая пападзецца... То адзін мужчына скажа, то другі...”*

*“Прыказак багата, толькі яны гаворяцца к толку, к разгавору якому...”*

*“У нас дзед Касцючкаў, казала баба: “Ты зліўся, спёкся і зварыўся на прыказках”. А ён на каждай табе прыказку здзелая”.*

<*А як гэта:* **зліўся, спёкся і зварыўся**?>

“*На каждым слові ён будзя табе прыказку гаварыць... Находзя. Ці ён сам выдумая...”*

*“К разговору і ўздумаіцца... Колькі іх забытых... К разгавору не прыходзіцца, дак яна і залеплена...”*

*“Каму якоя слова на язык упадзе”.*

Такім чынам вызначаецца аказіянальная прырода рэалізацыі фразеалагізмаў у мове маёй суразмовіцы. Вымалёўваецца наступная карціна: фразеалагізм спакойна існуе ў прасторы яе мовы да таго моманту, пакуль у яе жыцці не ўзнікаюць падзеі, роўныя тым, калі яна ўпершыню пачула яго. У свой час на прыкладзе байкі, якая разумелася як разгорнутая прымаўка, дадзеную сітуацыю разгледзіў А.А. Патэбня, зазначыўшы: “Калі ў нашым жыцці адсутнічаюць выпадкі, да якіх мы можым прымяніць байку, то мы не зможым адчуць яе годнасць; і калі мы жадаем ацаніць яе годнасць, то мы павінны адшукаць у сваёй памяці такія выпадкі, да якіх можна прымяніць яе”.[6] Такіх выпадкаў у маёй субяседніцы – вялікая колькасць, і ўслед за А.А. Патабнёй можна канстатаваць, што яны знаходзяцца ў яе памяці “у сціснутым выглядзе, дзякуючы таму, што ўсё астатняе, неабходнае для тлумачэння выразу, які зрабіўся прыказкай, знаходзіцца ў нас у думках і даволі проста можа быць узноўлена”.[7] І сапраўды, літаральна на кожнае ўдакладняючае пытанне, кшталту: “Хто так казаў? Калі так казалі? На каго так казалі?” яна дастаткова падрабязна распавядала пра выпадкі з жыцця амяльчан. Узнаўленне ў размовах праз пэўны час таго ці іншага фразеалагізма выразна дэманстравала, што формы вызначэнняў, якія мая суразмовіца ўспадкавала ад сваёй бабулі, далёка не

[6] Потебня, А.А. Теоретическая поэтика. / А.А. Потебня – Москва: Высшая школа. 1990. –344 с. С. 94.
[7] Таксама. С. 97.

аднаразовага карыстання, а з’яўляюцца сапраўднымі “мадэлюючымі структурамі” (тэрмін В.М. Макіенкі).

Паколькі Варвара Аляксандраўна пры сваіх тлумачэннях карыстаецца не замацаванымі прыкладамі, а жывымі ўспамінамі з вясковага жыцця, вынікам гэтага можа быць пашырэнне сферы ўжывання фразеалагізма, што дэманструе, напрыклад, мясцовы фразеалагізм “куросанне дзелаць”. У першай размове носьбітка традыцыі выкарыстала яго для характарыстыкі чалавека, які блытаецца ў думках і выказваннях, у другой размове гэтым жа фразеалагізмам вызначылася нядбайная праца.

Яе пастаянныя вызначэнні кшталту “баба казала”, “матка казала” дэманструе тое, што ў асобах бабулі і маці ў яе былі папярэднікі, што менавіта ад іх яна навучалася, што казаць у той ці іншай жыццёвай сітуацыі. Прыхільнікі міфалагічнай школы параўналі б такую асобу з культурным героем. Мы з гэтым пагодзімся, для чаго спраецыруем на сваю сітуацыю высновы, якія, грунтуючыся на матэрыялах архаічных міфалогій, зрабіў Я.М. Меляцінскі: “У архаічных міфалогіях уяўленні пра першапродкаў – дэміургаў – культурных герояў пераплецены паміж сабой, дакладней, сінкрэтычна не падзелены. Прычым базісным пачаткам у гэтым трыадзінстве з’яўляецца першапродак”.[8] Нават калі б мы паспрабавалі аспрэчваць гэта, супраць нас паўсталі б прыклады таго, як паводзілі сябе, што казалі ў роўных жыццёвых сітуацыях Варвара Аляксандраўна, яе маці і бабуля. На мой погляд, менавіта імі, яе бліжэйшымі папярэдніцамі, і, у першаю чаргу, бабуляй, былі данесены з ранейшых часоў для сваёй унучкі архетыпы ўспрымання тых ці іншых сітуацый і іх вызначэння. Па сутнасці, “першапродак”, “культурны герой” у асобе Алены Максімаўны Грэцкай забяспечвае свайго нашчадка ў асобе ўнучкі гатовымі формамі выказванняў, якія яна праз “міжвольнае выказванне” (тэрмін К.Г. Юнга) па меры ўзнікнення пэўнай жыццёвай сітуацыі запаўняе зместам. “Міжвольнае выказванне” К.Г. Юнга – практычна тое самае, што і “як часта будзем гаварыць, дак яны ўсе павыкажацца” нашай інфарманткі. І гэтымі гатовымі формамі яна валодае ў вышэйшай ступені па-майстэрску. Складаецца ўражанне, што яны ў вышэйшай ступені вольна, амаль што сваім жыццём жывуць у прасторы яе мовы. Яны ўзнікаюць у яе мове ў пашыраных і скарочаных варыянтах, змяняюць унутры сябе кампаненты і словаформы, уступаюць паміж сабой у сінанімічныя стасункі.

Паводле Я.М. Меляцінскага, адбываўся і працэс навучання: “Далёка не заўсёды ўчынкі дэміургаў носяць мэтанакіраваны характар. Даволі часта яны з'яўляюцца наступствам выпадковых жыццёвых акалічнасцяў іх жыцця, а не плёнам свядомых творчых высілкаў”.[9] Практычна пра гэта кажа і Варвара Аляксандраўна, калі вызначае: “Узрослыя круцяцца,

[8] Мелетинский Е.М., Культурный герой /Е.М. Мелетинский // Мифы народов мира. Советская энциклопедия. (в 2 томах) т. 2. К– Я. / Гл. ред. С.А. Токарев – Москва.: “Советская энциклопедия”, 1987. – 671 с. С. 25–26.

[9] Таксама.



ізвесныя... Каторыя любяць *па позыках бегаць*... Вот німа... “А пайду, пазычу!”

<*І баба казала пра* **шампанскае**?>

І баба. Ета ж ад іх мы чулі. Яна ўсё казала Майку: “Майка, ты **на гарэлцы прапіўшы, дак эканоміш ужо і на спічках**”. Ён будзя... Спічкі ў кармані, будзя іціць, у нас камянок... Падойдзя к камянку, вугалёк возьмя чорны і дме-дме, пакуль ужо із малай іскрынкі ён ужо краснее і краснее... І прыкурывая. Баба кажа: “Во, Майка, **на “Рускай” прапіўшы, да на спічках сабіраіш.**.. Эканоміш”. Счас ён выцягівая: “Алёнка, спічкі пры случай ё, а ета – дурняк. Вугалёк – ета дурняк. Узяў, падуў-падуў, а спічка сахраняіцца”. Усі так казалі...

Баба казала на Казырёў.. Прыдзя: “Дай...” Затоўч боршч... Яна сёдні ў аднаго... Заўтра ў другога, послізаўтра ў трэццяга... Так і затаўкая, дак баба і кажа наша: “*Як есць, дажы ср... ё чэсць. А як паядуць, дка і па дворах пабягуць”*. Уб’юць кабана... Госці ідуць... Сёстры, браты... Гурбой...” Паядуць, тады *палец смокчаць*...”

**На харошым плану і дзіця вырасце, а на плахом і трава ня хоча рэсць →План такі, што дзіця пасадзі, дзіця вырасце.**

**На худога каня ўсё мухі садзяцца →На боль, на вока ўсё парушша ляціць.**

**На чорта → Горя прыклікі шукая; Мне тут танкі не вадзіць; Не смашнае не глытаіцца, а смашнае не плюваіцца; Па мне б і сабака не забряхаў; Пашлі дурака па быка, дак ён пяць прывалачэ; Сто лет ня нада; Ходзіць, як кабыла з кусюркам; Ходзіць, як старэц з павадыром; Чорт прыклікі шукая.**

**На чужым каню ў рай ездзіць.**

Усё дзед Майка казаў: “**На чужом каню ў рай ня ездзі**! Цябе там ня прымуць. Палядзяць: конь...” Мы гаворым: “Дзед, ты паедзіш?” – “Не! Яны любяць каня варанога, а ў мяне чалы. Туды не дапускаюцца. Вароты ангел не адчыня”.

Разумны чылавек сам у старонцы будзя, на чужом пад’едзя, свайго ня троня... І ці сказаць, там што-нібудзь, дак сам будзя выкругіваць сам сябе, мол, гаварыў ці што... Я сваёй нявестцы гаварю: “**На чужом каню ў рай ня ездзі**”.

**На язык не браць.**

Нісмашная. Ні хоча.

**На чыстую воду выводзіць → Бряхня бряхнёй і пахня.**

**На совісць→ Масцер на ўсе рукі.**

**На смех падняць → Гоп-кампанія.**

**На сухі лес.** Гл. таксама: **Штоб цябе гром убіў!**

(а) <*Чаму* **на сухі лес** *пасылаяць?*>

Ну, **на сухі лес** пасылаяць – во калі ідзець бальшая граза... Во, дожч быў, сарвала крышу Андрэю, дак я вышла, гаварю: “Госпадзі! Ідзі ты, граза ліхая, **на сухі лес**! Там круці і вярці, і што хочыш, дзелай!” І калісь баба наша і ўсі казалі: “Калі граза ідзець, сабіраімся ў кучку, у бальшы ababaк – дзелаім... Сядзяць бабы, старшы ж нас, маткі нашы, гаворяць: “Ідзі ты, граза, **на сухі лес**! Там і круці, і вярці, і палі “.

<Ч*аму* **на сухі лес?**>

Сухі – ён ужо мяртвы. А жывы лес, хай ішчэ расце”. І калісь сухога дзерява з агнём не найдзіш, а ціперяка павальна сухі лес увесь. Што яму врядзіць?” Вот пойдзім у аряхі, і другі куст молнія спаля, чорныя ўсі, ета малання як жыгне ў лесе, да на якоя дзерява, калі рябіна стаіць усохшая, і ягада, і ўсё, но яна ўсохшая. Ета ўжо бабы гаворяць: “Малання рябіну спаліла”. І аряхі тыя, мы ўжо ідом ад тога куста, вісяць кучамі, і мы не рвом, есць нільзя. Ці Богам дадзена так? Ці Бог яго зная? Гаворяць, Юрый-Ягорый едзя на каласніцы. Баб, якая тая каласніца?” – “Яна залатая, калёсы такія, залатая, уся пазалочаная. У Бога ж прастыя німа”. (Як едзя, ну, па-старыннаму, ціпер жа па-навучнаму, па хмарах, па воблаках едзя). – “Баб, чаго ж ён не падая?” – “Ну, так Богам дадзена:.. І паехаў Юрый-Ягорый на залатой калясніцы”. – “Баб, куды ён паехаў?” – “А паехаў. Будзя ехаць-ехаць – і на неба к Богу. Па воблаках, во хмара ідзець, воблака, воблакі, яны сабіраяцца ў кучу – у кучу. Куча бальшая, і ён па воблаках едзя, калёсы ж едуць, то у ямку, то з ямачкі. І стукаяць калёсы. Так жа і Бог дзелая”. Юрый-Ягорый на белым каню ездзя.

(б) Гаворяць: А ніхай яно **на сухі лес** ідзець! Ета плахоя ўсё – не на сыры, а на сухі. Сухі ўсё адно памёршы. Пачалі гаварыць плахоя: “А ніхай яно (ці балезь, ці што...) на сухі лес ідзець!” Гаворяць: “Паддзелываяць. А ніхай яны **на сухі лес** пускаяць!

(в**) Ніхай (хворасць) ідзе на сухі лес.** Ён і так ужо сухі лес... Падгнівая ад корня і валяіцца... Я калісь у бабы... Яна: “А **ніхай на сухі лес ідзець**...”Я гаварю: “Баб, а чаго?” – “*Ніхай у балота ідзець*...” Па балоту і людзі ходзяць, і жнуць... Вобшчым, ходзяць па балотах, і дровы сякуць, лазу... А сухі лес... Ніхай ідзець... Ён ужо прапашчы...

**На шампанскім (гарэлцы, “Рускай”) прапіўшы, на спічках не збярэш.**

Другія п’юць, а тады ўжо спічак не на шта купіць. Усё так казалі... Якія такія во... Бываюць, што сёдні ё... Баба наша казала на Казарёвых... Вот сяло бальшоя. Ё дзярэўні і па дзвесці двароў... Усякія ёсць... І ўсё раўно знаюць, каторыя харошыя людзі, каторыя плахія... Патаму шта яны



маладыя вучацца. Што тыя дзелаяць, то і яны”. Відавочны фактар асабістага прыкладу. Такую школу мовы прайшла, калі пра гэта можна казаць у мінулым часе, і мая субяседніца.

Больш за тое, з цягам часу Варвара Аляксандраўна сама становіцца настаўнікам у адносінах да свайго сына. А асобныя ўстойлівыя адзінкі сустракаюцца ўжо і ў гаворцы яе ўнука. Пры гэтым ён дакладна вызначае іх паходжанне ў сваім моўным рэпертуары.

Запытваю: “Т*ы такія словы гаворыш: “У ёлачку”, “Трамбабуля даць”. Адкуль такія словы?*

– *“*Ад бацькі наслышался. Эта ж наш бацька ўсё ўрэмя гаворя так... “Трамбабуля дам”... З дзецтва. Эта ат бацькі. Эта ж ён ўсё урэмя”.

*– Дык гэта ад бацькі, ні ад бабы?*

– “Ад бацькі. Эта када малымі былі, усё ўрэмя так гаварыў... “

Запісаны ад Варвары Грэцкай і зведзены разам матэрыял уяўляе ўнікальную з’яву: гэта фразеалагічна-парэміалагічны слоўнік асобна ўзятай вёскі ў рэпертуары аднаго носьбіта мясцовай гаворкі. З адной агаворкай: трэба разумець, што мова нават асобна ўзятай вёскі і нават у выкананні аднаго носьбіта, не з’яўляецца чымсьці нерухомым і застылым, што не дазваляе правесці татальную фіксацыю яе фонда.

Безумоўна, было б наіўна чакаць таго, каб кожная запісаная ад яе парэмічная адзінка была арыгінальнай і выходзіла за межы агульнараспаўсюджанага. Асобныя з іх прыводзяцца ў адмысловых выданнях 18 – пач. 20 стст.[10] Хаця дастаткова багата і адметных. І, што не менш істотна, у гаворцы Варвары Аляксандраўны Грэцкай агульнавядомыя ўстойлівыя адзінкі напаўняюцца новым зместам, пад іх падводзіцца новая аснова. І, тым не менш, ствараюцца новыя. І пэўныя з іх , на мой погляд, з’яўляюцца адметным унёскам у фразеалагічнаю спадчыну – і не толькі ў беларускую, але і ў агульнаславянскую.

Асобныя з іх былі апублікаваны мной у матэрыялах навуковых канферэнцый і часопісах, прычым пераважна ў расійскіх.[11] У 2006 годзе

---

[10] Иллюстратов, И.И. Сборник российских пословиц и поговорок /И.И. Иллюстратов. – Киев: Типография С.В. Кульженко, 1904 г. – 480 с.

Матеріалы дляізученія быта і языка русского населенія северо-западного края. Собранные и приведенные в порядок П.В. Шейном. Т. II. Санктпетербург. 1893. С. 612-622. 715 с.

Романов, Е.Р. Белорусский сборник: Т. 1. Вып. 1-2. Песни, пословицы. Загадки / Е.Р. Романов // Киев, 1886. 469 с. 290 - 316.

Сборник белорусских пословиц, составленный И.И. Носовичем. Спб. 1874. 232 с.

Собрание 4291 русских пословиц. Печ. при Императорском Московском университетете 1770 года. 322 с.

Смоленский этнографический сборник. Составил В.Н. Добровольский. Часть III. Пословіцы: Тіпографія С.Н. Худекова, 1894 г. – 137.

Снегирев И. Словарь русских пословиц и поговорок; Русские в своих пословицах. – 1831. Прыводзіцца па выданню: Снегирев И. Словарь русских пословиц и поговорок; Русские в своих пословицах. – Н. Новгород: “Три богатыря”. 1997. – 627 с.

[11] Лапацін, Г.І. З назіранняў над дыялектнай фразеалогіяй. (п. Амяльное Веткаўскага р-а Гомельскай вобласці). / Г.І. Лапацін // Беларуская мова ў культурнай і моўнай прасторы Славіі: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 24 –25 лістапада 2009 г.) Інстытут мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа НАН Беларусі – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С. 182 – 187.

Лапацін, Г.І. “Маля – пакуль у начоўкі ўваля...” /Г.І. Лапацін // Славянская фразеология в синхронии и диахронии. Сборник научных трудов. Выпуск 3. Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2016. С. 67– 69.

мне пашчасціла на знаёмства з Аляксандрам Барысавічам Страхавым, рэдактарам штогодніка “Palaeoslavica” (Massachusetts, ЗША). Гэты чалавек аказаўся больш прыхільным, чым беларускія выдавецтвы, да беларускай народнай культуры. І, пачынаючы з 2006 года, ён у вышэйшай ступені шчодра прадстаўляе старонкі для маіх публікацый. За гэтыя гады на старонках “Palaeoslavica” былі апублікаваны мае матэрыялы, прысвечаныя культу святога Міколы, Вялікадню, дэманалагічным уяўленням беларусаў. На працягу 2010-2012 гадоў быў надрукаваны вялікі па аб’ёму матэрыял “Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая” (Записи 2005 – 2012 гг.)[12]

У 2013-2015 гг. Аляксандр Страхаў шчодра прадставіў старонкі свайго выдання для амяленскай парэміі.[13] Больш за тое, публікацыю “Хто прыказку гаворя і слова ўмесці скажа с прыказкай...” склалі парэмічныя адзінкі з ненарматыўнымі кампанентамі. Любое беларускае выдавецтва ад іх адпіхвалася б рукамі і нагамі.[14] Публікацыі ў “Palaeoslavica” сталі грунтоўным падмуркам пры падрыхтоўцы гэтай кнігі.

---

Лапацін, Г.І. Новыя запісы дыялектнай фразеалогіі сучаснай беларускай мовы (п. Амяльное Веткаўскага р-а Гомельскай вобласці) / Г. І. Лапацін // Фразеология германских, романских и славянских языков: сборник научных статей: вып. 1. / под ред. Е.Е. Иванова. – Могилев: МГУ им. А.А. Кулешова, 2009. – 314 с. С 289– 298.

Лапацін, Г.І. “Песнямі сыт ня будзіш…” Уяўленні пра ежу ў парэміалагічнай карціне жыцця беларускага пасёлка Амяльное / Г.І. Лапацін // Актуальные проблемы российской провинции: вызовы современности: Материалы международной научной конференции (г. Новозыбков Брянской области. 10-11 октября 2017 г.) /Под ред. В.В. Мищенко, Т.А. Мищенко, В.Н. Пустовойтова, С.М. Стародубец,. А.В. Шлома, Е.Н. Шубабко–Брянск: ООО “Аверс”, 2017 г. – 359 с. – С. 175 – 187.

Лапацін, Г.І. “Тапорная работа”. Семантыка фразеалагізма ва ўспрыняцці майстра. / Г.І. Лапацін // Славянские народы и их культуры: история и современность”. Международная научно-практическая конференция. сб. Научных статей / редкол.: В.И. Коваль (отв. ред.) [и др.]; М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины. –2013. –310 с. С. 153-156.

Лапацін, Г.І. Уяўленні пра беларускую сям’ю ў кантэксце дыялектнай парэміі. /Г.І.Лапацін/ Материалы международной научной конференции “Духовно-нравственные концепты русской словесности в современной языковой, культурной и образовательной практике Российско-Белорусско-Украинского пограничья” (г. Новозыбков, Брянская область, 25-26 октября 2016 г. / Под. ред. С.Н. Стародубец, В.Н. Пустовойтова – ООО “Новозыбковская типография” – 2016. С. 175 – 179.

Лапацін, Г.І. Фразеалагічныя рэаліі і метамарфозы вёскі Амяльное. Рэпрэзентатыўныя нататкі / Г.І. Лапацін // Нормативность в условиях смешения восточнославянских языков на территории Российско-Белорусско-Украинского пограничья: Круглый стол, приуроченный ко дню Славянской письменности и культуры (г. Новозыбков Брянской области. 24-25 мая 2012 г.) Сборник научных статей /Под ред. С.Н. Стародубец, С.М. Проченко, А.Н. Пустовойтова–Брянск: РИО БГУ, – 2012 г. – 458 с. – С. 229 – 240.

Лопатин, Г.И. “На каждам шагу прыказка...” / Г.И. Лопатин // Живая старина, 2013, ;. С. 11-13.

[12] Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (I. Записи 2005 – 2010 гг.) /Г. Лопатин // Palaeoslavica, Vol. XVIII, №2. Cambridge. 2010. Pp. 183-217.

Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (II. Записи 2005–2011 гг.) // Г. Лопатин // Palaeoslavica, Vol. XIX, №1 Cambridg,, Mass, 2011. Pp. 222 – 276.

Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (III. Записи 2010 – 2012 гг.) // Г. Лопатин. Palaeoslavica, Vol. XX, №1 Cambridg,, Mass, 2012. Pp. 207 –243.

[13] Лопатин, Г. Варвара Грэцкая: “Я гаварю па-амяленскі...” Из опыта изучения диалектной фразеологии. (Материалы к Фразеолого-паремиологическому словарю личности.) Варвара Грецкая. Записи 2005 –2012 г. / Г. Лопатин. // Palaeoslavica, Vol. XXI, №2 Cambridg, Mass, 2013. Pp. 130 – 201.

Лопатин, Г. Варвара Грэцкая: “Я гаварю па-амяленскі...” Из опыта изучения диалектной фразеологии. (Материалы к Фразеолого-паремиологическому словарю личности.) Варвара Грецкая. Записи 2005 – 2012 г. / Г. Лопатин. // Palaeoslavica, Vol. XXII, № 2. Cambridg,, Mass, 2014. Pp. 147-221.

[14] Лопатин Г.И. “Хто прыказку гаворя і слова ўмесці скажа с прыказкай...” (Материалы к Фразеолого-паремиологическому словарю личности.) Варвара Грецкая. Записи 2005 –2015 г. / Palaeoslavica, Vol. XXIII, №1 Cambridg, Mass, 2015.- Pp. 159-198.



*<Паск у– нельга, а проста хлеб?>*

Баба ў нас ўсё дзелала, як толькі матка... Ну, яны знаяць ужо... Дак баба ўжо меся. Етага нільзя, а так варыць, усё варылі.

У нас у Алёны бацька тож мясіў, калі ў цёткі Веры было месячная. Дак і ён мясіў. І калісь Козырыха казала: “Васіль, сёдні табе хлеб мясіць”. Ён: “Ну, добря!” Рукі вымывая і меся хлеб.

К Вялікадню яна на віконы вешаіць рушнікі, калі баба... Мы гаворым: “Баба, упадзіш! Давай мы!” Яна: “Вы не дастаніця...” – “Дак матка ніхай!” А яна гаворя: “Ета маё дзела...” І сама вешала. А калі пападая, так што матка вешая. Калі, наверна, німа, дак матка вешая. Гаворяць: “Калі мыіцца...”

**На руку (нам).**

Пяём мы дома. А наша баба памятлівая была, можа, я ў бабу трошкі ўдалась? Дак яна ўжо які празнік, яна ўжо будзя сядзець, ці прядзе, ці тчэ, і ціхонька пряпяе песню. Перва Богу памоліцца, устаня ўранні, тады ўжо гаворя: “Дзеўкі, сёдні ж нада тую-тую песню прапець”. А нам ета **на руку**.

**На сабак бряхаць.**

Эх, галава! Не было мне вучыцца. Мая *галава варыла*... Неяк было... Калісь Сняжкова Нінка[19] ўсё казала: “Давай! Я табе і памагу. Дагоніш... Давай вучысь”. Матка бальная і баба бальная, Ягор яшчэ які... І Туся, і хазяйства...” Яна была журналісткай... Учылась... І вунь папала... Яна была вумная дзеўка... У іх і Валодзька вумны быў, а Ірка – не... Тая на швяю пашла... І Валька такая тупень была... А тыя па дзядзю Лёку пашлі – Лявону. Матка казала: “Ідзі. Навучышся **на сабак бряхаць**”.

**На сабак глядзя рэсць → Дзісцыпліну дзяржаць.**

**На сабаку ліні – сабака завішчыць.**

Быў на Амяльном Андрэй Рыштакоў, дак ён гаворя: “Каця, што ты мне наварыла?” Яна: “Сёдні там суп ці боршч – ну ўжо аб’ідзення!” А ён пакушая і: “Ааа! Наварыла супу, што **на сабаку ліні – сабака завішчыць** і з дзярэўні ўцячэ**!**” Ета ўсі і кажаць: “Вон казаў Андрэйка, так і так: “*Сабака завяшчыць і пабягіць ад супа твайго”.*

*<Гэта – што, суп такі нясмачны, што* **на сабаку ліні – сабака завішчыць***?>*

Несмашны, пусты.

**На свеці німа → На нож пайсці.**

**На сігень → Вочы сплюшчыўшы; Яйца курыцу вучаць.**

---

[19] Сняжкова Ніна Лявонаўна, аднавяскоўка Варвары Грэцкай. Працавала журналісткай, была на партыйнай працы, з 1970 г. – намеснік старшыні Савета Міністраў БССР.

**шапак** – скора. Усі так казалі. Калісь дзед Федулёнак шапкі насіў. А мы: Туся і я... Цыбуля парасце такая во – пер’я такоя, мы пучкамы панавяжым. Пучок, пучок – дзесяць капеяк, а ганакі, ганакі называяцца, ета вот – Расія: Неглюбка – ета ўсё *ганакамы* звалі. І етыя ганакі прыходзяць, у вочарядзь становяцца: “Дай мне! Астаў! Пабагату не давайця!” Мы разазналі, нам бацькава дваюрадная сястра, жыла ў Свяцкой, там сем кіламетраў быў базар, там скрозь базар быў, пятніца, скрясення – базары былі, людзі насілі прадаваць усё. Дзед хадзіў Федулёнак, прадаваў лапці. Я гаварю: “Дзед, папрадаваў?” – “Ой! **На расхоп шапак**!” Мігам прадаў!” А ў нас мігам: прыдзем дамоў, баба: “Ну як? Прадалі цыбулю?” Мы гаворым: “Прадалі. Казаў дзед Федулёнак: “**На расхоп шапак**”. Матка гаворя: “Ну дак ішчэ рвіця, як базар будзя, да і нясіця”. Вот табе: “**На расхоп шапак**”.

(б) Нам дзед расказываў. Прыходзя дзед Кудлач, а ў яго пчолы былі. Вот будзім казаць, а мы, суседзі, кругом былі. Захочым мёд, гаворым: “Дзед Кудлач, сёдні пчала ўкусіла нас!” А ён: “Дак ці, можа, ні мая?” – “Не, дзед, твая!” А наш Ягор маленькі быў: “Дзед! Ты ішоў, дак дзеўкі казалі: “Давайця скажым, што пчолы.. Дак ідзі мёду прынясі”. Ён: “Ааа! Дак ета вы дагаварыліся? Пчолы вас не кусалі”. Ну, усё адно, будзім сядзець, што будзя гаварыць з намы, Майка выдзя, ну, і зноў пра мёд: “Ну, дзед, прынясі ж мёду!” Майка і Жаваранка: “Ну, ідзі ўжо прынясі мёду!” Ён: “Я і так пайду”. Возьмя пойдзя, такая місачка гліняная, ён – у тую місачку, ён не жадны быў, прынясе... І грушы... Вот будзім сядзець: “Дзед, ідзі-ка прынясі ігруш нам!” У яго ігруша была... салодкія, бальшыя... Ён пойдзя, у карзінку насабірая... Хоць выдзя, палядзіць... Нас талака сядзіць, ён ўжо выдзя, пойдзя карзіну насабірая, прынясе: “Наце ўжо, жрыця!” Толькі будзя казаць: “Толькі **не нарасхоп**! З’еў! Бяры ішчэ ігрушыну!” І мы так дзелалі. Мёду захочым, ён і прынясе. Ня то шта, хто болей ухваця. Карзінку паставя... А ў Жаваранкі не было дажэ вульца агародзі. Ён і гаворя: “Вот, Іван Ігнацьіч, нада было насадзіць. Як перясяліліся сюда, я ўсё з гарода павыкапаў....” У яго і маліна на агародзе, і яблакі ўсякія.

(в) **На расхоп шапак**, на аб’едкі я не пайду. Ужо людзі разыходзяцца. Усі казалі: “Я **на расхоп шапак** не пайду!” Еслі багата людзей не прыдзя, дак: “Ну, давай тога, тога пазавем...” І кажаць: Куды ты пазавеш **на расхоп шапак**? Не пазваў ты спярва, дак цяпер не заві”.

**На рубашцы.**

Усё казалі: “Еслі мыіцца чылавек, так ён не зажынаіць”. І на Вялікадня паску няльзя мясіць той маладзіцы.

Калі матка.... Дак баба... Я ўсё мясіла... Я *ва ўсякую сраку прыпявяка* была... Буду казаць: “Баб, ну буду я сёдні мясіць?” І ўжо мяшу. Як матка не, дак баба ўсё... У нас баба мясіла хлеб: “Полячка, я сама буду мясіць, а ты дзелай другоя”.

*<А ў цэркву яна магла хадзіць?>*

І ў цэркву не хадзілі.

Як месячная бывая, дак і ў цэркву ня ходзяць. “Нядьзя!” – гаворяць.



У ілюстрацыйным матэрыяле, які друкуецца ніжэй, я імкнуўся паказаць фразеалагізм у той форме, у якой ён найбольш часта ўзнікае ў гаворцы Варвары Аляксандраўны Грэцкай. У якасці лінгвістычнай ілюстрацыі існавання фразеалагізма прыводзіцца запіс гаворкі інфарманта, як правіла – В. А. Грэцкай, альбо (у некаторых выпадках) яе бліжэйшых родзічаў. Усе гэтыя выпадкі спецыяльна агавораны ў ілюстрацыях. Фразеалагізм альбо іншае ўстойлівае спалучэнне вызначаны паўтлустым шрыфтам альбо курсівам, калі яны не з’яўляюцца заглаўнымі ў дадзеным артыкуле. Пытанні і тлумачэнні збіральніка размешчаны ў квадратных дужках. У тых выпадках, калі заглаўны фразеалагізм пазбаўлены ілюстрацыйнага матэрыяла, знак “стрэлкі” → адсылае да ілюстрацыйнага матэрыяла, які размешчаны ў іншым артыкуле. Напрыклад: **Збыць з галавы → Адзін дзень сяўбы год кормя**. Заўвага: “Гл. таксама...” адсылае да іншага артыкула, у ілюстрацыі якога сустракаецца такі самы фразеалагізм; напрыклад**: Воталь падняць**. Гл. таксама: **Бучу падняць**.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА

**Ababraць на белаю белку.**

**Абабраць на голаю белку.**

Гаворяць: “**На голаю белку абабралі**”. У белкі ж німа адзежы. Прыказка такая. Казалі: “Голая белка, белая белка...”

[**Кужэльная П.С**.:

Толькі што сарочкі не знялі. Усягда гаворяць: “**Белая белка**...”]

Усё: і падушкі, і адзеяла, і платочкі пазабіралі, сколькі іх было: адно адзіяла да дзве падушкі, да, можа, дзве змены, ці тры перамены.

**Аборай хлеб рэзаць.**

(а) Ета дзед Майка казаў. “Прыехалі, – гаворя, – у Амерыку, а яны ходзяць у лапленых штанах, а так *хворц* свой *паказываяц*ь: “Мы жывом у Расіі. Да тоя ё! І тоя ё!” Прыехалі ў Амерыку на зарабаткі. Дома **рэжа хлеб аборай**, а тутака выхарашываіцца”. Ета… Другі, знаіш, культурыцца... Дак усё баба казала на Каршаніху: “Во Каршаніха **дома аборай хлеб рэжа**, а выдзя, дак: “Я да я!” Дома **аборай**, можа, **хлеб рэжа**, німа нажа, а ў людзях ён будзя выхваляцца.

(б) Штук дзесяць нажоў было. Сяргей <унук> як стаў у грыбы хадзіць... **Хлеб хоць аборай рэж –** німа нажоў! Сяргей <сын> прыехаў: “Ідзе нажы? **Аборай хлеб рэзаць**?” Я гаварю: “Ну, глянь! Шэсць нажоў была! Німа ніводнага!” А ён <унук>... Таварышы ідуць: “Сяргей, дай! Дай!” Прыходзяць к нам у двор. Ён каждаму падае. Яны не папрыносяць: хто пацяряя, хто прысвоя.

<**Аборай хлеб рэзаць.** *Гэта – бедны, альбо не культурны?*>

Некультурны. А бедны, калісь нажы, такі во будзя прыломачак, а ўсё раўно – ім рэж.

(в) Гаворяць: “Станя хамут на атветсвінаю работу, сваі парядкі дзелая. Дома, можа, **хлеб аборкай рэжа**...”

(г) Нада **ўжо хлеб аборай рэзаць**. Ета ў нас усё калісь казалі. У горадзі як пабудуць, прыедуць, нагарадзяцца ўжо. Дак дзед Іванюшкаў усё калісь казаў: “Мой Ягорка прыедзя *<унук, вучыўся ў Гомелі>*, дак дома **хлеб аборай рэжа**, а пабыў у Гомелі, прыехаў: “Што нож! Грязны нож! Тоя ня так, тоя ня так!” Нагарадзіўся”.

**Абы Госпадзі → Хоць ты ў вуха ўлож.**

**Адбою німа.**

У іе хлопцаў – **адбою німа**. Ні за Ваську пойдзя, дак за другога.

**Ад вомегі.** Гл. таксама: **Вомегай вылазя.**

Ціпер – *каралеўская жызня. Жывуць, як каралі*. Што ты хочыш, **ад вомегі,** і пайшоў купіў. “**Ад вомегі**, – гаваряць, **– ад вомегі** хочу – *мягня душа*... Хоча тога...”



**На пагляд – вінаград, а ў сярёдку – гніль.**

(а) **Глядзець красіва, а ў сярёдку – гніль.**

(б) Ета чылавек? **На пагляд – вінаград, а ў сярёдку – гнілы**.

(в) Чым чылавек украшае сам сябе?.. Гаворяць: “Як добрая душа ў чылавека...” Усё баба наша казала: “Дзелайце так, штоб вас не клялі, а штоб вас пахвалілі і сказалі: “Вот харошае васпітаніе, да харошые дзеткі. Ня нада дзелаць нікому ўрэд... Не харош ён табе, ня трогай яго, ідзі, ціхонька прайдзі.

**На пальца лезць.**

Вот ідзеш, сварышся... Ці дзед, ці баба, ці бацька, ці матка: “Ідзі! **На пальца лезіш**!” Толькі штоб па-твойму было!” А што за “пальца”, *чорт яго зная*?” **На пальца ідзеш** – толькі па-твойму штоб было.

**На пасашок.** Гл. таксама: **Хоць палкай выганяй.**

І танцуім, маладосць была, і старыя пяюць, а мы танцуім, а Жора наш любіціль іграць. На свадзьбі он чарачку вып’е: “Не нада мне**. На пасашок** дасцё, і ўсё”.

**Наперядзі быць → Скоры паспех курам (людзям) на смех.**

**На пуп браць (ні браць).**

Ён сказаў: “Я паўсюль хадзіў, **на пуп ні браў**”. Да, ён дзе на рабоці ня быў, дак **на пуп ня ўзяў** нідзе. Ета прыказка такая: “Ён нідзе **на пуп ні ўзяў**”. Гаворяць: “Ідзе ты на пуп ўзяў? Нідзе! *Сарочка нідзе ні згніла: ні пад касой, ні пад серпам***.**

Усё гаворяць: “У цібе сарочка згніла...”

Усё казалі: “*На ём сарочка нідзе ні згніе*”. Ідзі-ка ты пакасі. Яна мокрая да салёная. Дзень пад потам стаіць чалавек.

**На пуць навесці.**

Ета бацька? Ці ён іх **на пуць навёў**? Сказаў: “Дзеці, вот так во дзелайця. Штоб харашо, штоб людзі вас не судзілі, і вам было добря: работайця, ня крадзьця. Вообшчэм, дзелайця па-людскі.

**На ражон іцці. Гл. таксама:**

Ён не глядзіць табе... Будзя іціць, еслі што-нібудзь, ён не глядзіць, ці яму – смерць, ці што – ён **на ражон ідзець**. Усякія характеры ё.

**На расхоп шапак.**

(а) Калісь жа шапак не было дзе купіць. Вот як шапкі...”Ой! ня чула! Разабралі!” Шылі шапкі мужчынам ужо. **На расхоп шапак** хватаяць. І вот у каго дзевак багата, бывая, што па шэсць дзевак было ў сям’е, раджаюцца адны дзеўкі, дак маткі гаворяць: “А! Мае дзеўкі **на расхоп шапак** будуць. Расхопяць. Украдні ў вакно пакрадуць маіх дачок”. Так і ета. **На расхоп**

Калі во хто прыдзя к нам, баба: “Хадзіця есці!” – “Што-та ў вас там ё?” – “А ўсё во ё!” Як які празнік, яна гаворя: “**На Маслінай – і ў верябейкі заморская піва ё**”.

(в) Гаворяць: “**Летам...”** Хто: “На Маслінку...” А то гаворяць: “**Летам – і ў вераб’я піва**”. Куды не паляціць: ня тога, дак тога: то – травінку, то – лісцінку, то – бубінку із каласка... Найдзе сабе... А зімой ўжо... Толькі верабей шукая на сметнішчы... Калісь хату падмятуць, і там ён дзяўбе-дзяўбе... Шукая...

<*А чаму верабей? Чаму ні ластаўка, ні сінічка?..*>

Я ня знаю ета... Не магу аб’ясніць... Гаворяць: “**Летам і ў вераб’я піва...**” Вот пачануць ужо, гаворяць: “Ой, хоць бы зіму перязімаваць. **А летам і ў вераб’я піва**”.

**На насу → Як учора радзіўся.**

**На нітцы баўтацца.**

Давялі калхоз, **на нітцы баўтаіцца**, а даўжно крэпасцю дзяржаць.

У калхозі то нечым плаціць людзям зарплаты... **На нітцы баўтаіцца**.

<*У Амяльным так на што казалі?*>

Да. Усе гаворяць: “Ну, як ты жывеш?” – “А-а-а. Жыву, **на нітцы баўтаюся**... Еле-еле ўжо... **На нітцы баўтаюсь**”.

**На нож пайці.**

“За бабу **на нож пайду**. Такая харошая баба, што я за бабу **на нож пайду**”.

Вой! Наша баба была хароша! Вот за бабу **на нож пайду**. Еслі б на нашу бабу... Но нашу бабу ніхто ні абіжаў. *Богам бажусь!* Такая харошая баба была наша! *На свеці німа*, адна ана, наверна, была. І я за такую бабу... Яна век на нас не ругнулася. Ня слухалі... Бацькі ж не было. “Варячка, здзелай...” Но я слухала. Ягорка, Маша, Туся што-небудзь... Ціхонька зірне. Яна век... Матка гаворя: “Ты мне гавары, што яны ня слухаюць”, – загадывала. А ўряд была баба Вася: “Я сказала Лідзі: “Ліда, ідзі свінням насабірай!” Яна міне не паслухала. То я ўжо абору вазьму”. А наша баба ў жысць не скажа. Мілая такая. Такія бабы не было нідзе. Наша баба семічку найдзя, ідзе ў кармані будзя: “Во семічка! На табе!” Сама ня з’есць, нам аддасць. Такія бабы нідзе не было.

<*Вы сказалі:* “За бабу **на нож пайду**”.>

Ну, на нож... Ніхай рэжаць мяне... Усё раўно, **на нож пайду** ці буду рэзаць каго-нібудзь. Вот абідзь бабу, я **пайду і на нож**. Нажом цябе буду рэзаць, толькі бабу не чапай.

<**На нож пайду** – *вы будзіця рэзаць, ці вас будуць рэзаць?*>

Я буду рэзаць: **на нож пайду**... Ці ён ніхай будзя рэзаць. Я не пабаюся, а бабу зашчышчу.



**Ад душы → Зяць любя ўзяць, і дзеці любяць не празяваць.**

**Адзін дзень сяўбы год кормя.**

Яна і гаворя: “Я аграном. **Адзін дзень сяўбы год кормя**. Маё дзела пасеяць. А ўдруг заўтры дожч пойдзя. На сеялцы людзі ня будуць сеяць пад дажчом. Сёдні нада ўкінуць зярно. *Із кожы вырваца*, да здзелаць. Ніхай, што хочуць, на міне гаворяць. А я пасеяла – *збыла з галавы*, штоб другоя здзелаць”.

**Адзін з’еш і вала – адна хвала.**

(а) Што купяць, я гаварю: “Раздзяліця ўсім пораўну”. Ну, калісь усё баба наша: “**Адзін з’еш хоць і вала, дак адна хвала**”. Напрымер, вот я ад свае сям’і нікалі так во-во ня з’ем, а ўсім – па капельцы да дам. Калісь ад бабы навучылась, і дзелаю так. Нашы ўжо – не. Наша Ірка будзя хадзіць, што-нібудзь есць. Во купя якоя пячэння. Ну, ці я іх аб’ем?

(б) Усі так казалі: **“Адзін хоць з’еш і вала, дак адна хвала”.** Абажрэсся, разрасцесся, да і ўсё. У нас калісь Мельчыха возьмя зваря бульбы ўвечыры. Ну, выходзім... Летам... Выходзяць усі, садзяцца... Усё кала Ягора сабіраліся... Прыходзяць і дзед Жаваранка, і сын, і нявестка, свякруха... Сем’ямі прыходзяць... Гуртам... “Хадзіця кала тога пасядзім...” Кала Ягора лавачка была... Сядзяць, гамоняць... Дак Мельчыха наваря бульбы большы чыгунок... Наваря, прынясе... Бульбу возьмя ў запінку... Запінка такая ілляная... Яна высыпя... А тады сала скавараду... І нясе... Прынясе... Яны: “Мельчыха, што ты ўжо нясеш?” Ягор наш: “Цётка Вера, ну што ты нясеш?” – “Ягорка, хадзіця! **Адна з’еш хоць і вала – адна хвала**. А давайця ўсі. Бярыця!” Ножык вынясе: “Разрязай крошкі сала, штоб усім хваціла”. І ўвечары... Як толькі... Мы гаворым: “Ішчэ Мельчыха бульбы не прыносіла”. Ну, усі ж павічэряяць дома. Выходзяць на вуліцу. І яна: “Наця ешця.” І гаворя: “Адна я не паем. Ну, куры паядуць. Спасіба мне не скажаць”. – “Дак яйцо знясуць”. – “Ааа! Ніхай траву ядуць. А я вам прынясла”.

(в) Яна пацалуя мяне… “Хадзі, я табе гасцінца дам”. І возьмя, такія канхветы былі, дробныя, смокчыш іх, гарошак такі рассыпны. Яна мне ў бумажку ўсыпля. Я выду, раздзялю з дзеўкамы. Яна ў вакно глядзіць. Кажа: “Я ж табе дала. А ты дзеўкам пааддавала”. Я гаварю: “Ну што, я адна буду есць?” Гаворяць: “**Адзін з’еш і вала – адна хвала**”.

**Ад злыя сучкі і сабакі злыя → Яблака не далёка ад ябланы коціцца**.

**Ад камара раздуць на вала.**

Якую-нібудзь бряхню будуць гаварыць... Вот што-нібудзь будзіш гаварыць, што-нібудзь малая, а яны табе к тому ішчэ і прыбрэшацы, во ета і гаворяць: “Ты ўжо **ад камара раздула на вала”.**

**Ад камля.**

(а) П’яніца быў **ад камля.** Ета гаворяць: **ад камля**. Камель. Як дзерява ляжыць, гаваряць: **“**Дурак **ад камля”.** Камель вечна крэпкі. Ня коліцца. Дак ўсе “**ад камля**” гаваряць. Ты **–** дурак **ад камля**. Ілі п’яніца **ад камля**. Ета *худшы некуда*.

(б) Нерабатні **ад камля** былі. Ці вышывала яна рушнік які? За гарэлку выменівала ў п’яніц.

(в) Хабарнік **ад камля**. Грошы яму падсуніш. Прыдзіш, дасі грошай, паложыш на стол – усё. Ён табе ўсё здзелае.

<*А чаму* **ад камля**?>

Ён ужо без совесці браў. Не то шта там па совесці.

(г) <*Чаму* **ад камля**?>

Ета ўжо яўны такі. Камель жа ўсягда таўшчэй, кряпчэй.

(д) Матка казала: “Варя і Маша **–** ета будуць путныя дзеўкі, а Туся **–** ета будзя лодырь **ад камля**”.

(е) **Ад камля –** крэпкая. Яе ўжо хоць... Ужо еслі не возьмуцца за работу змалку, дак яны і вырастуць, ня будуць дзелаць.

<*Вы казалі: “П’яніца* **ад камля**, *лодырь* **ад камля**”. *Чаму* **ад камля**?>

Рэжыш, камель называіцца... Таўсцейшы... І ў веніку... Венік... “Венік вазьму, дак камлём аддубашу!”

<*Чаму на чалавека казалі* **ад камля**?>

Ці п’яніца ад камля. Яго *хоць у вагонь кідай*, дак ён усё адно будзя піць.

**Аднога ж каня і ў повадзе заводзіць можна, не то шта вазы(з возам) вазіўшы.**

Прыказкі ўсягда гаворяць. Калісь наша баба будзя гаварыць. Ета гаварыла: “Туся! Ідзі, Тусячка, вады схадзі”. **–** “Січас!” Будзя сядзець: “Січас!” Калодзезь у нас пад вакном быў. Ізноў: “Тусячка, вада нада. Ідзі ж ты схадзі”. **–** “Вон Варька ніхай ідзець!” Баба: “Да **аднога ж каня і ў повадзе заводзіць можна, не то шта з возам**. Ідзі ты. Яна – усё. Яна і дроў унясла, і свінням вынося, і свінней накормя, і ўсё **–** яна, і яна. А ты сядзіш, нічога...” Дак баба ёй: “**Аднога ж каня і ў повадзе заводзіць можна**, **не то шта вазы вазіўшы**”.

**Адной душой (ня) быць.**

Як дружыш з чылавекам… Баба мне казала. Мы з Алёнай дружылі. Яна бряхлівая. Дак баба мне і кажа: “**Ня будзь адной душой** з ёй. Цябе ўвядзе. Лучшэ не дружы з ёй. Свая душа, **–** гаворя, **–** і то *пад цэркву с... падвядзе***”.**

**Адно к аднаму (адно да аднаго).** Гл. таксама: **Чык на чык.**

Ён кладаўшчыком у калхозі ўсягда быў... Кладаўшчыком дурнога не паставяць... А нада, штоб **адно к аднаму**... Квітанцыю і тую... Паціряіш... *На тваю холку*...

<*Што значыць:* **на тваю холку**?>

[**Грэцкі С.В**.:



**На жывую нітку →Іголкай не падчэпіш.**

**На здароўе.**

Ета *з дарагія душы* гаворяць. Еш **на здароўе.** Хай табе Бог здароўя прыбаўляя. Штоб харашо.

Ня скажаць жа: “*Штоб табе на хваробу*”. Ета як урэдны чылавек... Хто крадзя. А так гаворяць: “Бяры **на здароўе**!” Во міласціню старцу даюць. Калісь жа старцы хадзілі... Хоць на суп бульбачкі да набярэ.

**На золата не глядзяць, а на чылавека, штоб розум у галаве → Хоць (ты) на (яго) залаты каток павесь.**

**Накаліцца дакрасна → Рябінавая ноч.**

**На кулак работы шукаць.**

(а) Шкоду якую здзелаюць, дак гаворяць: “**На кулак работы шукала**, пакуль нашла”. Ці разаб’е што-нібудзь, ці не так здзелаіш. І на свадзьбе другі падап’е, дак ён будзя к цябе паддзірацца, як сабака: “І тоя ня так яму...” І з кім-небудзь будзя чапляцца. Вумны, дак атойдзя, думаю: “Ідзі ты...” А дурны з дурным пачыная. Адзін аднаму не ўважаць.

(б) Гаворяць... Калісь Карма казала: “Мужык урэдны. Як вып’я, тады ўжо **на кулак работы шукая.** Яе паймае. Б’е до смерці. Тады прап’ецца: “Кармяшка мая”. Тады і гаворяць: “Ну што, Маруся, Мурзіла табе *косці пасчытаў*?” Ці: “Што, *пасчытаў рэбры*?”

**На ладоні дзьмухаць.**

Штоб на **ладоні дзьмухаў**.

Ты хочыш, штоб табе **дзьмухалі на ладоні**, а другому галаву адсякалі...

Я гаварю: “На мяне ні нада дзьмухаць... Дзелайце кала мяне хоць чуць-чуць”.

<**На ладоні дзьмухаць**... *Гэта як?*>

Штоб усё харашо была...

**На лес глядзя, рэсць → Дзісцяпліну дзяржаць.**

**На Маслінке – і ў веряб’я піва.**

**На Маслінай – і ў верябейкі піва заморская.**

(а) Гаворяць: “**На Маслінай – і ў вераб’я піва**”. Усё баба наша казала: “**На Маслінай – і ў верябейкі піва заморская**”. – “Баба, ідзе ён бярэ?” – “Найдзя верябейка, і разгаўляіцца таксама. Во пціцы точна знаюць празнікі”. Мы гаворым: “Баба, чаго?” – “А во ж пятухі, а яны знаяць, калі хто іх вуча?.. Хто іх навучая?.. А яны знаяць і адзінаццаць часоў – пяюць, і дзвенаццаць, і час... Хто іх вуча?.. Яны знаяць урэмя. Пціца вумней чылавека.

(б) <*На каго баба казала:* “**На Маслінай – і ў веряб’я піва**”*?*>

парушыны – ня ўрэдна. Самая ўрэдная парушына – з каласоў. Еслі вус пападзе: усё – худжэй німа! Рэжа вока – будзіш вішчаць і крычаць. Калісь малоціш: прыходзіма ў гумно, там ужо ці качаімся, ці што... Як пападзе вус – рятуйця! Ці з ячменю, ці з жыта – ён жа колкі. Парушынка малая, яна такая ўрядзюшчая.

(б) На **боль, на вока ўсё парушша ляціць**. *На худога каня ўсё мухі садзяцца.* Таво шта яму німа сіл атагнаць

**На век вешны → Божая пасцель.**

**На вуліцы не качаіцца.**

Гаворяць: "Руб – ня грошы. Но яны ж **на вуліцы не качаюцца**. Я раз... Штось палучку палучыла, грошы ўверчывала... Даярка стаіць адна, да: "Варя, палядзі. Вон упаў руб". Я гаварю: "Па рублю па етаму ўжо б і не пабачыла". А яна стаіць, да і кажа: "**Руб на вуліцы не качаіцца**".

**На вяку прыдзёцца варыць і ў гляку → Век пражыць – не каробку сшыць.**

**Наганяй даць →Трамбабуль даць.**

**Нагі не накладаць.**

(а) Еслі я во з Лайбай... Яна міне ні за што абругала пры ўсіх. І я к ёй ні то шта **нагі ні накладаю** к двару к яе, і разгаварываць мая *душа не падыхні*, ні хачу. Такі ў міня харакцір. Ты міне абасрала – ну і ўсё! *Атвалі, мая чарэшня*.

(б) У цябе такога не было, каб сказалі: "Некалі мне з табой гаварыць?" Пагавары з чылавекам... Што нада... Вот ты б прышоў, я б сказала: "Мне некалі!". Ні знаю, як хто, а я б ні пайшла к яму нікагда. **Нагі б не наклала**. Ты сказаў, дажэ фортачцы не адчыніла, як прышоў к адной. Ну, пашоў ты болей? Ці к той, што міліцыянера вызывала? І не хадзі, не ўніжайся. Найдзіш добрых людзей.

**Нагнецца, дак і курда смяецца.**

Юбку такую надзеня, што **нагнецца, дак і курда смяецца.** Тады ж не насілі такіх. Вот ніжай калена ўсі роўнінька насілі... І красіва... Адна ў нас была такая віхля... Насіла.. Усі казалі: "Ужо пайшла..."

**Нагуляць пуза (брюха) → Маля – пакуль у начоўкі ўваля; Чарціны брак.**

**Нада жыць прахладна, як ідзёць, так і ладна.**

Казала Фекла: "**Нада жыць прахладна, як ідзёць, так і ладна**. Ё пад'есць, дак паеш. Німа, дак ляж паспі. Сонны есць ня хоча".



*На тваю шэю*...]

*На холку... На каўнер*... Найдзі дакумент... Дакумент жы ўсюды...

**Адным вагам → Шчырага каня і ў повадзе заводзяць.**

**Адным (людзі) мурам мазаны (мазаты).**

Усі – папы і людзі мазаты. Нейкі мур ё, што тым мурам ужо мажуць хрясты па лысіні, каго хрысцяць: ці бальшога, ці малага. Дак "мур" завуць нейкі. Дак ета ж прыказка скрозь: "**Усі людзі адным мурам мазаты**". І папы, ета ж *чэрці, толькі рог німа*. Вот пачаном: "Тэй – лучшэ, тэй – худжэ". Баба будзя казаць: "**Усі людзі адным мурам мазаны**. Усі адзінакавыя".

[**Грэцкі С.В**.:
**Адні мурам мазаны –** адзінакавыя.]

**Ад работы валы дохнуць.**
**Іздыхаяць дажа й і валы.**

Калісь усё казалі: "Давайця пааддыхнёма, а то **ад работы валы дохнуць**". Вол – ета бык, на Украіні *валы* звалі. Вазьмі-ты яго... Як калісь планы хочаць сеяць, а коні чуць ходзяць, пакуль на етай траве, а карміць нечым, дак яны ўжо быкоў сталі абучаць. Ну, быкі тыя... Ты стаіш... Я ўспахала план, ты забіраіш пахаць. І яны ўжо ходзяць, упадуць. Ёрмы такія дзелаюць... І запрягаюць, а яны ўжо цягнуць... Із ярма другі бярэ... Дзень паходзяць, яны ўжо падаяць... У яго сілы німа. Вот і кажаць: "**Іздыхаяць дажа й і валы**". Так і чылавек: не пад'есць – і ўсё.

**Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**
**(З харошага целяша і трэска хараша.)** Гл. таксама: **Яблака не далёка ад ябланы коціцца**.

(а) Вот вазьмі ад трухлявага, абчашы... Трухлявая абчашы і абчашы дубіну, дак там жа і трэска харошая, і мацір'ял харошы. А як трухлё, дак хоць ты яго, што хочыш.

Целяш – палка ці колік, ці бервяно. **Ад харошага целяша дак і трэска хараша**. Ці з бярэзавых дроў вазьмі, ці із сасновых. Сасновыя гаряць, *як курыцільная бумага*, а – бярэзавых у палавіну меней папаліш – і цеплата ў хаці. Так і... Як з табой можна пагаварыць, а як з дурным...

(б) Я калі кажу пра етага целяша: "Ад дурнога п'яніцы, *што на рот узлезя, то напляце*". Усі так казалі. Ета ўсюдых прыказка. Я ня знаю, я па сёлах не хадзіла нікуды, я знаю, што ў нас і ў Закружжы... І прыдуць... І матка Адарка, ета хрёсная мая...

*<А на каго так баба казала?>*

Вот як пачануць гаварыць пра якога чалавека, дак гаворяць, што нехарошы. А як яна гаворя: "А-а-а! **Ад харошага целяша дак і трэска хараша**. *Як завядзецца, так і павядзецца*. *Ідзе як завядзецца, так і вядзецца.* Яны ўжо не можуць". Вот калі б мы сказалі на бабу: "Ідзі к

чорту!" Ці: "Ня гаўкай!" *Божа сахрані*! Матка б пазасякала! Во табе! Будзіш навек ета помніць, штоб на бабу ці на матку такоя сказаў..." А ўряд жылі... У іх шэсціра дзяцей... Будуць на матку: "Не бряшы! *Ідзі к чорту*! Не гаўкай!" Мы прыдзім: "Баб, так і так". Яна гаворя: "Ня вучыціся ў дурной сям'е. Ніхай гаворяць. Іх і людзі асудзяць, і Бог".

(в) Гаворяць: "**Ад харошага целяша дак і трэска хараша**". А як плахі... Ён іздохня, дак пакаленіе астанецца чарцінае.

**Аж душа баліць.**

Прыходзя: "Хачу выпіць – **аж душа баліць!** *Аж калачусь* – так хачу выпіць!" Ён прынёс доўг да і кажа: "Ты мне не пазычай болей грошай". – "А чаго?" – "А таго, што, знаіш, як нядобра стары доўг аддаваць?" – "А-а-а! Стары доўг аддаеш, і рукі калоцяцца?" – "Да. Ета так. Прынёс пяцёрку – як выкінуў".

**А ну ( яго) к чорту →У чорта сваіх да чорта.**

**Асінавая галава.**

(а) Усё ж прыходна было. Калі забудзіма, дзяды з намі. "Дзед, забылі песню!" – "А-а-а! **Асінавыя головы**!" Ужо падскажа нам песню. Красівая песня. Мы сядзім, на лаўцы, такія длінныя... Агонь жа бальшы. Наносім і карчоў, чаго зря наносім, гарыць, а мы ўжо сала тоя прягом. І ён з намі сядзіць, пряжэ сала: "**Асінавыя**, – гаворя, – **голавы**, забылі..." Падскажа нам, і сам будзя пець.

(б) Ну, пустыя. Я ня знаю. Усі казалі. Калісь Пецька, хрёснай сын, Пецька, я і яго брат у адзін клас хадзілі. Я гаварю: "Задачу пакажы!" – асобенна пісьмінныя, ён і будзя казаць: "**Асінавыя голавы,** *трухлявыя*! Вучыціль гаворя, а *трухлявым голавам* ня нада!"

**Аставайся, Саўка, са сваім таварам.** Гл. таксама: **Не паймаўшы сокала, пер'е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі.**

Бываець... Вот, напрымер, я табе скажу: "Вот ты гуляў з дзеўкай... Сабраў манаткі... Пашоў... "А ты **аставайся, Саўка, са сваім таварам**". І дзяцей прыгульваяць. І што-нібудзь урэду іздзелаяць. Ён сабраўся, пашоў. І дзед Майка ўсё калісь казаў на ўнучку: "Не давярайся, мая ўнучка, а то ён будзя гуляць, да *шкоду здзелая*. А ты **аставайся, Саўка, з таварам.**

**Атарваць сэрца → кажды Бога дзень.**

**Атарві-галава.**

(а) Калісь матка казала на Тусю: "Во ўжо **атарві-галава**!" **Атарві-галава –** быстры чылавек.

(б) Усі так гаварылі: "Ох! **Атарві-галава**!" У нас там былі... Ета бандзюгі... Ета **атарві-галава**. Еслі "**атарві-галава**" – ета ўжо ўрэдны.



**На адным кладаў'е кладуць і грэшных і вешных.**

**На адным кладаў'е кладуць і грэшных і вешных**... І праваслаўных, і хто ўбівая. Не кладуць дзе-небудзь, а кладуць там, дзе харошыя людзі... Там іх – і п'яніц, і ўсякіх. Ета наша баба Алёнка: "*Кладаўё ўсё прымя: і вешных, і грэшных*, і ўбіўцаў, і злодзеяў – усіх памяшаяць". На тым свеці ўсі будуць ляжаць – і нерабатні, і ўдалыя, і ўсякія, і злыя. І там – цішына і парядак. На етым свеці – і злыя, і крадуць, і ўсё дзелаюць, усякія пряступленія. А як на кладаўё паложаць, ямку закапаяць, там ні сваряцца, ні б'юць, ляжаць усі спакойна, усім места хватая". І, праўда: там усі адзін паўз аднаго ляжаць, і ім ні цесна, ні што, а тут адзін на аднога крывяцца.

**На адным месці і камінь абрастая (расце).**

**На адным месці,** гаворяць, **і камінь, і тый расце**: пыль на ём садзіцца, камянькі, і ўсё ж ўляпаіць, і камінь более. Хто ездзя ўсюдых, і толку не набярэ... Тусіна залоўка і там пабыла, і там пабыла, і назад явілася. Дак усё баба наша казала: "Танячка, ня ездзі нікуды. **На адным месці і камінь абрастая**. Хатачку пастаў з мужыком, прынясеш саломіну – яна твая, прынясеш дроў – твае, украдзіш бульбы – яна твая. А ета паехала, што купіла, ехаць назад, у кантэйнір нечага класць, і з сабой багата не возьміш... Усё нада выкідаць, да раскідаць... Павыкідаіш, павыкідаіш. Дак лучшэ ты сядзь на адном месці, да і сядзі". І яна нікуды не паехала, абжылася і казала: "Век дзіцям буду саветываць. А то ездзяць, шукаяць у мора пагоды, да і не найдуць".

**На белым каню паехаць.**

**На белым каню паедуць**. Усі так гаворяць. Як ужо нап'ецца, ён гаворя неўма што... Ну, ета ўжо "**на белым каню паехаў**".

**Набойкі дзешава стояць.**

Ня нада набіваццa. Гаворяць... Ета ж калісь так гаварылі ўсё. "Вон ужо набіваіцца дзеўкай..." Каторая замуж... Набіваіцца: "Да бяры маю..." Табе б ужо сказалі... У цябе б дзеўка была... І сказалі: "Давайця вашага хлопца із маёй дзеўкай... Да пажэняцца няхай..." Дак гаворяць: "Набіваіцца..." Там другі будзя казаць: "**Набойкі дзешава стояць**". Гаворяць: "*За няўдачу нада даць прыдачу*".

**На боль, на вока ўсё парушша ляціць.**

(а) Парушыны ўсё ляцяць у вока. Баба наша, як толькі возьмім, ці нагу дзе-нібудзь, калісь жа босыя... Ціпер у хаці і то... Прыдзя баба: "Во **на боль, на вока і парушша ляціць**". Наш Ягорка, ён вешна быў у больках. То нагу разрэжа... Босы ж... Такі малы быў: то нагу разрэжа, то ўпадзя с прясла. Калісь... Пряслы із жэрдак, і мы... Чорт узнясе і на самую вышню, во ідома па жэрдкі – хто лучшэ пройдзя, хто не ўпадзя. Вот упадзіш, паплачыш. Баба будзя казаць: "Во **на боль, на вока ўсё парушша ляціць**. Шчэ адно не зажывая, другоя – ужо *шкоду здзелалі*". Парушыны... Усякія

**Мне тут танкі не вадзіць.**

(а) Па хаце. **Мне ж тут танкі не вадзіць**, што цесна будзя. А раскошна... Прайціць можна? Можна.

(б) Хаты, напрымер, бальшыя, дак кажаць: "*На чорта* мне тыя хаты? Мне **танкі не вадзіць**". А танкі... Усі людзі чагось казалі: "**Што, танкі табе вадзіць**?" Во прыдзіма, сядзіма, сабіраімся багата людзей кала каго-небудзь. Выдзіш, палядзіш: сусед, ты сядзіш, к табе падыходжу, на лавачку... Увечары ўвесь быў прытон. Выдзяць, палядзяць, хто сядзіць кала двара. У нас ўсё кала дзеда Майкі. Хоць і не хочыш падыходзіць, выдзіш, ён усягда сядзіць, куря без канца і будзя казаць: "Эй! Вар'я, ілі Мар'я! Ідзі сюда! Табачку во на", – на бабу ці на мужчыну. Ну, і падыходзяць, падыходзяць, кала іх садзяцца. І будуць казаць: "Во цесна тут!" – "А як на тэй раз **танкі тут не вадзіць**! Хто куды прыляпіўся, і сядзі".

**Можа – на дваякі варожа.**

(а) Сяргей сказаў: "Можа, прыеду ў панядзелак". Дак **можа** – ён на **дваякі варожа**". Усё калісь: "**Можа – на дваякі варожа**". Можа, прыеду, а, можа...

(б) Калі ў грыбы ідзеш, я гаварю: "Баба, можа, набярома грыбоў... Дак ты грубку..." Яна: "**Можа – на дваякі варожа**... Прянясіцё, тады тоя і будзя".

**Наабум Лазаря.**

Што ета за доктар?.. Ні памацая, ні паглядзіць... **Наабум Лазаря** гаворя...

<**Наабум Лазаря** *– гэта як?*>

Тады ўсё казалі: "Што ты дзелаіш? **Наабум Лазаря** ня дзелай. А зделай трошкі, да харашо здзелай"

<*Яшчэ раз:* **Наабум Лазаря** *– гэта як?*>

Ну, я ні знаю.. Я табе аб'ясніць не магу... Усі казалі... Ці абуўся... "А ты **наабум Лазаря** абуўся.." Плоха...

**На адбор.**

Увечары сядзіма... Сабіраліся... Госпадзі!.. Ад Гіндарэвых і да Коршунавых – увесь сярёдак... А тыя аканчанні там ўжо... Но ў іх такіх дзядоў не было. У нас **на адбор** дзяды былі. У нас быў Барыс Петрачкоў, дак што ты! Ня ўладзіш яму... "Пра дурноя говораць, то песні, то... Ета ўжо прайшло". А етыя дзяды, Жаваранкаў, дзед Іванюшкаў, Кудлач, Коршун, як разгаваряцца, дак расскажуць, як гулялі з дзеўкамы калісь... Вечар пройдзя мінутай.

**На абіходку → Із сваёй зарплаты не будзіш багаты.**



(в) Ета такія бываяць, хоць кажы яму, хоць не кажы, ён сваё, што задумаў, творя. Дак гаворяць: "Ета **– атарві-галава –** чылавек". А ё ціхія мужчыны, і бабы. А ё такія, што ого!

**Атвалі, мая чырэшня.**

Еслі я во з Лайбай, яна міне ні за што абругала пры ўсіх. І я к ёй ні то шта *нагі ні накладаю* к двару к яе, і разгаварываць мая *душа не падыхні*, ні хачу. Такі ў міня харакцір. Ты міне абаср… – ну, і ўсё! **Атвалі, мая чырэшня**.

**Ахоту сагнаць.**

(а) *Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца*. Што тыя дзелаяць, то і яны. Яны разгаварывалі, і мы знаім. Яны ж чуяць усё ета. І прыпеўкі, і ўсё. Надзька, суседка, малая была... Дак яна пачула дзесь "палачка-ябалачка"... І пяе, і пяе. Карма і кажа: "Во ўжо што выдзелывая". Гадоў ёй была, можа, шэсць, можа, сем. Баба наша кажа: "**Ахоту згоня** і кіня. Не чапай". І дні тры... Карма: "Надаела". А тады ўраз... Гаварю: "Ну, пей жа сваю "палачку". – "Ужо, мам, ня хочу". **Ахоту сагнала**, і ўсё.

(б) **Ахоту сагнала**... Здаволілася. Ужо здаволілася. **Ахоту сагнала**. Як есць чаго хочыш… Наясіся. **Ахоту згоніш**, тады ўсё.

(в) Ета прыпеўка такая была... Хлопцы будуць... Пачанеш, другі падойдзя, схваця: "Ідзі!.." Пойдзя сам... У нас Хведзька Шараданкаў быў... Нізкага роста быў, поўны такі, тоўсты... Выдзіма мы танцаваць... За руку шматане: "*Ідзіця ік чорту*! Я буду танцаваць!..." Ету во пряпяе, а тады нябыльныя пачане пець... Сам **ахоту згоня,** тады кажа: "Ідзіця вы... Дурныя ногі біця..."

**Бабаноў даць.**

На вуліцы гуляім, пабягім, а дзела ні дзелаім, баба і кажа: "Счас матка прыдзя, ***бабаноў дасць***". Ета ***бабаны –*** абору знімя, да як ніжане!.." Наша матка *дзісцяпліну сабачаю дзержала*. Еслі гляня на нас, мы ўжо бачым, што без настраенія. Яна ўжо агледзіла, што ня дзелана.

**Баба с калёс, калёсам легчэ.**

Прыказка такая. Гаворяць: "**Баба с калёс, дак калёсам легчэ**".

<*Пра што так гаворяць?*>

Наш скажа: "Я паеду! І найду сабе места, буду жыць..." І гаварю: "**Баба с калёс, калёсам легчэ**". Я яму казала: "Ідзіце вы ўсі... Мне вы ніхто ні нада, дагледзяць мяне людзі... Сама сабе я яшчэ баню вытаплю, дроў унясу і вады ўллю."

<*Так казалі ня толькі пра бабу?*>

Да пра ўсё... Усі так гаварылі...

**Бабская работа век ня відна → Старая баба, як таўкач у ступі.**

**Баб'е (бабскае) лета.**

"Ціпер німа яго. Ета каліська у нас у дзярэўні **бабскае лета** ўсі зналі. А то вот прыкрацілася. Павуціння лятая...

Цёпла-цёпла... У канцы... Сенцябірь... У начале акцября... Дак ета – "**баб'е лета**"... Лятая павуціння... А што на поплаві... У нас за гародамы хаты, тады гароды, а тады загароджваюць гароды, штоб коні ні йшлі, каровы... Ужо поплаў... Дак там і на дзірэўях павуціння... Адкуль яно бярэцца?.. Пааснована... Ідзеш, дак аж белыя ногі будуць... Буркі... Штаны. Такоя павуцінне лятая... Гаворяць: "Во **бабская лета**... Павуціння лятае".

<*Чаму так называецца* "**бабскае лета**"*?*>

Усі так гаворяць: "Скора **бабскае лета**". Мы: "Баб, калі **бабскае лета**?" А баба і гаворя: "**Бабскае лета** Бог ня скрыя, а дасць". Ну, **бабскае лета**... Дзе мужчыны ё, дак скарэй упраўляцца... А як у калхозі даюць у канцы сінцября сена, дак ішчэ не ўпраўляцца. Мужчыны пакосяць, а ёсць бабы адзінокія, самы косяць... Напрымер, і ў калхозі кароў падаю... Да дамоў беч скарэй... Што-нібудзь прыгатоўлю... Касу бяру да іду касіць... І не адна... Багата баб послі вайны было... Удоў... Нада самой пакасіць і параскідаць, штоб скарэй сохла. Усюдых адной... А мужчыны... Ён кося, дзеці ці жонка раскідая... Помач была... Багата было баб... Мужчын папабіла...

Вот **бабскае лета**... Грабом сена... Было, што і марозы, вецер халодны... І грэблі... У вязёнках... І грэблі сваі пожні..."

**Багата будзіш знаць, скора састарысся... А меней будзіш знаць, крэпчэ будзіш спаць → Каждаму вашанку (шчанку) па станку.**

**Багачу чорт у капусту с... → Беднаму Івану німа нігдзе талану.**

**Балда дурная → Лезуць (дзяруцца), як жаба на корч.**

**Бараной весці куды папала.**
**Барана пашла.**
**Бараной пашло.**

(а) Яна не ўмея куды весць дажэ... **Вядзе куды папала**. Гарманіст, наш Ягор, каліська іграя "Серпіянку", яна пойдзя пад яе... Нада ж ладзіць пад калена. Ягор ладзя-ладзя, паставя гармонь, яна: "Чаго ты ня хочыш іграць?" Ён гаворя: "Ты мне ладзь! А мне нада ладзіць, куды ты вядзеш – ня ў той бок? Ты пад гармонь мне ладзь. Палядзі, Варька як пяе, Танька наша пяе. Я сяджу іграю, яны мне ладзяць. Я на гармоні сваім мацівам пяю. А ты куды **вядзеш бараною куды папала**?"

(б) Барана ўсё ж заскараджвая... Плуг адзін радок гоня і гоня, а барана ўсё заскараджвая – і харошая, і плахоя. Трэццяю жонку узяў, усё **бараной пашло**. Тыя харошыя былі жонкі, а трэццяю ўзяў. Ета хоча, штоб усё загрэсць сабе. Ён строіў – ета яго... Ты тут ні строіла...

(в) Унучцы атпішыш... Еслі па тваей смерці, дак ета тваё... Ішчэ будзіш жыць там... І то **барана пойдзя** ў хаце. Тады атпісаць, калі будзіш



пазычаць, за месяц не аддалі, за другі, за трэцці ... П'яніцы, а не людзі, ужо **махні рукой** на такіх людзей.

(б) І на Пянном – такія песні. Хто інцэресаваўся, ён забраў тыя песні, а хто – **махні рукой**, ён і ня будзя знаць.

І забывая чылавек... Я вот лягу, ня спіцца, я начынаю тыя песні паўтараць... Сама паўтараю... Думаю: "Можа, ішчэ год пражыву, хай лучшэ яна ў галаве будзя". І пряпяю катораю". А другі – **махні рукой**.

**Маць дрындалы**

Я ўжо ні знаю... "Майка, як дзела?" Калі скажа: "Херова!" А калі скажа: "Ну так сабе". А калі: "Дзяла... **Маць дрындалы**!" А дзе ён ета ўзяў?.. Мужчыны скрозь так казалі. Жаваранка дзед прыдзя. "Як дзела?" – "**А маць дрындалы**!" А што ета за **дрындалы**?..

**Маць мая родная**!

Я – як прывязаная к песням етым. Вот еслі я пачую, ета – *душа вон*, я даўжна яе навучыцца. Я ж іх ужо скольки знаю – **маць мая родная**! Хто – на што. Я – на песні.

**Маць хваць.** Гл. таксама: **Жадны два разы плоця, а дурны два разы ходзя. Як магнітам.**

Німа ўжо. Прышоў... Клаў, напрымер, тут во... Тады... **Маць хваць** – німа ўжо нічога. Хтось забраў. Хто гаворя "*Чорт машну сшыў*". Хто: "**Маць хваць**".

**Маша-расціряша.**

(а) Ета такая прыказка была. Гаворяць, як што шукаіш... "Ну, што ты шукаіш, **Маша-расціряша**?" – "Да тое і тое", – пакуль ужо найдзіш.

<*А на мяне чаму сказалі?*>

На цябе сказала... Думаю: "Ці ён зная, ці будзя шукаць, думаць, што дарогай пацяряў?" Райка прышла, і Райцы кажу: "Во **Маша-расціряша** – Ісакавіч... Шарх (шарф – Г.Л.) забыў". Яна смяецца: "Ну, не гавары... Што-та паложыш, шукаеш... Сам на сабе..." Усюды такая прыказка.

(б) Не забыў бы шарх.... Дак я б **Машу** не ўзгадала... Можа, і казала б к чаму-нібудзь... Я на сваю дзеўку... Прыдзя... Едуць, надзяюць чыстая, рабочая паскідаяць... Ідзе кладуць... Тады: "Баб, ідзе тоя?" Я гавару: "Во, **Маша-расціряша**... Паложыця... А тады: "Баба, ідзе?" І табе сказала...

**Мілая дзела.**

(а) Во якія мачыхі былі! Дак як такія мачыхі… Яна: "Во Кнур паехаў, **мілая дзела**! Хоць жраць ня будзя! Лучшэ парасёнку тоя..."

(б) Наш п'яніца паехаў, дак **мілая дзела**, што яго німа.

(в) Я: "Ну што, з'ехала Туся?"

[Грэцкі С.В.: "Паехала... Без яе **мілае дзела**... А то ўсё ёй ня так..."]

**Маліся Богу! → У дзеўках спорціць.**

**Маля – пакуль у начоўкі ўваля!**

Там адна ў нас радзіла ў дзеўках, маёй сястры Машы, Каця, гуляла.. Яна ўсё: “Ой, мая – малая”. А ўсё дзед Касцючкаў казаў: “**Маля – пакуль у начоўкі скора ўваля**!” Яна: “Што ты, Васіль, гаворыш на маю Кацю?” А ён: “Калі б я ня знаў, дак я б не казаў”. А яна: “Пачом ты знаіш?” – “А як яна табе **ў начоўкі ўваля**, тады ты будзіш знаць”. Усё м'аліла яе: “Мая малая. Мая малая”. А тая малая ўзяла, да *брюха нагуляла*.

<*Усе так казалі:* “**Маля...**?”>

Да, ета прыказка такая была. Усё ўсе казалі: “Вон у Коршунаў маля, усё маля была, пакуль у начоўкі ўваліла”. Ну, дзіцёнак жа ражаіцца, у начоўках мыяць. Ціпер – у бальніцах, тады ж – у начоўкі, родзіцца – памыяць.

**Манным куском пітацца.**

(а) Усяго хватая. І піцяння, і едзяння. Гаворяць: “**Манным куском пітаіцца**”. Калісь усі так казалі. Прыдзя: “Што ты ела?” – “О-о-о! **Манным куском піталась** сёдні”. Ета ўжо лучшэ быць ні нада. Ня кажаць: “Манным гурком...” Гурок – ета ўсё.

(б) Гаворяць, калісь манку толькі дзіцям куплялі, а ўзрослым яна дарагая была. Дак гаворяць: “Манны кусочык толькі дзіцям, а бальшым ні нада”. Дасць матка на ложачку: “Ой! Якая смашная! А ціперяка глядзець ні хочуць на яе.

Вот гаворяць: “Яны багатыя, дак **манным куском пітаяцца**!” А бедны дзе возьмя грошай? Ён будзя манным куском? Хоць бы бульбы...

**Марэц атмарозя ішчэ палец**.

**Прыдзя марэц, атмарозя палец**

Ішчэ ж у марце холадна. Усі так казалі: “**Прыдзя марэц, атмарозя палец**”. Мы гаворым: “Баба, ужо март прыдзя. Учора сонца было”. А баба: “Ідзіцё, хусты бярыця цёплыя, да завязыйця. **Марэц атмарозя палец**”. І бацька казаў: “Цёпла надзявайця. Март ішчэ халодны. Ішчэ ў Пост толькі, на Соракі пачынаяць праталкі”.

**Маскі (у сэнсе – мазгі) кліпаць (даўбаць, уклюваць).**

Хто брэша багата... Дак гаворяць: “**Ня кляпі** мне **маскі**...”

Ці – “ня клюй”, ці – “ні даўбі”.

[**Грэцкі С.В.**: **Ня кляпі** мне **маскі** сваімі разгаворамы.]

**Махні рукой.** Гл. таксама: **Галава мякінная; Хочыш быць брахай, нада быць і аддахай.**

(а) Хата як згарыць, кажуць: “**Махні рукой**, да і ўсё!” Ці памёр чылавек: **махні рукой**. Ужо ўсё! *Хоць разарвіся*, нічога ўжо ня будзя. Грошы



чуствавацъ, што табе *канцы будуць*. А то **бараной пойдзя**... І дачка, і сын будуць грэсць кажды сабе.

**Баяцца, як агня → Штоб вам Бог долі ня даў.**

**Баяцца, як чорт ладану.**

Сяргей **баіцца** арміі, **як чорт ладану**. Чорт жа ладану...

Ладун, па-мойму, кладуць у тую, што поп баўтая... На трёх цэпках... Дак кладзець туды... Ці ён керасіну налівая... Кладзе хоць... Ці з сасны смалы... Хоць свечкі паложа туда... А я толькі нюхну, і мяне сійчас ірваць цягне... Я тады ні магу... Так і ладану чорт баіцца.

Усё так казалі: “**Баімся, як чорт ладану**. А чаго чэрці баяцца...”

І ўсі так казалі: “О, **як чорт ладану, баісся**!”

**Бегаць упрочкі.**

Упрочкі... Ня паспеіш і сказаць, сабіраіцца і пайшла... Як паганая нявестка, што-нібудзь скажы... Сама будзя вінавата, і к бацьку пабягіць. Калісь у нас Ліда Манічкава... Штось пачалі... Свякруха: “Вот ня так ты дзелаіш”. – “Ня так! Дзелай сама!” Дзіцёнка на рукі і пашла к бацьку. І бегая. Сват мне і кажа: “Чота Томка ўсё **ўпрочкі бегая**? Што ты там ёй?” Я гаварю: “Так і так”. – “Падаждзі. Я атучу яе. Болей **ня прыдзя ўпрочкі**”. Послі, можа: “Плоха дзелаіш”. – “Я пайду к свайму бацьку!” Сабралася, прышла к бацьку. Прышла. Бацька: “Што такоя? Ты па дзелу прышла?” – “Да вот так і так... Свякруха...” – “Вон! – Да мацюком. – *Штоб твайго духу не было тут.* Ты мне ўжо надаела!” *Пратурыў, як сучку.* Жыць тут, дак жыві тут. І там *ні счытаюць за чылавека.*

Забірай дзіцёнка. Я цябе раз замуж аддаў. *Хоць задавіся*. Ідзі. Мне ўсё раўно. З тых пор – *як гужом уцяла.* Сабралася і пашла. Двор кідая. Ё і жонкі такія. Што скажыш, сабіраіцца і пайшла.

**Упрочкі** – сабіраіцца із хаты. Калісь усі казалі. Як толькі: “Пашлі **ўпрочкі** ўжо...”

Ягорка ці мы... Матка пачане ругаць, сабіраісся скарэй і пашоў на вуліцу. “**Ідзі ўжо ўпрочкі**! Не прыходзь большэ дамоў”. Усё адно прыходзіш. **Прочкі**... Я проста чула, што другія гаворяць, а аб’ясніць не магу. Як пойдуць: “**Пайшоў** ужо **ўпрочкі**”.

**Беднаму Івану німа нігдзе талану.**

**(Беднаму Івану німа ні ў чым талану. Беднаму Івану ўсё німа талану.)**

(а) Сяргей <унук> сказаў: “Баб, **беднаму Івану німа нігдзе талану**”.

<*Адкуль ён навучыўся так казаць?*>

Усі так кажаць. Куды ні пойдзя, усюдых яму недаступно. Усюды яму няўдача. Дак гаворяць: “**Беднаму Івану ўсё німа талану**”. Усі так кажаць. І баба. Пойдзім ці ў грыбы, ці ў ягады, напрымер, бульбу перякапыяць у

калхозі, начальнікавых не прагоняць дзяцей, а нас прагоняць. Баба: “А, мае дзеткі, **беднаму Івану німа нігдзе талану**”. І так усі казалі.

<*Калі ішлі ў ягады, маглі прагнаць?*>

У ягады... Калісь праганялі. Баба наша казала, праганялі – пан... Твой участак лесу, ты ня йімеіш права хадзіць у ягады... Мой участак. Багачы, як і цяпер, падзеляць усё. А так вот куды ідзеш ці адкуль ідзеш: “Ну, што там набрала (ці ягад, ці грыбоў)? Ці разжылася там?” – “Не”. – “А... **Беднаму Івану німа нігдзе талану**”. Тады Сярёжка і кажа: “А, можа, *і на нашым баку сонца засвеця*?”

(б) Прыказка калісь такая была: “*Багачу чорт у капусту с.., а* **беднаму Івану німа нігдзе талану**”.

**Без памяці (вельмі хутка).**

Сёліта гуркі растуць **без памяці**.

**Белая нядзеля**.

Завуць **белая нядзеля**, што ўсі і пабеляць, і памыяць... Ужо чыста... Самая паследняя перад Вялікаднём.

**Бельмы заліць.** Гл. таксама: **Воталь падняць На белым каню паехаць.**

“*Пад чадам*” – п’яны, і “**бельмы залітыя**” – ета адно і тоя самая. **Бельмы залітыя** гарэлкай.

<*А чаму кажуць і так, і так?*>

Ну, канешна, як **бельмы залле**, ён тады плетуханя абы што. *Пад чадам* – чалавек дурны бывая.

**Бельмы залівая і залівая**. **Залле бельмы**, дак у яго *казлы ў вачах*, ні помня, гдзе ходзя, што дзелая.

**Белы конь → Воталь падняць.**

**Без совесці → Ад камля.**

**Блаху падкаваць → І ткаць, і прясць і чорту падковы падкаваць. Як дубіна.**

**Блізну здзелаіш → Казлы ў вачах.**

**Бобу даваць.**

Вот боб на агародзе расце. Дак усё кажа: “Ну-ка, падыходзь! – калісь бацька наш. – Хто правініўся!? Счас **бобу буду даваць**!” Ета ўжо па ж... Ён нас ня біў. Матка, дак тая біла. Тряпкач – за тряпкач, абора – за абору: адніжа! Еслі *шкоду здзелаім* якую. Аборы такія длінныя, вітыя, калісь бацька віў, салому прынясець з гумна. Што-небудзь не паслухаем, загадае баба: “Ідзіце... Свінням!” А мы пойдзем, на вуліцы прагуляем. Матка



Ні нам яго варушыць, ні ні разрушаць, ні складаць. Дзед Сапог казаў: “Какоў прэкрасен мір!.. Но з ім-та раставацца нада”. І паміраў, казаў: “Ой, расчыніця хату, хоць я паляджу і воздухам…”

<*Мір і белы свет – адное і тое?*>

Увесь мір вазьмі: і лес, і паля, і травы, і людзі, і зверы, і насякомыя – ета ўвесь мір. І што ў свеці ё – усё міравая… Богам созданая.

**Лучшы ня нада → Чык на чык.**

**Лыка не вязаць.**

Ён прышоў. Яна ляжыць, **лыка ня вяжа** – п’яная.

**Ляжаць на баку →Выряй выляціў.**

**Ляпку ўтварыць (удраць) → Галава садовая чэрятам крыта.**

**Лясы тачыць.**

Сядзяць, разгаварываяць, будуць гаварыць дзень. Пойдуць перякусяць, зноў выходзяць, *перагаварываяць небыліцу*. А работаць! Ты ж гряду пасадзі! Гаворяць як і дзе. У нас гаворяць “*брэхні бряхаць*”, а там гаворяць “**лясы тачыць**”. “Што ўжо точыця?” А што за лясы? Я ня знаю.

<*На Амяльном так на каго казалі?*>

Ну, вот прыходзяць у хату, сядзяць там. Як свая сям’я, дак – не, а як вот ты сідзіш і я, ішчэ хто прыходзяць гуляць, я б прышла: “Ну, што вы тут **лясы точыця**?”

**Ляцеў певень чэряз рэку**.

Баба Вера прыдзя, суседка, да і гаворя: “А як жа дзела?” – **“Ляцеў певень чэряз рэку, да запеў ку-ка-рэку. Гаряваць цябе, Вера Іванаўна да веку. Во, горя за горям.** Нічога ня бачу добрага”.

І я казала... Як толькі што-нібудзь, я гаварю: “**Ляцеў певень чэряз рэку, ды запеў ку-ка-рэку...**” І Парукаў, як прыдзя: “Ну што, Дзічыкава, **ляцеў певень чэряз рэку, ды запеў ку-ка-рэку**? Ці ня пеў?” Я гаварю: “Запеў”.

І баба так казала, і дзед Майка, усі так казалі. Пры горю. Як горя чылавеку, гаворяць: “**Ляцеў певень чэряз рэку, ды запеў ку-ка-рэку. Гаряваць табе (Генадзій ці Варька) да веку**”.

**Мала кучу здзелаць.**

Дзеўка <унучка> цяперяка, во: “Я ў школу насіла якуюсь песню, перапісала. Пачытала, дак яны прасілі: “Прынясі”. Я на ўроках чытаю, дак дзеўкі ка мне да нагнуліся гурбой, а завуч прышла і кажа: “Што вы за **мала кучу** здзелалі?” А дзеўкі гаворяць: “Ета Варя пяе, баба напісала песню”.

**Малая пашэнька – дзелай іе харашэнька → Жыдкая бульба.**

папіў. Пірагоў Хрэля напякла, дак  ўжо...” Ета на дварэ раскладаяць, і ён дымам пахня...

**Летам і ў вераб’я піва → На Маслінке і ў веряб’я піва.**

**Лёгінька ікніcь табе. Лёгінька ніхай там (табе) дышыцца.**
Усё баба казала, як паміная каго: “**Ой лёгінька табе ікніся! Лёгінька дыхаць табе там**”.

**Лёгкі хлеб.** Гл. таксама: **Пакушай етага хлеба.**
(а) Штоб сядзеў, нічога не работаў. Калісь у нас брыгадзір быў.... Жонка яго... Мы копы носіма, а вясной бульбу сеіш, гной рукамы, у каробку наклодзіш і на каждаю бульбінку кідаіш, а яна *варон зганяя*. Трашчотку здзелалі, яна круця. **Лёгкі хлеб.** А мы гнуліся, сена гряблі, па тапіне копы носіш. Прыдзіш дамоў, дак рады б скарэй у пасцель.
**(б)** *Лёгкі хлеб у папоў... Развялось* іх*, як клапоў...* Ну, лёгкі хлеб... *У блатных лёгкі хлеб...* Ён рукамы не работая... Прышоў, з кармана выцягнуў... Пацапаў... Ты бярэш тут грошы, ён агледзіў... Прышоў, ціхонька рэзане... І грошы забярэ... І пашоў... **Лёгкі хлеб**... У яго ў кармане грошы ё...  Калісь у нашае бабы, нашае маткі цётка была... І павялі карову прадаваць... Карову забяруць, што налогі не хацелі плаціць... “Ну, давайця, а то забяруць карову...” Ну, павялі, прадалі на ярмалку... Дзед гаворя: “Давай я грошы схаваю”. А баба: “Не, ні нада...” У дзеда грошы забрала: “Давай, я лучшы схаваю...” У свой карман паклала....Пахадзілі... “Ну, давай, купім што-нібудзь...”  Ну, што яны?.. Камсы якой... Прышла, цап-цап-цап... “Дзед, ты мне грошы аддаваў?” – “Ты ж забрала грошы!” Цап!.. Карман разрэзалі, грошы забралі... А ў кармані... Яны ўжо бачылі... Ходзяць: дзе што хто прадае... Прадаў... Яны за тым... Ты прадаў карову, за табой ходзяць, назіраяць... Як зашоў у цеснату... Яны... “Лучшэ б забралі за налогі...  А так і налог вісіць, і грошай німа...”

**Лёгкі хлеб у папоў → Лёгкі хлеб.**

**Лізні да ў рот.**
Язык во... Губы лізні, да зноў назад у рот. Што лішняя гаворыш, дак: “**Лізні, да ў рот**”. Лішняя не гавары.

**Лупцоўку даваць.**
Чыстая плацця надзеніш на Вялікадня, дак баісся, штоб ні памяць яго, а то матка **лупцоўкі дасць**!

**Лучшэ белага свету.**
Гаворяць: “**Лучшэ белага свету**”.
Усі гаворяць: “Я так люблю… **Большэ белага свету**…”Што ты раўняіш ужо свайго жыніха ці нявесту к беламу свету?.. Белы свет – ета белы свет.



схваця: “Я вам **бобу дам**! Счас вы ў мяне палучыце!  *Будзіце век знаць*!” Ізнімая абору, у чатыры рэдзі складае, і тады ж ні штаноў у нас ня было, і трусікаў, падымая рубашку: “Станоўся!” І мы і слухаліcь. І яна пачыная па жопе, па голай. Як учысця! Ой! Вішчым, крычым і ўцякаем. Тады пусця: “Хваця! Ступайце другія!” І падыходзілі. А што будзіш дзелаць? А цяпер ім хоць кажы, хоць не кажы – ня слухаяць.

**Богам бажуся.** Гл. таксама: **На нож пайці.**
Ета за праўду. Вот ты гаворыш. Я гаварю: “**Богам бажуся!**” Ета ўжо праўду гаварю. І еслі ўжо і скажа любы чылавек, ужо скажа: “**Богам бажуся!**” Ета ўжо ад Госпада Бога, і ты ўжо ні імеіш права збряхаць.

**Бог Троіцу любя.**
(а) Выходзяць з іконай... Благаслаўляць <*маладых на вяселле*> той іконай, і вядуць у хату, кругом стала водзяць іх тры разы. **Бог Троіцу**, кажаць, **любя**. Так тры  разы абойдуць, тады саджаюць і частуюць іх.
(б)  Тры разы што-нібудзь... Два разы... “Давай і трэцці! **Бог Троіцу любя**”. Во выпіваць сядуць. Два разы... “А-а-а, давай і па трэццяй!”
[**Грэцкі С.В.**: “Во умрэць чылавек іли родзіцца чылавек... Па рюмкі выпіваюць, па ўтарой... “А давай па трэццяй! **Бог Троіцу любя**”. Во і пагаворка етая пашла. Тры выпіў і пашоў. Усё ўжэ.  Ета счас похараны, дак нажыраюцца так, што песні паюць.]

**Богу душу аддаць.**
(а) **Богу душу аддала**... Падохла... **Богу душу** ўжо **аддала**... Канец ужо... Нічога ня нада...
(б) Яго слядзілі. Яны здзелалі якуюсь гулянку... Культурна яго забралі, ён вышаў пакурыць ці, можа, выгукнулі, ніхто ні зная... Яны за яго... Німа і німа... Німа і месяц, і два... Толькі лёд раставаў... Дак ён зачапіўшы быў адзежай, разбрюз ужо... За яго, укадэхалі... Уб’юць гаворяць: “**Богу душу аддаў**”.
*<А калі проста памёр, не казалі так?>*
Казалі: “Во ўжо **Богу душу аддаў**”.

**Богу малісь, і чорта не гняві → І Богу моліцца, і чорту верыць.**

**Бог яго святы зная. /Чорт яго зная.**
(а) <*То вы сказалі* “**чорт яго зная**”, *то* “**Бог яго зная**”.>
Лучшы сказаць... Чорт – ета на ўрэднага. Во Сяргей работаў, грошы не аддалі, не расчыталі... Дак ета **чорт яго зная**, а можа, етыя расчытаюць... Ета **– Бог яго зная**. Лучшэ сказаць, штоб расчыталі. На харашога чылавека гаворяць: “**Бог яго зная**, а на ўрэднага, дак гаворяць “**чорт**”.
(б) Наша баба, напрымер, ні казала: “**Чорт яго зная**”. Усё: “**Бог яго святы зная**”. Вот што-нібудзь... І шукаіш чаго-нібудзь, яна: “**Бог яго святы зная**. Пашукайці-ка!” Пачанеш шукаць, і знойдзіш.

(в) У міне прывычка такая."**Чорт яго зная**". Ідзе палажу, што-нібудзь ні найду, гаварю: "**Чорт іго зная**, куды я паклала. *Чорцік Іванька, аддай маё, бяры сваё*!" Туды-сюды... Найду.

**Божа мой.** Гл. таксама: **Палкай не шыбнуць.**
Я сваю бабу і матку шанавала, **Божа мой**, як...

**Божа сахрані → Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**

**Божая пасцель.**
(а) Даўно нада **божаю пасцель** шукаць.
(б) Як памрэ – ета **божая пасцель** ужо *на век вешны*. Усё баба наша казала. Хто прыдзя: "А Сашка як?" Пытаяць пра бацьку, еслі хто дальні. Баба гаворя: "Ён ужо **ў божжай пасцелі**". Усі знаяць, што памёр.

**Бондарява карова.**
(а) Пойдзім гуляць, гуляіма, прыдзіма: "Мам!.. – Там, абедаць ці што... – "Ідзе вы, **бондарявы каровы**, хадзілі!? Вы, **бондарявы каровы**, пакуль не абойдзіцця ўсё Амяльноя, дамой ня прыдзіця!" Мы пытаім: "Баб!... – У маткі не пытаім, гаворым: "Баб, а што-та за **бондарявы каровы**?" А яна і гаворя: "Калісь бондарь быў. Бондарь бочкі дзелаў. Дак ён… У яго на зіму стажочык сена на карову, там тры ношкі набраць. Ён, говоря, пракармлівая кароў. Выпусківая нанач карову і ўдзень… Выпусківая, яна і пашла, карова… У чужы стог зайдзя, скубе, у другі зайдзя, есць. Убача хазяін: "А-а-а! Бондарява карова ўжо ходзя! Ужо нечым карміць, дак ходзя!" Адгоня, яна к другому стогу пойдзя, на агародах жа ў каждага стагі. І прыходзя, **як бочка**, дамоў, к вечару, ішчэ і вады ў лужыны нап'еցца. Матка на нас гаворя: "**Бондаревы каровы**".
І дзед Майка к нам хадзіў. Матка і будзя гаварыць: "Ты, як **бондарява карова**, ні абойдзіш усі двары..." – "Палашка, а перяд Вялікаднём во хадзіць па дворах!" Матка будзя гаварыць: "Чаго?" – "Чаго? Пайду: "У цябе ня гоніцца гарькуша?". "Гарькуша" – ён называў. "Ня гоніцца". – "Пайду, нечага мне тут дзелаць". Ета ціпер бражка тая із сахароўкі. А тады ж была хлебная, да з бульбы. "Пайду к Козырысі. Прыду. Там німа. К Мільчысі дай зайду: "Здароўця! Як здароўе?" Паляджу: гарэлка ня гоніцца, мне тут нечага дзелаць. Бачу: дымок ідзець. Пайду: тут лафа ё. Прыходжу: у разгары! "Во, здароўця вам! Ну, як жа? Хоць удалась?" – "Да на-ка во, папробуй!" Я кружку бяру, падыходжу, гаварю: "На-ка там, ліні!" Ужо ж паўкружкі ня будзя ліць! Льле поўнаю". А матка гаворя: "Ты ж бы сербануў, да і ўсё". – "Ну, як на тэй раз так не паложана. Нада, штоб я пачуствываў, што я выпіў". Матка гаворя: "Ты, як **бондарява карова**. Там наскубесся, тады пойдзіш у другом стагу... І дамой прыдзіш... І перязімуя карова".
(б) <*Вы сказалі:* "**Бандарява карова**". *Чаму* "**бондарява**"?>



**Лезя, як аса ў пузыр**.
Усё баба казала: "**Ні лезь, як аса ў пузырь**!" Так і яны ў начальніках. Плоха... Плоха... Як ты думаіш, Жырыноўскі б лучшы вёў? Той бы *глоткай браў*.
<*На каго казалі:* "**Лезя, як аса ў пузырь**"*?*>
Што-нібудзь дзелаіш, і лезя другі дзелаць што-нібудзь. Дак: "**Ня лезь, як аса ў пузырь**!"

**Лезуць (дзяруцца), як жаба на корч.**
Калісь пяюць, нашы ўжо пачануць. Пяюць гаразда. **Лезуць, як жаба на корч**. Жабы ж, во кладка, яны на кладку паўскакаюць і на беряг, і пачынаюць: "Каў!" Як авечкі блякаяць і кумкаяць. Дак усё баба гаворя: "Во, ужо авечачкі на копані закрычалі, босым можна хадзіць. Цёпла будзя". Яны ўсягда лезуць. Будзя лапачкай, і на кладку ўзбяруцца, сядзяць і пяюць сваі песні. У жабы – сваі, варона – сабе, каждая пціца па-свойму пяе. І каждая пціца – красіва сама па сабе. Або цвяток вазьмі. Усякі цвяток – ён жа сам сабой красіў. Я калісь пасвіла кароў, муражынка такая такая во, а на ём – галубенькі такі з белянькімы адценкамы цвяточык. Я думаю: "На што я, дура, яго, атарвала? Во, *балда дурная*! Ніхай бы рос. Ніхай бы цвіў". Так жа каровы з'ядаяць. І вот каровы, усё баба наша казала: "Каровы самы сябе лечаць, скаціна, і коні, і каровы, і авечкі". Яны травамы, травы ядуць. А травы ўсі – яны палезныя. Во будзя крычаць наш Ягорка. Малы быў, меньшы ўсіх, плача. То яго абіжаіма, то не даём што-нібудзь. Упрэцца: "Дай мне!" І будзя плакаць. Баба ўсё казала: "Ой, ты ўжо дзярэшся і **дзярэшся, як жаба на корч**. Не шквярніся, **як жаба на корч**".

**Ленінскі чай.**
**Грэцкая Варвара**: Ён дымком пахня. Баба казала: "Давайця ленінскага чаю!" Вот выносіма...
[Грэцкі С.В.: Як Ленін у ссылкі быў...]
Грэцкая Варвара: Ленін у ссылцы быў, варыў, у яго ж печы не было, шалаш быў, і ён варыў чай, абед варыў сабе ў лесі... На ссылцы ён быў... Казалі, штоб адтуль ён ні выязжаў... І чай еты... І лучшы німа, усе мужчыны казалі... Калісь дзед Майка казаў: "**Ленінскава чайку** сёдні напіўся. На дварэ паставіў казанок..." І ён дымам пахня. І праўда, такі смашны дым! Пахня дымком, воздухам... Смашней німа тога чая. Называўся "**ленінскі чай**".
<*Заварку дзе бралі?*>
[**Грэцкі С.В.**: С траў...]
**Грэцкая Варвара**: То травы баба зная. Еслі цвітуць ябланы, яна цвяткоў тых наабломя, яны пахнуць смашна. А Ленін браў там у лесі. У лесі ўсё ё: і смарода ёсць, і вішні калісь раслі... Калісь пойдзіма, як вішні, яна: "Ідзіця, у лесі панакідайця, хай прымаюцца вішанькі, да і растуць..." У лясу ўсякія травы: чарнішнік ізрывалі, багун... І Мелька калісь, дзядзька: "Сёдні чайку

**Кухталя даць. Кухталёў надаваць.** Гл. таксама: **Перясол на спіне, а недасол на стале.**

Думаю: “**Кухталёў надаю**, дак ён будзя спаць добра”.

**К чорту за пазуху – і туда ўлезя.**

Ета хітрыя людзі бываяць такія. Наша матка, еслі захоча што-нібудзь, яна і к начальнікам падлезя і пагаворя з імы. Наша матка цанілася. Усё калісь дзед Майка гаварыў: “Ух, Грэцкая! Ты **к чорту за пазуху і то залезіш**”.

**К чортавай мацеры →У старасці дзве радасці.**

**К чорту на кулічкі.**

Паехала **к чорту на кулічкі**. Ета далёка. І ў нас гаварылі: “Дзе ты была?” – “А *ў* **чорта на кулічках**”.

**К чорту ў пекла – і то даб’ецца (улезя).**

Такія прабітныя ё людзі. Другі табе... Ты яму кажыш, што ня нада, а ён усё раўно.

Во наш хлопец, яму кажы: “Сяргей, ну, дзесяць літраў закатаіма соку”. – “Нет! Я доўжын семсят літраў! Сказаў: семсят літраў надаўлю, штоб на ўсю зіму было!” Ета – **к чорту ў пекла ўлезя**.

**Ладзіць, як б'ольнай скуле.**

(а) Гаворяць: “**Ладзь, як б'ольнай скуле**. Што ні датронься да яе, так балюча. Гаварю: “Ты ўжо, *як б'ольная скула*. Ладзь табе ўладзіць”.

(б) **Яму памагай, дак ета ладзь скуле больнай**.

(в) **Ета ладзь і ладзь, як скуле больнай.** <*Шпалеры клеілі.*> Чуць ні так, во такая пасць: “Як ты дзяржыш!? Куды ты верніш!?” Яна тады спужаіцца і кажа: “У мяне ўсё абрываіцца… Ужо ня зная, як яму ладзіць…”Я б, напрымер, сказала: “Во так во павярні…” Я вышла, кажу: “Кідай! І дакуль ты будзіш пасць разяўляць? Нам яно ні нада…” І ўсі так казалі: “**Ладзіць табе, як больнай скуле, што ні датронься, штоб яна балела**? Ты скажы па-чылавечыскі. Наша баба была калісь: “Мая ўнучачка, во ета іздзелай, во ета так садзі…”

**Лапатай не ўб'ёш → Канём не ўб'ёш.**

**Лапці сплесць не ўмея.**

**Лапці ты ня ўмееш плесць** – абух! **Ня ўмея ня лапці сплесць**, ні прясла загарадзіць... Які-та чылавек, еслі ён ня ўмея ні х... дзелаць. Я счытаю, еслі самастаяцільны чылавек, ты доўжэн, што ня бачыш, усё ўмець... Ты доўжын сам... Ты так-ня так здзелаіш, а ў другі раз так здзелаіш. Ты ўбачыш сам, што ня так.



Ну, там бондарь быў... І пашло... У любога... Вот твая карова... “Забірай **бондаряву карову** сваю!” І пашла, і пашла прыказка.

<*Ідзе бондар быў?*>

У Закружжы. Там бандарь быў, што бочкі дзелая. Ён лета праработая, а сена не накося, говоря: “Пракорміцца карова і так”. Уранні адчыняя, пашла карова, к табе к стогу падойдзя. А ўдарь карову, скалеч, скажаць: “Адкуплій!” А хоць ён прыдзя... Цяпер ж, знаіш, *зямля гаворя*.

<Што значыць: **зямля гаворя**?>

Ціпер ж знаіш што? Німа, уродзі, нікога. А ўжо чуіш... Сікрэт малінькі. Я табе, а ты *па сікрэту*, там, жонцы, а жонка ішчэ каму... Цяпер *зямля гаворя*.

в.<*Чаму* “**бондарява карова**”?>

Ну, бондарява... І ў цябе ня ходзя карова па чужых стагах, і ў мяне... Яна вот увосень прывыкла па агародах, к каму не абгароджана, яна зойдзя, бульбу капаяць, кучы... Ці пайшлі на абед... Такая была бондарява карова... Яна адна ў нас на сяле была. Бондарь быў... Яны яе не глядзелі. Як ідзець карова нанач, яны ідуць глядзець, дзе іхняя карова.

<*Па другіх сёлах так не казалі:* “**бондарява карова**”?>

Вот у Закружжы казалі. Мы не хадзілі па чужых сёлах. К нам прыходзіла баба Галя... Там быў пасёлак... Тады **–** Закружжа, тады **–** Пянноя і Сярэдні: яно ўмесці... Гаворыць пра адну маладзіцу: “А-а-а! **Бондарява карова**! Красён ня выткала!” К Вялікадню, штоб паткалі ўсі кросны. Гаворя: “Яна **– бондарява карова**. Пахадзіла па дворах і лёну не папряла”. Мы зналі пянноўцаў, світкоўцаў... Закружжа, Марозаўка... Барьба, як праходзілі, хадзілі мы ў Ветку. Ета нашыя пасёлкі, астальныя мы ні зналі. Мы думалі: “Там і людзей німа, не жывуць”.

<*Па ўсіх сёлах быў свой бондар з каровай?*>

Ён адзін быў. У Закружжы. Яна, ідзе хоча, ходзя. Карова промысел імея тож.

**Брат ты мой →З канцамы.**

**Братцы, братцы, пакрадзены яйцы. Было тры, стала чатыры.**

(а) Што-нібудзь шукаяць і ні найдуць, дак усё баба наша казала: “**Братцы, братцы, пакрадзены яйцы. Было тры, стала чатыры**”. І вот мы чаго-нібудзь шукаіма... У нас Ягорка быў, дзе разуіцца, і кіня там, наскоў жа не было, парцяначкі. І будзя назаўтря ў пячурках, на печах перярываць усё. Баба і кажа: “Ой, **братцы, братцы, пакрадзены яйцы.** Ніяк ні найдзіш. А дзе ты разуваўся?” **–** “А я на печы клаў...”

(б) <*Так казалі, калі што-небудзь шукалі і не маглі знайсці, а потым знайшоў нехта іншы?”*>

Да. Яна гаворя: “Во! **Было тры, стала чатыры**! Во мой унук, нада ўсягда – разуў, за сабой убяры”. Вот паклодзя шапку, сядзець будзя за сталом, шапку бярэ і шыбне на караваць. Ну, зарыіцца то тым, то тым шапка тая. Тады будзя хадзіць: “Я вот тут клаў шапку”. Баба: “Дзе ж ты

клаў, калі ты шыбаў туда. Ідзі туда шукай”. – “Баб, я не найду!” Баба пойдзя, найдзя.

(в) **Братцы, братцы, пакрадзены яйцы. Было тры, стала чатыры**. Нож шукалі, а ён у шкафчыку ляжыць. А шукалі ўсюды...

**Брэхні бряхаць.** Гл. таксама: **Лясы тачыць.**
**Як брэхні бряхаць**, дак лучшэ пець.

**Брюха (пуза) нагуляць → Маля – пакуль у начоўкі ўваля.**

**Брюха нажыць → На ашыбках вучыцца.**

**Бряхнёй далёка зайдзіш, ну, назад ужо не вернісся**.
Казалі: “**Бряхнёй далёка зайдзіш, ну, назад ужо не вернісся**...”
<*Чаму так казалі?*>
Таво шта набряхаў ніпраўды, дак ужо ж стыдна вярнуцца назад.

**Бряхню малоць → Пагаварыць, як вады напіцца.**

**Бряхню тачыць (гарадзіць). На бряхне стачыцца**. Гл. таксама: **Куросання гарадзіць; Сыпіцца (сыпаць), як з рукава. .**
**Бряхню точа і точа**. **На бряхне стачылася.** Як точыцца нож. Бряхню сточыш, а назад ужо не вернішся. Ета ж як праўду, іё рэжыш бесканечна. Во мне песню памінай, скажы мне тую, я іё і на маціў, на ўсё... А як бы бряхню... Як жы ты песню збрэшыш?

**Будзя (хто-небудзь) век знаць (помніць) → Бобу даваць; Вывярнуць наізнанку.**

**Будзя і пагода, будзя і нягода**.
Будзя і дожч... Нягода ж...Такая пагода.... І дожч бывая. Другі раз, дак па нядзелі шуруя дожч. А тады пагода. “Калі б не было, – гаворяць, – нягоды, дак і пагода... Плоха, і тоя плоха, як адно...” Усі казалі: “**Будзя пагода, будзя нягода**”. Казалі: “Хто намоча, тэй і высуша”. Сонца скрылася, дожч пайшоў, намачыў зямлю, а тады выскаліцца сонца – і пагода, і высыхая.
<*Хто намачыў?*>
Мы гаворым: “Баб, хто намачыў?”. – “Бог да сонца. Як Бог дасць пагоду, дак будзя пагода. Ці прырода так ужо...”

**Бучу падняць.** Гл. таксама: **Воталь падняць; Тробіл падняць.**
(а) <*Вы раней казалі, што баба казала, што Куліна на Майку* ***т*робіл падняла.**>
Ругацца пачаў – вот табе: *тробіл падняў*. І я на свайго на бальшога гаварю: “*Не падымай тробіл*!” Як вып’я: “Тоя ня так! Тоя ня так!” **Бучу**



**Курвячыя вочы.**
<*На каго казалі?*>
Хто плоха дзелая. Сёдні абкрадзя ці абругая, і зноў к табе прыдзя. Дак ета чылавек? Ета ўжо **курвячыя вочы**.

**Куросання гарадзіць.**
**Гародзіш, як куры на куросанні**
(а) “*Куросання”*, – гаворяць. Еслі будзіш гаварыць, да няточна. Ты ня знаіш точна як сказаць. Будзіш гаварыць: “Уродзе, так, уродзе, так”. Я буду на цябе гаварыць: “**Гародзіш, як куры на куросанні**”. Ета скрозь баба наша і матка казалі, і дзед Майка.
(б) Куросання... Усё калісь баба гаворя, пачане хто... *Бряхню точа*, дак будзя баба гаварыць... Ці прясць... *Сусолак навешаіш*... Другая на трубачцы перярвецца, баба ці матка будзя казаць: “Во ўжо **куросання згарадзіла**! *Сусолак навешала*!” На куросанні курыца ж йдзе разгрябе, там сядзя і яйцо нясе. Вот куросаннем завуць. Ці гаворя хто бряхню якую, баба будзя казаць ці матка, любы, і ты б сказаў: “Што ты *бряхню гародзіш*? Што ты **куросання гародзіш**?” Куросання – куры сядзяць там, там яны і серуць, і гняздо... Другая курыца снясецца і, еслі хочыш, кучу наваліць – ета…

**Курыны дожч.**
Ні дожч, а *курыныя слёзы*. Усі так казалі, як малы дожч, баба: “*Свінны дожч* ідзець”. Ета малы. Хоць будзя казаць: “**Курыны дожч**. Капнуў, да і ўсё”. Мы гаворым: “Баба, а чаго ты так гаворыш?” – “А ў курэй слёз німа на вачах. Куры век не плачаць. Усё скакочаць”.

**Курыны розум.**
Што ў памяці было, я ўсё выказала. А багата ішчэ ня ўздумала. Вот калі ўздумаю ноччы, а ўстала ўранні, забыла – ужо **курыны розум**. А хто кажа – **курыны розум**... А калісь Манька Жаваранкава на свайво свёкра казала: “У цібе ўжо *конькі розум*”. А ён гаворя: “У мяне ў срацэ болей розум, чым у цябе ў галаве”.
<**Курыны розум** – *гэта што? На каго так казалі?*>
Ета, як хто забудзя: “Ой! Забыла”. – “У цябе што, **курыны розум**, што ты забыла?” Куры ж, гаворяць, далёка зайдуць, тады ня знаюць, куды дамоў іціць.

**Курыныя слёзы → Курыны дожч.**

**Кусок дурака.**
**Кусок халуя.**
Абы што будзя гаварыць, небыліцу. Гаварылі: “А ета **кусок дурака, кусок халуя**”. Хто заве – “халуй”, а хто – “**дурак”**.

**дома**”. Я дзеду Майку сказаў, а ён: “Бяры якая ё! *Крывую кабылу ніхто ня ўкрадзя, а крывую жонку ніхто не палюбя*”.

(в) А другі быў, яму казаў дзед: “Я чуў, Васіль... Гаворяць, ты дзеўку тую бярэш, што яна крывая, храмая на нагу, у яе адна нага карачэй”. А ён кажа: “Дзед, ета *няважна, што яна бумажна, ліш бы шымацела*”. А ён: “Ну, дак вот, мой унук, як хочыш...” І другі яму. А ён: “Скажы, што **крыва-хрома, агледзіш дома**”. Ужо тады позна будзя глядзець, як яна будзя кавыляць, да саўсім разбаліцца дома...” І, праўда, прышоў, дак яна на цыпачках хадзіла... На адной назе, як нада, хадзіла, а на другу нагу на пальчыках. А ужо пасля... Бярэменная... Нага ішчэ худжэй... І пашло, і паехала... Ён біў яе гаразда... І: “Крывая!..” – на яе... А яны: “А ты ж казаў: “**Крыва-хрома, агледзім дома”.** Во табе: агледзіў дома. Нада глядзець спярва”.

(г) <*Калі яшчэ так казалі?*>

А што ня так, яны гаворяць: **“Крыва-хрома – агледжу дома**!” У нас Арцёмачка жаніўся, дак там сказала адна: “ Яна ж храмая. Ета ты не разгледзіў. Яна на пальчыках ходзя, штоб ужо замуж папасць, а ты не разгледзіў”. А ён: “А-а-а, мне дзед Івоня і сказаў: “**Крыва хрома, агледзіш дома**”. Я дзеду Майку сказаў, а ён: “Бяры якая ё! *Крывую кабылу ніхто ня ўкрадзя, а крывую жонку ніхто не палюбя*”.

(д) Я гаварю Сяргею, што дарагія уколы. А ён: “**Крыва-хрома – агледзім дома**. Заплоціма раз. Во грошы ё — грошай німа. Ета, штоб ты не ждала ночы, і ўрачы кала цябе не сядзелі і не спасалі”. Грошы б ляжалі, і мы ряшылі іх — пользу здзелалі.

**Крывую кабылу ніхто ня ўкрадзя, а крывую жонку ніхто не палюбя.** Гл. таксама: **Крыва хрома – пагляжу дома.**

Вот гаворяць, як плахая: “**Крывую кабылу, ці – гарбатую кабылу, ніхто ні ўкрадзя, а жонку крывую, ці нікрасіваю, ці аднавокая ніхто не палюбя**...” Усі так казалі. Каму сліпая ці крывая нада...”

**Куды вароні ні ляцець, дак г… даўбаць →Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца.**

**Куды не варочай, дак усё адно ў бабы карочай.**

(а) Усё раўно, ходзя бацька па двару. “Разышліся, – гаворя, – дзеці... Мачыха паразганяла, а мне ўсё адно горя жыць... І пры дзяцях было, і без дзяцей. Раз ужо жонка – сатана, дак ужо тут, куды не вярні...” “**Куды не варочай**, – кажаць, – **а ў бабы карочай**”.

(б) Так гаварылі скрозь. Усё будзя казаць Майка: “А бабы жывуць! **Куды не варочай, дак усё адно ў бабы карочай**!”

**Кукіш палучыць → Гарод любя гарбатую бабу**.



**падняць.** Тробіл – ета сварка, а **бучу падняць –** ета бой. Ета ўжо б’ецца чылавек. А тробіл – ета языком.

(б) <*Варя* <унучка> *сказала:* “**Падняў тробіл**”?>

Ну, *сварку* падняў. Варя гаворя: “*Тробіл падняў* ужо”.

<*Вы яшчэ сказалі:* “**Падняў воталь”.**>

Адное і тое... Ці *хай падняў* у хаці.

(в) <**Хай падняць** і **тробіл падняць –** *адно і тое?*>

*Сварку як падымаіш*: “*Не падымай хай*... Хаю ня нада ў хаці”. *Тробіл не падымай*. Каму якоя слова на язык упадзе.

**Быць у етай (той) кашы.**

(а) Ета ўсё баба... Ідзе б’юцца, дак яна і гаворя: “**І вы ў той кашы былі**?” І ўсі так гаварылі: “Можа, **і ты ў той кашы быў**?”.

<*Гэта калі толькі б’юцца, ці яшчэ калі?*>

Не. Вот мы хадзілі... Калісь парцізаны былі на Вялікім бугрэ, блізка кала нас... У лесе... Дак мы сабіромся... Хлопцы ідуць.. І мы ідома... Яны: “Дзеўкі, сёдні куды пойдзім? Давайця, штоб нашы ня зналі...” А нашы баяліся, бацькі да маткі, што, бывая, немцы прыедуць, да паймаяць у лесе... Скажаць: “Парцізаны”, да сем’і... Дак мы ўжо пойдзіма... “Ідзе вы шалаліся?” – матка будзя пытаць. Мы гаворым, куды бряхаць: “Хадзілі на Вялікі бугор”. – “А як бы немцы? Сказалі б: “Парцізаны”. Пастрялялі б і нас, і вас”. Козырыха прыдзя: “І вашы Туся і Варька **былі ў етай кашы**?” Баба: “Былі там чуць не первыя”.

(б) Я свайму Сяргею скрозь гаварю. Як прыдзя: “Вон там хальчане[15] біліся з веткаўчанамы”. Я гаварю: “**І ты ў той кашы** быў. Ты ні мінеш. Я па табе знаю, што ты за друзей пойдзіш”.

(в) Казала Дзянісу: “Палкай агрэю...” **І ты ж у етай кашы**... Нет... Усё раўно падкраўся... Сфатаграфіраваў... Аляксеяўна кажа: “Ісакавіч не вінават”. Я гаварю: “Ён – зачыншчык! Яны ўзялі, згаварыліся... Можа, ішчо ішоўшы...

**Ваду варыць (з каго-небудзь, над кім-небудзь).** Гл. таксама: **Ні з кожы, ні з рожы.**

(а) Мачыха другая сваіх жа дзяцей жалея, а няродных дзяцей ужо... Напрымер, у цябе няродныя дзеці... Дак яна цябе скажа: “Ідзі, будзі!” – “Дак, а свае?” Калісь Мелька казаў: “А свае?” **–** “Мае ніхай спяць. Я за іх дзелаю”. І гаворяць: “**Ваду варя** над чужымі дзіцямы”. Ціпер жа па-новаму гаворяць, а тады ж...

(б) Еслі мачыха, там, ці хто ўрэдны, дак гаваряць: “Ва дварэ *ваду варя да кіпятка*”. Еслі ўрэдны чылавек. Як наш – *як чорт у лапцях*. Еслі ні нап’ецца, дак шчэ можна гаварыць. І то, штоб па яго было.

[15] Жыхары вёскі Хальч Веткаўскага раёна.

**Вадой не замуціць.** Гл. таксама: **Як ціхае лета.**

Баба Алёна меж усяго Амяльнога была... **Вадой** нікому **не замуціла**. Ёй усё харашо. Яна век не пасварылась ні з кім. Усё ёй харашо, усё ладна. Век нікому перяка слова не сказала.

**Варон зганяць → Лёгкі хлеб.**

**Ва ўсі поры → Шчырага каня ў повадзе заводзяць.**

**Ва ўсю нагу (ехаць, бяжаць ды інш).**

Я яму і кажу: "Ета вы **ва ўсю нагу** ехалі". Калі б не **ва ўсю нагу**, ціхенька, і добра б было". Ета Майка. Як толькі ношкі сена, саломы, наложа: "Нясіця. Толькі **ва ўсю нагу** бягіця!"

**Век жыві, век вучыся – і дураком памірай.**

(а) Гаворяць: "**Век жыві, век вучыся – і дураком памірай**..." Усі тады казалі... Як хто ашыбецца ў чом: "Ну, што ж?... **Век жыві, век вучыся – і дураком памірай…**"

(б) **Век праўчыўся, і дураком памрэ**... Я яму казала: "Грыша, сколькі ты гадоў праўчыўся? І дзесяць класаў кончыў, і пяць гадоў на лётчыка, і акадземію імені Жукоўскага у Кііві... І дураком памрэш". Ён смяецца.

**Век пражыць – не каробку сшыць. На вяку прыдзёцца варыць і ў гляку.**

(а) Каробку сшыў і... А ета... Усяго бывая на вяку. Калісь баба наша казала: "**На вяку прыдзёцца варыць і ў гляку**". *Гірячкі* называлася. Во глёк, ты знаіш... Гліняныя гаршкі, макотрыкі, міскі... Вот глёк... Разаб'ецца, там, верьх... Абрэжаць... Такі напільнік стары... Баба роўненька рэжа, піля... Гліна ж... І называліся "*гірька*". Во у тэй гірьцы баба і варя што-нібудзь. Калісь жа беднатa была, недзе была грошай узяць.

<*Пра што баба казала:* "**На вяку прыдзёцца варыць і ў гляку"***?*>

Баба казала: "**На вяку прыдзёцца варыць і ў гляку**". У гірьцы той варя, да і гаворя: "Усяк бывая". Бедныя і багатыя. І цяпер такія. На вяку...

<*Пра што баба казала:* "**Век пражыць – не каробку сшыць**"*?*> Ну, вот будзя казаць: "**Ну, век пражыць – не каробку сшыць**". Ну, што там каробку сшыць?

<*Што за каробка?*>

Каробкі дзеляць... Карзіны ж плятуць з лазы бульбу капаць... Ана круглая... Абруч такі, і плятуць з лазы... Дзелаяць рэбры, і лазінкі туды і туды... І яна лёгінькая... Высахня... І *пачопку* дзелаяць... І бульбу капаіш, траву свінням ходзіш... Называіцца каробка.

<*Пачопка – гэта што?*>

Абора такая. Круглая... І на адзін бачок, і на другі... І на плечы павесіш... Пойдзіш у траву, у грыбы хадзілі с каробкамы... То ж у руках нада несць...



(б) Калісь матка мая ўсё казала: "Німа во грошай. Нада к Вялікадню купіць і табе, і табе – усі ў новінькім будуць". Калісь к Вялікадню новінькая куплялі. "Дак **кручуся, як вуж у вагне**. І не з чыга чаго ўзяць". Дак мы ўжо к Вялікадню... Як цякун... У цякун ходзіма. Цякун мы назбіраіма, панясом дамой, матка яго пераработая, прасуша, прасея, і тады здавалі. Кілаграм – дваццаць пяць рублей. А дваццаць пяць рублей, знаіш... Ого! Па пійсят капеяк была метра тавару. Да не йдзе ж была ўзяць. Ездзілі ў Кіiў. Пойдама, бярома вёдры ці даёначкі і ідома ў цякун. Прыходзім: "Мам, ета к Вялікадню штоб нам на плацці. Прыхавай грошы". Матка і гаворя: "Ну, добря. Схаваю, як улежаць. Налог жа нада..." Тады ж налогі былі бальшыя. А то **круцісь, як вуж у вагне**: дзе што ўзяць?

**Круціцца, як мядзведзь.**

"Ражаство ідзецць. Ужо паверніцца мядзведзь... На адном ляжыць, а ета ўжо мядзведзь перяверніцца на другі бок у спячцы. Ета ўжо будзя меніць ноч". І я тоя запомніла. І вот будзіма... Паўз сцяну Ваня ляжаў, тады Маша, тады я, тады Туся, тады Ягорка, і баба... Ён каля бабы... І будзім варочацца, варочаца... То ня спіцца нам... Я была, *як жыгала*... То перявярнусь... "Баба будзя казаць: "Варячка, ішчэ мядзведзь не варочаіцца другім бокам. Так шта ляж ціхінька". – "А то што будзя?" – "Мядзведзь прыдзя ноччы із лагва свайго, да із'есць".

Гаворяць: "Мядзведзь з етага ўрэмя перяварачываіцца на другі бок. Ён на баку ляжыць. А ета перяварачыіцца, пашаволіцца. І будзя патрохі перяварачывацца на другі бок".

Первая мета: сонца паварячыіцца. Ужо сонца на мінуту будзя раней узыходзіць. Калісь гаварыла баба. Сонца павярнулась ужо, і мядзведзь павярнуўся.

Калісь усё баба казала: "**Не круцісь, як мядзведзь**, на другі бок".

**Круціцца, як сабака ў мяшку.**

Сабаку ўвяжаць... Лягчаць сабаку... Як жа яго?.. У мяшок нада... Вот у мяшок... Да шчэ на галаву, штоб не кусаўся. Як хто круціцца, гаворяць: "**Не круцісь, як сабака ў мяшку**!"

**Крыва хрома – пагляжу дома.**

(а) Калісь у нас жаніўся адзін, дак яны гаворяць: "Яна ж – крывая". А дзед Майка сядзіць да гаворыць: "Васілёк, скажы: "**Крыва-хрома – буду глядзець дома**". Тады дамоў прышоў, да на яе: "Крывая! Я ж ня знаў, што ты крывая!" А дзед Майка гаворя: "Агледзіў дома? Нада была там глядзець".

(б) А што ня так, яны гаворяць: "**Крыва-хрома – агледжу дома**!" У нас Арцёмачка жаніўся, дак там сказала адна: " Яна ж храмая. Ета ты не разглездзіў. Яна на пальчыках ходзя, штоб ужо замуж папасць, а ты не разглездзіў". А ён: "А-а-а, мне дзед Івоня і сказаў: "**Крыва хрома, агледзіш**

**Кроў з малаком.**

Парэнь – **кроў з малаком**. Ці дзеўка. Самае ў гадах. Усі так кажаць. Во як поўная дзеўка  ідзець. На мяне не казалі. Я такая была тонінькая. Гаворяць: “Во ета дзеўка – **кроў з малаком**!” Ці там хлопец  – такі карянасты.

<*Вы казалі, што да пейсяці гадоў чылавек малады –* **кроў з малаком**. Ч*аму* **кроў з малаком***?*>

**Кроў з малаком**... Парэнь сам сабе... І здароўем, і сілай, і ўхваткай... Усім...

**[Гаравая Т.С.**:

Мне кажыцца... Ліцо... **Кроў з малаком**... Эта значыць – розавае, красівае, маладое...]

**Кроў із носа → Пражылі, не замецілі – калі.**

**Кроў на вочы наляжа.**

Мы гаварым: “Дзед! Як ты сцеряжэш салому, а як хто прыдзя, да палкай цябе ўдаря?” А ён гаворя: “Як такія прыдуць, як ваша сям’я, дак ніхто ня ўдаря, а як каму **кроў на вочы наляж**а, тэй згубя цябе толькі так. Ну, у мяне (у яго дубовая палка. – Варвара Грэцкая) я як свісну, я яшчэ крэпкі, хоць за гарлянку вазьму – усё, жывы не пойдзя”. А Ягорка наш гаворя: “Дзед, а як мы прыдзім, а ты падумаіш, прышоў тэй, хто **кроў на вочы наляжа**?” А ён: “Я вас па топу, вы ічшо топаіця ка мне, а я ўжо чую, што вы”.

**Круглая (ы) сірата.**

Матка скрозь і ў выбарах была... Вот выбары, нада там сядзець... І ў магазіні таргавала... Яна была вумная. Толькі два класы кончыла. Дак *на чорта* тых дзесяць ціперяка ці адзінаццаць? Такая яна вумная была. Штоб з яе было, калі б яна далей пашла? А **сірата круглая** была. Ні маткі, ні бацькі. А дзед і баба скарэй замуж аддалі: “Ідзі. Хлопец харошы, пачотны”. Дак яна пашла замуж. Да дзяцямі абманталась.

**Круціцца, як вуж на (у) вагні.**

(а) У бальніцы была. Вукол дадуць, **круцісся, як вуж на вагне**. Хлопцы ўкідалі. Паймаяць вужа на балоці, вот палку возьмяць, переломяць, шукаяць: йдзе вуж. Еслі пакажыцца дзе-нібудзь... Ці ў ягады пойдзім... Палку раз і яго хватаяць, зажмуць, ён пішчыць-пішчыць, аж сіпіць, а ужо ж ён ня вырвіцца адтуль. Яны тады: “Дзеўкі!..” Лісця, сухую траву рвома, накладаіма... Яны дзяржаць яго на палцы, а тады агонь разгарыцца, яны кінуць... Ён кідаіцца, ня зная куды... Усё гарыць.

< ***Цякун*** — лекі: цікун, цікунец  — пылок, які збіраюць з дзерязы..>



Цяжола, а ета на плечы павесіў. Яблакі мы насілі, штоб ня цёрліся, у Злынку[16], і каробку бралі.

У Дзям’янках...[17] Там дзелалі *кашалі* называлісь... З бярёсты... Еслі бальшая бярёза, і яны з бярёзы аблупліваяць тую кажуру, бярёсту, і дзелаяць кашалі – красівыя і лёгкія, і на плячах добра насіць. Мне калісь свякруха дала: “На табе кашэль. Будзіш ягады насіць”.

<*Як называўся, што баба адпільвала?*>

Гірька.

<*Яна ў гірьцы варыла?*>

Да.

<*А казала, што ў* ***гляку***?>

У гляку. Яна ж та з глёку здзелана – гірька. Бывая глёк бальшы – бальшая гірька бывая, малы – маленькая. Не выкідалі. Баба абчысця, яна ні рэзкая, слізінькая... У  гірычцы той варяць.

(б) Пражыць –  ета нада ўсяк. Другі пражыве хітра, другі абы як пражыве. Другі работаць ня хача – пражыве, а другі, *як гел*, работая.

Каробку сшыў, а ета ж доўга... Нада абдумана жыць. А другі жыве: сёдні пад’еў, а пра заўтряшняя ня думая: ці ё кусок хлеба, ці німа.

А каробку сшыць ці звязаць, дак ета тфу, да і ўсё. А жызня –  ета жызня. З лазы каробка, хто бульбу капаяць, сеяць із яе. А жызнь пражыць... Другі пражыве лёгка, хітра, не работая век, а другі работая. Усякія ё людзі нахальныя, яны нахальна жывуць... Ён *не глядзіць ні стыда,* ён *не глядзіць ні совесці*.

<*Каробку лёгка зрабіць?*>

Давай лазу, я табе сплюту яе *хоць бы хны*. Я калісь не прасіла нікога. Купляяць –  руб каробка. А дзе тых рублёў возьміш. Яйцы нада прадаць у Свяцкой, да каробку купіць. А яны зrламадзяць, і тады вынясіць: “Паглядзіця! Крэпкія!” А яны туды-сюды – раз’ехалісь. А я пайду ў лазу, за агародам лаза, нарэжу, сама сплюту, я знаю, як. Я б і сяйчас  спляла. І сплюту, яны: “Во ўжо майсцер! Сама...” Я гаварю: “Сама!” І сажусь на каробку, яна, *як камень*. У нас Мітля быў, кароў пасвіў, а зrламадзя такую: нядзеля –  яна раз’ехалась. А я ўжо сплюту сама сабе. Я ўжо знаю, што сама для сябе дзелаю. А ён зrламадзіў, тры штукі за дзень іздзелая, абы скарэй, наскораю. За абручча цапляіш, яны павыпадуць, не закрэпя. А як сабе дзелаіш...

**Верх падняць.**

Астапаўна кажа: “Я **верх падыму**. Я глаўная даўжна быць у Закружжы”.

---

[16] Гарадскі пасёлак у Навазыбкаўскім раёне Бранскай вобл.

[17] Дзям’янкі – вёска Гомельскага раёна.

**Веряцяном (верятном) стряхнуць (струхнуць).** Гл. таксама: **Як кашчэй.**

(а) Ета гаворяць, плацце, там, ці што-нібудзь, баба наша кажа: “Мая ўнучачка…” Ці, там, хусцінка, ці тряпачка... “**Веряцяном струхнуць**” – худзенькая.

<*Такая слабенькая адзёжка*?>

Вот, напрымер, і дзевачка будзя такая худзенькая: “Ужо дайшла – і **верятаном струхнуць**”. Ці тряпачка будзя худзенькая, у міне плацейка была жоўценькае, такімі цвяткамі, любіла яго… Стане хто за рукаў, ці хлопец, я кажу: “Сядзь! Падзярэш плацце, будзіш адкупліваць!” Баба: “Не чапайця! У нашае Варвары плацця – **веряцяном струхнуць**”.

(б) Лён жа – лёгкі. А яго ж веряцяном, вытрушаяць, кайстру тую. Бярэш веряцяно тое, і – ці вярьхоўя, ці патряп’я... Тады кайстра сыпіцца, веряцяном струхаяць. Вот і гаворяць: “**Як веряцяном стряхнуць**”. Патаму шта лёгкая. Веряцяно дзелаюць хоць з асіны, а хоць із сасны. Яно высахня – лёгенькая-лёгенькая. І ў бабы выходзя, і матка... Яны – круць, мільён раз абкручыіцца. А як крутану, яно ўпадзя. Яна: “Во ўжо бязрукая!” І баба:”Ці ў цябе рук німа?” Я гаварю: “Ну, падая – і ўсё”.

(в) Я была худая-худая – *адны косці*. А Туся наша – такая во! Матка наша: “Туся – палядзіш: тры пузы! А цябе – **верятном струхнуць**. Ета ўжо худая такая – **верятном струхнуць**... *Кожа да косці*.

**Вір вірям (Вірам вісіць).**

(а) Калісь баба казала: “Дзетачкі, ніхай яно **вірам вісіць** на агародзі ці на яблыны, ігрушы, дасць чылавек – спасіба, ні дасць – нікагда *следу ня дзелайця*.

**Вірям вісіць** – сільна вісіць.

(б) Ну, вот гаворяць... Снегу... Калі выдзіш... Намяце на дзярэўя **вірам** – усіленна.

<*Так казалі толькі на снег?*>

І на ўсё гаварылі. Вот ці ўражай проса, ці ўражай сліў... Дак будуць **вір вірям** гаварыць. Летась яблакі былі сільныя, Тоня вышла: “Цёць Варя, селіта яблак – **вір вірям**”. Я гаварю: “ Сілеча”.

**Вомегай вылазя**. Гл. таксама: **Ад вомегу.**

(а) Я не знаю к чаму яно, гаворяць: “Чужоя **вомегай вылазя**”. Гаворяць, вот: “*ад вомегу*”. Вот ходзіш бярэменны, дак хочыцца... Я рыбы хацела, дак, кажыцца, далі б мне брюзлую якую, я б і тую з’ела, да “*ад вомегу*” хочыцца тога з’есць. Вот у нас адна баба... Дзёгцю. Гаворя: “Вот пахня дзёгаць мне!” Калісь дёгцям калёса мазалі, штоб вярцеліся, не сціраліся. Дак хацела дзёгцю... Дак прышла, ложку набрала, узяла патрошкі з хлебам, гаворя: “*Як сто баб адхадзіла*”.

(б) <*Што значыць* “**вомегай вылазя**”?>

Я пра вомегу ўжо ня знаю. Ну, вомега... Гаворяць: “Хочу *ад вомегі*”.

<*Вы сказалі*: “Красць – **вомегай вылазя**”.>



А мехам злупіш, із сракі пачынаюць і да галавы, а тады саломы панатыкаяць, едуць і здаюць.

**Колам не ўб’еш → Канём не ўб’ёш.**

**Колькі вады не вары, а з дурнога вумны ня будзя**.

Гаворяць: “**Колькі ваду не вары**, усё раўно... Колькі дурному не кажы, ён ўсё раўно сваё гаворя і дзелая. Ета на такога, што ён ня слухая, да ўрэд іздзелая.

**Конскі розум → Курыны розум; Розум высыхая**.

**Коратка і ясна → Чорт прыкліку шукая.**

**Косці пасчытаць →На кулак работы шукаць**

**Кошка сала зная.**

**Кошка сала чуя.**

[**Грэцкі С.В.**:

Ты, прымерна, на агарод пашоў, сеў там і ясі, а хазяін замеціў: “А-а-а! **Кошка сала зная**”. Што ня то, што паставілі на стол, а смачнікі нада. Смачнае пад’есць, а астальноя – ерунда.]Унучка ў цябе. Еслі не панравіцца ёй... Другоя што-та хоча, укусненькая: “Дзед, нада ўкусненькая што-та”. А ты ей скажы: “А-а-а, **кошка сала зная**... Укусная хоча...”

<*Чаму* **кошка** і **сала***? Чаму не другоя?*>

Як абычна, кошка... Еслі толькі не даеш укусная... Там, каўбасу ілі сала замеця на стале... Каты каторыя былі, што ў печ залазілі... Жарышча... У печ ставілі на абед... <*Пад засланку – Варвара Грэцкая*> пад засланку, верх адкрывая і лапай выцягвая... Ілі з баршча... Ілі што... Прыходзіш, усё адкрыта, а мяса німа... Каты... Ад катоў і пашло... Ілі смятану злізывалі каты... Усё ўкусная... Пагаворка і пашла: “**Кошка сала зная**”. Еслі, прымерна, нішчэмны суп налі кату ілі баршча – дудкі! – ён возьмя.

На печы будзя ляжаць... Сала ўнясі... Каты нашы... Халадзільнік адчані, яны як тут. Машка як тут. І глядзіць, штоб што-нібудзь даў. Яны абы-чаго ня хочуць тож есць. **Кошка сала чуя**. Калісь баба нясе з каморкі сала і мяса, у борщч укінуць ці ў бульбу... Яна ўжо – прыг з печкі... І ўсі так казалі... І на людзей...

**Красівы, як карціна.**

Красівы. Ё ж людзі красівыя. **Як карціна**. На карціні ж некрасівых німа.

**Краянуць па банку.**

Гаворяць, ці свой, ці чужой: “Як **краяну па банку**!” – *у вочы скажу*, што ты б... Ці там, п’яніца. І ўсё **па банку крою**. У нас усі казалі, асобена – мужчыны: “**Крой па банку**!”

**работаяць**”. Галава – кацялок. І бацька мой усё казаў, пачану што ні так: “Ну, **кацялок жа не зварыў**”. Галава думая – **кацялок варя**.

(б) На свадзьбах, і выдзім на вуліцы летам, варганіма. Што я перапела етых песен! **Як еты кацёл дурны выдзержывая**? І на маціў не забуду каждаю песню, і на маціў, і напамяць. Калісь дзед Майка казаў: “Варячка, к Сталіну ў замясціцялі цябе паслаць”. Я гаварю: “Дзед, калі б ты напісаў туда. Хоць бы паела гасцінцаў там”. Дзеці, дак што нам, смачнага...”

**Квам – да і німа → У папа рукаў шырокі.**

**Кідацца, як із агня ў полымя.**

Матка **кідалася, як із агня ў полымя**. Усё так казалі: “**Кідаіцца із агня ў полымя**”. Ну, работая ўсюды. А тыя бабы сядзяць хоць бы што. Сядзяць за мужыкамы.

**Кідаць у грязь.**

Ё такія песні, што і ня слухаў бы іх. Гародзяць... Пяюць абы-як... Во ё... Сімфонію тую іграюць нейкаю. Па цілявізару перядаюць. Наш Ягор кажа: “Ааа! Сімфонія нейкая! Не магу я...” А яе ж не **кідаюць у грязь**, перядаюць жа.

**Кішкі зліпаюцца.**

Ета шаройкі бываяць… Як сеіш, дак етыя шаройкі высыпаіш свінням, а муку – хлеб месяць. А калісь с шаройкамы. Баба гаворя: “Гушчэй будзя, ніхай с шаройкамы”. Як не было, да ў калхозе не давалі, толькі с плана. Дак с шаройкамы елі. Хто заве *высеўкі*, хто – *шаройкі*. Україна як галадала, дак хадзілі, бралі етыя шаройкі. Там жэ німа… Адны толькі шкарлупы ў ячменю і пшаніцы… І яны бралі : “Мы хоць жменьку мукі, да ляпёшку хоць спякома. **Кішкі ня будуць зліпацца**”.

**Кішкі марш іграяць.**

Усё калісь казалі. Як есць хочыш, дак: “**Кішкі марш іграяць**”. Усі людзі так гаварылі: “*Голад ня цётка*, **кішкі марш іграяць**, а нечага...”

**Кладаўё ўсё прымя: і вешных, і грэшных → На адным кладаў’е кладуць і грэшных, і вешных.**

**Кожа да косці → Веряцяном стряхнуць.**

**Кожа мехам злазь! (Кожу мехам сарваць, ізлупіць).**

На людзей. **Кожа мехам злазь**... Вот, напрымер, табе дабіцца чаго-нібудзь, кажаш: “**Кожу мехам ізлуплю**, усё адно етага даб’юсь, што нада. **Кожу мехам сарву**, но ўсё аднаго етага даб’юсь”.

Як ваўка лупяць? Не лупіў? І ў с… пашпарта не находзіў? Мехам. Еслі ваўка мехам не злупіш, у цябе кожу не прымуць. Нада мехам злупіць яго.



“Чужоя, – гаворяць, **– вомегай вылазя**”. А вомега – ета ж плоха. Я не магу табе аб’ясніць.

(в) Крадзёж абман – усё **вомегам вылазя**.

**Восень на серым (рябам) каню ездя.**

Усё казалі: “**Восень на серым каню ездя.** Да абеда будзя такая работа, а после абеда такая”. Дак усё, як бульбу капаяць людзі, сыпяць... Еслі сухая зямля... Мы не сыпалі на агародзі, ета рэдка, усё адно нада насіць... Дак матка і кажа: “Яна сухая... Нясіце, дзеўкі, па каробцы...” — мне, Тусі... Панясома, пасяўную высыпім сабе, куча... У нас такая тряскоўня была: крыша і сцены, чэрятам абшыты... Ну, вецер не дзьме і дожч не засякая... І мы ў кучу сыпім, і тут жа погрэб... Яна ляжыць... Ніхай заўтры дожч ідзе... Я гаварю: “Давайце на агародзі, мам...” А яна гаворя: “Не, **восень на рябам кане ездзя**. Да абеда будзя пагода, а тады — ні адтуль ні адсюль — хмара! Абмоча, папробуй сушыць. А ета яна ў нас ляжыць. Дожч ідзець, а мы сухенькую ў погрэб, у засек... Па-хазяйскі”. А ціперь, як у нас, яна стаіць у мяхах... “Я сам здзелаю...” І ўжо трэцці выходной. “Куды будзіма бульбу буйнаю? А ў падмосце парасце... На вясну бульбу закапаць...” Я гаварю: “Бульбу закапаць... Я табе даўно казала: “Лісце абсыпаіцца... Ідзі і скажы шафярам, штоб яны прывязлі табе цялегу лісця на агарод. Ліст на ўсё нада. Ліст... Ета мышы... Дзе куча лісцяў, мышы гнёзды ня ўюць, то шта ліст халодны, а старяяцца, дзе сена, дзе салома... Дак вот там *парэжуць на табаку*, а тута-ка ліст... Ткнёт пысу — ліст!”

<**Парэжуць на табаку**. *Гэта як?*>

Да. Мышы... Салому... Яны ж на табаку перярэжуць... А ліст яны ўжо не чапаяць... І пад лістам, адкрылі, бульба ляжыць, бяры... Яна чуць-чуць паназубленная... І сей...”

<*А яшчэ пра нешта казалі:* **парэзаць на табаку**?>

Ці там... Мыш залезя... Во юбка будзя ляжаць... Шоўкавага ня возьмя... Штоб цёпла... Мышы панімаяць... І кажаць: “Юбку на табакі пасеклі мышы”. Яны ўсё размяльчаяць, штоб цёплае гняздо звіць... Крысы, мышы...

<*А людзі?*>

Кажаць: “Ты ужо капусту дробна пасек... Куды ты ўжо?..” Хто гаворя :”Мякіну.. Ты ўжо здзелаў капусту, як мякіну...” Ці скажаць: “На табаку... Пасеклі ўжо на табаку...”. А другія паламаяць-паламаяць: “Зубы ё!..”

**Воталь падняць**. Гл. таксама: **Бучу падняць; Песнямы сыт ня будзіш.**

(а) Хоча пасварыцца, дак будзя ваталіць.

(б) Крычыш ці ругаісься, дак: “**Не ваталі** ты ўжо”.

(в) Воталь падняў: “Дзе валенкі!?” – “*Штоб ты дня ні знаў*, дзе валенкі!”

Папіросы паклаў, там на стале дзесь, прышоў: “Я во дзесь папіросы клаў. Дзе дзелі!?” Як ўжо *бельмы залле*, тады ўжо ні помня нічога. Я гаварю: “Папіросы? Я б і цябе ні бачыла, каб ты **воталь ні падымаў**”.

Пахадзіў: “Да во дзесь клаў! І німа!” **– воталь падымя**. Пашоў пахадзіў, паляджу: куря. Гаварю: “Ідзе былі?” – “Ета ж ты перянясла!” Я гаварю: “Ты ўжо ня помніш! *Белы конь*...” Гаварю: “Цябе да Гарбачова, да Ельцына, да Шушкевіча падавіць нада. Помніця вы... Адны ня помняць, што Саюз разваліваді. Ня помнілі, што дзелалі. Патаму шта алкашы. А ты нажрэсся, ня помніш, што каму гаворыш”.

**Вочы стаўбом сталі (паставіць).**

Кажаць, як памірая ўжо, дак **вочы стаўбом** паставя, ужо ўсё – не ракрывая. Калісь матка наша памірала: “Дзетачкі, я вам нічым не памагу, нічога не скажу”. К грубцы прываліласяя, **вочы стаўбом сталі**, і ўсё.

<*На каго так кажуць?*>

Як вот хто сварыцца, дак гаворяць: “Во ўжо **вочы стаўбом паставіў**!” Ці будзіш ты са мной сварыцца: “Ідзі! **Вочы стаўбом паставіў**!” Гаворяць так. Як у мёртвага **–** ужо са зла.

**Вочы – як на лубку.**

Павыпяршыя. У людзей жа вочы, відна, што вочы. А то такія выпяршыя.

<*Чаму*: **як на лубку**?>

Так гаварылі: “Во **вочы, як на лубку –** павыпяршыя. Некрасіва. Аж страшна.

**Вумная жана – як бочка пшана.**

А як бы не было, дак бы пашла зачэрпала дурніцы, да пашла б, варыла... Мужык быў камбайнёрам, дак усяго было... Іссыпяць ідзе на брызент, а ноччы паперявозяць...

<*Што значыць:* **як бочка пшана**... *Гэта калі пшано ёсць?*>

Ну, дак ё ж з чаго зварыць… А калі німа з чаго… Бочкі німа пшана, а стаіць у сумачцы… Дак думаіш: “Сёдні нада зварыць, і ішчэ і к заўтряму ж нада зварыць…” А дурная хазяйка, дак яна сёдні табе ўпрэ ў чыгун, зваря: “А-а-а! Паядзім дні за тры…” Дак вот і гаворяць: “**Вумная жана, як бочка пшана**...”Як ё чым карміць... Дурніца ё... А як німа дурніцы... Як бочка пшана стаіць, зачэрпнула **–** і кашу зваря, і суп зваря, а як німа, дак во палучы... Круціся, круціся...

**Вывярнуць наізнанку. Выкраіць наліцо.**

“Як там твая Астапаўна? Шэпча”. **–** “Шэпча... А то і памагая”. Сын яе і кажа: “Еслі ішчо прыдзя хто, я цябе **выкраю на ліцо** ці **наізнанку вывярну**. Во табе што будзя.... Я так нашапчу табе, дак ты будзіш *век знаць*”.

**Выгнаць к чорту → У гасцях харашо, а дома лучшэ.**



нікому ні скажаць...” – “Ня скажаць... А які ні харошы друг, вазьмі... Ё друг, што ён цябе не... А другі к тому... Ён яшчэ прыбрэша...” Пагаварылі... **Каменем у *воду***. Камень не всплыве...”

**Канём не дагоніш**.

Як шкрабануў – **канём не дагоніш**.

**Канём не ўб’еш.**

Як хто здаровы, да прыдуряіцца, дак гаворяць: “Цябе **канём ішчэ не ўб’ёш**”. Ці *лапатай*, ці *колам*...

**Канцы аддаць (будуць).** Гл. таксама: **Бараной весці куды папала.**

Сэрца **–** ёк-ёк, думала **– канцы аддам**. Дзве валідоліны выпіла, *рады німа*.

**Канцы схаваць→З канцамы.**

**Кату на хвост (на хвасце) навязаць.**

(а) Ета кажаць, як ходзя... Ну, ты ка мне ходзіш... Што тут пагаворым... У нас калісь была адна, яна еслі пабудзя ў дварэ, што-нібудзя пачуя, то ўжо ўвесь пасёлак зная. Всё бабы кажаць: “Моця пабыла, ужо **кату на хвасце навяжа**”.

(б) <*Калісь вы казалі:* “**Кату на хвасце навязала**”, *а цяпер: “Усім* **на хвасце навязала**”.>

Усі тады так казалі, хоць і бряхня, а баба наша кажа: “Яны ўсім **кату на хвасце навязалі**”.

(в) Усё тады казалі: “Яна ўжо **кату на хвасту навязала каждаму**. Ёй скажы што-нібудзь... Яна мне і гаворя... Я гаварю: “Ты ж ужо Зайцавай казала... “ Яна: “Калі я во такая... Не магу... Калі ў мяне што... Я даўжна ўсім расказаць...”

**Каралеўская жызня → Ад вомегі.**

**Кацялок (галава) варя (ня варя). Кацёл раскрываць. Кацялок работая. Струхнуць кацялком. Развязаць кацялок.** Гл. таксама: **Дарогу прабіваць; На сабак бряхаць; Не паймаўшы сокала, пер’е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі.**

(а) Ва-первых, **галава варя** – думае. Ета самы глаўны кацёл. Кацёл не гарыць, і ў хаці – халодна. Кацёл не гарыць – і атапленія німа. Усюды катлы. Ета *справеку веку* гаворяць. Ета ціпер ужо “галава”, а тады “**струхні кацялком**”. Калісь прыду к ім: “Ягор, пакажы нам задачы з Пецькам!” Мы ў адзін клас з яго братам хадзілі. Ета маі крёсныя. Дзед Майка будзя казаць: “Ну, як на тэй раз, Варячка, Пеця, **кацялкамі струхніця!**” І Ягор будзя казаць. Ён дужа харашо вучыўся. “**Кацялкі развязыйця**! А то аны ў вас пазавязываны. Дак вазьміця драты развяжыця. І ніхай **кацялкі** ў вас

дак яна паследняя... І паастаецца ішчэ. Яна спакваля есць... А як у Міхалкавых дзве бабы, бабіна яшчэ свякруха жыла... Дак ідзе ж там...

(в) <*Вы калісь казалі, была такая прыказка:* “**Калі б ня мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі”**.>

Тады ж дзяцей... Абортаў ня зналі дзелаць... Усё прыказка была, старыя людзі казалі. Гаворяць: “Памёр..” – “А-а-а! **Калі б ня мёрлі**, **дак бацьку з маткай ад стала адпёрлі**”. Нейдзі сесць... Па восем дзяцей, да было па дзевяць, па дзесяць, па адзінаццаць... У Цімачкавай Танькі памірлі шчэ, і сем выраслі, і памёрла сколькі... Дак ён гаворя: “Дзеці... Пакуль я сяду за стол, дак дзеці ўсе месцы займуць, а мне ўжо нейдзі...” І стол перядзелаў, здзелаў здаровы. Жонка другая выхваліцца: “Да ў мяне тое...” На ўсіх так казалі:

(г) Маладыя пажэняцца. Адзін за адным шурляяць. Калісь надзелам зямлёй жадаваліся... Калісь поля... Паны калісь былі і поля не было, усё пад панамы было. А пракармі-ка вазьмі сям’ю, еслі восем чылавек і саміх двое. Без ума ряджалі, родзяцца. Калісь у Жаварыніхі памёр Лёнік. Мы прышлі, ляжыць той Лёнік, гадоў шэсць яму было. Мы сядзіма, плачыма, сарочачку яму пашылі, штоб ніжэй кален, ну, не з чыга! Баба наша кажа: “Правядзі хоць галасок па ём”. А Жаварыніха і кажа: “Хваця етага дабра... Хоць адсыпай...” І гаворя: “**Калі б не мёрлі, дак бы бацьку з маткай ад стала адпёрлі!** А ета памёр – меней будзя”.

**Калядны гром.**
**Крычаць, як калядны гром.**

<*Вы сказалі:* “**Калядны гром** ідзе”. Чаму **калядны**? У Каляды ж грома не бывая.>

Дак яна і гаворя: “Во ўжо **калядны гром**!” Мы пытаім: “Баб, чаго калядны?” У Каляды ж грома не бывая”. Дак я і гавару: “**Калядны гром** ідзе”. А ён гряміць, як гром... Глотку во як разяўляя... Рычыць... Матка: “Што, **калядны гром**, прагрымеў?” – “Я есць хочу”. – “Вот так і кажы: “Мам ці баб, есць хочу...” І то папытая. “Ідзе ты быў? Мы паабедалі. Штоб ложкі памыў!” Такі парядак быў... Баба дак тая: “Мой унучычак, я сама памыю”. Яна нас жалела лучшэ маткі. А матка скажа: “Памый міску, а то на галаве будзя”. Раз воўрымя не жраў з намы, прагуляў, памый міску...”

<*Толькі ў вас у сям’і казалі* **калядны гром**?>

Усюдых так казалі... Чуць што, дак: “**Не крычы** ты, **як калядны гром**!”. Усі так казалі: “Во ўжо глотку разявіў, **як калядны гром**!” А ў Каляды ж грома не бывая.

**Каменем на дно.**
**Каменем у воду.**

Вот я з табой пагаварыла... І ўжо ніхто штоб ні знаў. Ета называіцца – друг, што пагаварылі, разышліся – і **каменем на дно**.

А хоць – *як рыба*. Пры рыбі гавары, што хочыш, яна ні скажа. А я бабі казала калісь сваёй: “Баб, дак і пры карові, і пры сабаку гавары, яны ж



**Выкупліваць вароты.**

Як дзеўку, во свадзьба... Вот прыязжаюць за маладой, а тут ужо хлопцы стаяць і гаворяць: “Выкуплій!..” Вот ты б стаў... Ну, хлопцаў багата, і **выкупляюць вароты**, а тады адчыняяць, штоб заехаць на кані. Вот ты б, напрымер, прыехаў як сват глаўны, і вароты тыя ты даўжон выкупіць. Вот выняіш бутылку гарэлкі... Яны ўжо нічога не бяруць – гарэлкі, закускі і даюць мне. Я ўжо трэбую: “Дайце мне, напрымер, ці літру, ці дзве. Таргуюцца: “Давай за бутылку!” – “Нічога не пайдзёць! Толькі літру!” Яны бяруць з сабой гарэлкі, дзе знаяць, што мошчныя хлопцы будуць трэбаваць, дак скажаць: “Тры бутылкі!” І ні пусцяць! Усё! Бой іздзелаяць, но не пусцяць. Вот тады, еслі яны мала возьмуць, дзве, напрымер, возьмяць бутылкі, тады гаворяць: “Вызаўця свата!”, каторага свадзьба, нявесцінага: “Пазыч нам! Мы табе аддадзім!” Тэй вынося. Даюць хлопцам бахонку хлеба, сала кусок, і яны тады пускаяць у вароты, адчыняяць і гаворяць: “Заізжайця і забірайця ваш тавар”.

**Выряй выляціў.**

(а) Вот гаворяць, на работу выходзяць: “А-а-а! **Выряй** ужо **выляціў**!” Патаму шта сядзяць дома. Ня хочаць работаць. “**Выряй выляціў**!” А мы кожды дзень хадзілі. Мы – ня выряй. Паложана так, ідзі і ўсё, як хто ходзя, так ідзі, ідзі. А яны сядзелі, а ціперяка пенсію во далі! Мінімалку тую. Дак Маруся кажа: “Ты ж палучаіш пяцьсот тысяч, а мы не палучым чатыраста з Фёклай. Нам на дзвёх чатырыста німа. А ты адна пяцьсот палучаіш. Я гавару: “Дак жа вы *ліжалі на баку*: “Ааа! *Ні ўежна, зато ўлежна*!” А я ні дасыпала і ні даедала. Я ні ішла туды работаць, дзе мала плоцяць.

Калісь у нас гаварылі. Вот чылавек, там, хварэя, там... Ці што... Гаворяць: “Ну што, ужо **выряй выляціла**?” Ну, ужо прыляцела. У нас так гаварылі, і тутака я гавару. Калі нашы прыедуць, я: “Ну што, ужо **выряй выляцелі**?” Прыляцелі ўжо сюда.

(б) Калі доўга не прылятаюць. Гаворяць: “Во **ўжо вырай ляціць**!” Гусі там... Я сёліта не чула, патаму шта не бываю на дварэ. Прышоў Павел да гаворя: “Я бачыў, гусі ляцелі да жураўлі”. Я гавару: “**Вырай ужо прыляцеў**”. Чаму гаворяць “вырай”? Бачыш, там халодна, яны сюда ляцяць. У нас цёпла. Вот пціцы і зверы... Усё раўно яны знаюць, чым лячыцца, чым і куды. Во халодна, як ужо восень падыходзя, як бы ня зналі яны нічога, яны б сядзелі тут, зімавалі, мёрзлі. Не! Ляцяць жа яны сюда ў цёплая, дзе цяплей.

**Вырас, а ўма не выняс.**

Вырас, а ўма не мае ў галаве. Усё баба калісь: “**Павыраслі, а ўма ня вынясылі**!” Матка на нас, што-нібудзь ні так здзелаім ці што: “Дурным хоць гавары... **Павыраслі, а ўма не павынеслі**!” А баба будзя казаць: “Полічка, не крычы ты на іх. Яны ішчэ *ў вум войдуць*...*Чорны вол наступя на нагу*, і ўсё будуць і дзелаць, і знаць, як *чорны вол на нагу наступя*”. Матка: “Ну, наступя!.. Дурным хоць і наступя, дак усё раўно будуць

дурныя!” Матка наша нікалі не хваліла. Там у нас адна была: “Ой! Мае ж та дзеці!” А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: “Хваліць – ніхай вас людзі пахваляць, а не я буду хваліць вас”.

**Выскачыш, як усё раўно рыба з вады → Як робіць матка, так і дзіцятка.**

**Гавары (яму), а ён брык дагары →Хоць (што) савой аб пень, хоць пнём аб саву – дак саве больна.**

**Гаворыць. як піша на машынку → Сакоча, як піша на машынку**.

**Гадка есць і жалка плюнуць**.

(а) Аляксеяўна сядзіць на лавачцы... І то – ідзе, то – не ідзе. Сяргей на яе: “Што, **гадка есць і жалка плюнуць**? І хочыш іціць, і ня хочыш іціць. Сабралася... Паднялася... Шуруй!”

(б) Зваряць што-нібудзь: “Ну як, дзеці, смашна?”. – “Нада прысёрбка”. Ці матка, ці баба: “**Гадка есць і жалка плюнуць!** Вы плюньця, да едзіця”.

**Галава варя → Дарогу прабіваць**.

**Галава дурная → Пашло на нет.**

**Галава садовая чэрятам крыта.**
**Не глядзі, што я чэрятам крыта, а ў галаве ў міня/**
**Не глядзі, што я чэрятам (саломай) крыты, а пад нізом новы зруб сасновы стаіць .**

(а) **Чэрятам крыта**? Дурная.

<*На каго так баба казала?*>

Ці на нас будзя гаварыць... Ці ні то іздзелаім, ці ня тоя... Што ня так, дак яна: “Во головы!...” Во **головы садовыя, чэрятам крытыя**! Дурныя саўсем!” Мы па-свойму здзелаім, а матцы ета не нравіцца ці бабе.

(б) **Не глядзі, што я чэрятам крыта.**

Паглядзі на міне – ета чэрят, а такое во, як у цябе – ета шыфер. Так гаворяць: “**Не глядзі, што я чэрятам крыта, а ў галаве ў міня –** вумней неўма што”.

Чэрят – трава такая, што ў балотах расце, каторай раньшэ ў дзіряўнях крылі сараі, дама і ўсё на свеці.

Ета пусты такі чэлавек. Гаворяць: у харошай хаце гонтам крыта. Усё калісь казаў дзед Майка: “Харошая хата, ну як гонтам крыта, а як у х.... – чэрятам. Так і чылавек. Калісь казалі: “**Галава твая садовая чэрятам крытая**”. І матка на нас казала.

І бывая так: “**Не глядзі на міне, што я чэрятам крыта, а што ў міне ў галаве**”. Бывая адзёжа... Я табе казала, як адзін казаў учыціль на Машу… Сястра, яна красівая была, дак ён тады гаворя: “Маша, я б з табой дружыў,



<**Шуляты** – *гэта што?*>

У кармані німа. Гаворяць: “**Кала шулят і мышы пішчаць**”.

Шуляты – ляшкі.

Калі прыдзя дзед Майка: “Хочу пахмяліцца”. Матка гаворя: “Ідзі купі!” – “Дак жа, **кала шулят мышы пішчаць**. Не за што”.

(в) <*Вы раней казалі:* “**Каля шулят мышы пішчаць**”. А сёдні сказалі: “**Каля шулят перяпёлкі**...>

**Каля шулят перяпёлкі шумяць.** Хоць калісь казалі і “**мышы пішаць**” і “**перяпёлкі шумяць**”. Ета ў беднага чылавека... У яго ў кармані, гаворяць, ці за душой... Дак так гаварылі. Вот як німа грошай... “У мяне **за душой перяпёлкі шумяць**”.

**Калі б воўк баяўся, ён бы з голаду здох.**

<*Чаму* – **воўк**?>

Ну, праўда... Калі б ён баяўся... Ён не баіцца... Авечку, дак авечку... Свінню, дак... Ваўкі ні баяцца... Калісь падрываліся... Яны чуяць, дзе коні, дзе авечка... Зямля... І на зямлю кладуць первы вянец... І сарай дзелаюць... Яны падрыюцца, авечку выцягнуць, парвуць, на плечы і паняслі... Усі так казалі: “**Калі б ваўкі баяліся, яны б з голаду падохлі**....” Промысел свой... На полі німа нічога... І чылавек так... Бойся ўкрасць – з голаду прападай. Мне калісь было, што нечым было план сеяць, *хоць* вазьмі да *лясні*! Ну, найшла ж... Пасяўную бульбу перябралі, я пайду, жменькай навыбяраю, прынясу карзіну... І суп зварым... І пасеяць меньшаю аставім... І пасеялі план... Так і воўк... Захоча жраць, дак ён куды хочыш...

**Калі б ні мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі (адпёрлі).**

(а) Проса церяз сіта сеялі, проса можа выскачыць чэряз рэшэта, рэшэта – рядзей. А ячмень, пшаніцу сеюць, штоб пяска не было. Малоць. Наша баба ўсягда перясея на рэшэта. Ідзе там дробненькая павыпадая – ета куры паядуць. А сабе, штоб пяска не было. У хлебі пясок. І калісь казалі, штоб почкі пяском не забівалісь, дак прасевалісь. А ў Крыўцовых цётка была: “Пажруць. Цэлы будуць! – У яе шэсцера была. – Памруць...” Гаворяць: “**Калі б ні мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі**”. Калісь жа ряджалі кажды год, а то церяз два гады. Ета ціперь аднаго выгняцяць. І ўсё. І то багата.

(б) Гаворяць: “Памёр.... Калісь жа дзяцей была па восем, да па дзесяць. Ета ў каго пяць, дак ета мала. А ета по столькі было дзяцей, вазьмі: сем, восем, дзевяць, дзесяць, а ў адных адзінаццаць было. “Да памёр вон...” Бабы і кажаць, ці мужчыны: “Хай мруць. **Калі б ні мёрлі, дак бацьку б з маткай ад стала адцёрлі**”. І, праўда, куды іх? У Коршунавых, калі застолля сядзя: шэсць дзяцей, да баба, да дзед, бацька да матка... Пасчытайка колькі – дзесяць душ. А ў Пашкі былі: шэсць дзяцей і дзед, і баба, бацька і матка... Дак там пакуль баба старая ложку зачэрпя, дак там ужо маладыя паглытаць... Ну, еў ні еў – вылазь... Німа ўжо. *Чэрвяка замарыў*... Ну і ўсё. А ў нас етага не было. У нашай бабы зубоў не было,

Патаму шта гоніш, мы калісь, козы былі ў стадзе, каровы ідуць, а каза даўжна астацца і *шкоду здзелаць* якую-нібудзь: то яблыны нада, то вербы маладыя пасодзюць па вуліцы, яна абізацільна даўжна абгрызць і астацца. Во і варочай і крычы на яе, усё раўно яна стаіць. Вот усё кажуць: "**Каза асталась**". Таму шта ўрэдныя козы. І во падойдзіш, пакуль палкай піканеш, тады яна пойдзя, і будзя беч – і ў другую шкоду. У нас жылі дзве сястры, дак козамі іх дражнілі. Яны сварлівыя і ўрэдныя былі. Яны кароў даілі... Возчыкі падвозілі кармы. Сілус. Вот хлопцы сілус падвозяць, і там куст быў лазы, яны дзве веткі атломяць, як к ёй вязуць: "Хто каму?" – "Я к казе павязу, я лазу вязу". Прыдуць: "Маруся, табе во сілус і на закуску лазы прывязлі". – "Вой!" – узрываіцца сарай. Яны: "Ну, чаго ты сварышся? Козы ж ядуць лазу". І дзве веткі паложаць. Яна тымі веткамі давай сеч іх! Козы ўрэдныя. Пасвіць іх калісь ніхто ні хацеў.

(г) <*Ад каго Варя навучылася?*>

Ад мяне. Я кажу: "Варя, ішчэ твая **каза стаіць**. Крычыць на агародзі. Ідзі, ўспалі". Яна пойдзя, ўсполя, прыдзя: "Баба, ужо **казу прагнала**".

(е) Я гаварю: "Варя, ідзі... Вон на агародзі нада клубніку высяч. **Каза стаіць!** Дак ідзі высячы яе". Яна пашла, прышла: "Баба, **казу** тваю ўжо **сагнала**". Я гаварю: "**Сагнала казу**, дак ідзі, – гаварю, – дзе квасоль была, там сячы. **Там ішчэ каза другая**". Яна і тую... І пашла.

(д) <*Пра хатнія справы не казалі, што* "**каза засталася**"?

Як у хаці дома? Тут **казу** не гаворяць. **Каза** на полі. А ў хаці – дамашняя работа.

е. Калісь прыдсідацель і брыгадзір прыдзя, калісь у нас быў, рана ўстаня, аббегая ўсё, палядзіць, прыходзіць на наряд і кажа: "Чыя **каза** там **мякая** на бураках?" Ужо знай: буракі хто-та не начынаў палоць.

**Кала шулят адны мышы пішчаць.**
**Кала шулят перяпёлкі шумяць.**
**За душой перяпёлкі шумяць.**

(а) Увосень семкі, і зімой семкі гарбузныя лузаяць. Прыдуць, лузаяць семкі. Я гаварю: "Дзеўкі, ніхай лузаяць старадубы етыя, во *зімнія дубы*, а мы семкі сваі... Ніхай у карманах". Яны жаряныя... Пахнуць так. У нас там адзін быў, ён ужо стараваты такі... У гадах... "У, старадуб!" Разарвалі б яго! І ён ходзя так і лузая семкі, кідая на... "На хвацеры і... Падмяціця! Там у нас адна была, гаворя: "Падмяці! А хоць языком падліжы! Веніка не дадзіма. Ты ж хадзіў, фарсіў!" А тады ўжо яны палузаяць свае семкі... Гаворяць: "**Кала шулят адны мышы пішчаць**". Мы выцігіваіма семкі і лузаім. Яны шчас: "Упозык! Дай упозык жменьку!" – "Во!" – пад самы нос. "Злюка ты! Змяюка!" – пачануць. А мы лузаім. А яны ходзяць-ходзяць. Я Пецьку дам. Хрёснае мае сын. Еслі тый падойдзя, руку працягня. І ён прыходзіць, еслі будзя есць, падыходзя і мне дае.

(б) <*На каго яшчэ так казалі:* "**Кала шулят адны мышы пішчаць**"*?*>

На бедных. **Кала шулят адны мышы пішчаць**. Ні грошай, нічога. На бедных.



і, можа, замуж цябе б узяў, ты усім наравішся, но ты ж сільна скудна адзета. І сёдні ў адном плаццейку, і заўтра ў адном плацьцейку, і ўсігда ты ў адном плаццейку". А Маша і гаворя яму: "У цябе бацька і ў цябе матка, твой бацька столярам работае ў МТСе, дак ён грошы палучая, а мой бацька – нерабацень, нічога ня дзелая, лёг да і ляжыць". – "Как ета так?" – "А так. Таму шта ў цябе бацька ё, а ў міне німа". Наш жа бацька памёр, мы малыя былі. "Дак вот, – гаворя, – у мяне бацькі німа, дак рада я і етаму аднаму плаццейку. А каму нада, дак міне і ў адном плаццейку возьмя – каму я панараўлюсь. **Дак не глядзі, што я чэрятам крыта**, а ні худшай цябе". Яна бугалцірам работала. Дак вот і гаворяць: "Не глядзі, што чэрятам крыта, а што ў галаве". Як чылавек путны, а від... Ну, німа вазможнасці купіць лучшага.

(в) Гаворяць: "**Я саломай крыты, а пад нізом новы зруб**. А на будучым перякрыю, – калісь казалі, – шчапой ці гонтам". Гонт... Калісь – шчапа... Ціперь ужо – шыферам, лістамы. І ўсі казалі: "**Не глядзі, што я саломай крыты, чэрятам, а пад нізом новы зруб сасновы стаіць**". Так і чылавек... Не глядзі – у чом надзеўшы.

*Дзісятыя клёпкі німа ў галаве*, значыць, усё – *ляпку ўдралі.*

<*Чаму вы не сказалі:* "**Галавы садовыя чэрятам крытыя**"*?*>

Калі як пападзе як гаварыць: калі так, калі так скажыш.

Усі казалі. Дзесяць у чылавека клёпак, а дзісятыя... У чылавека дзесяць клёпак у галаве, а дзісятыя не хватая, дзевяць толькі... Значыць: дурны.

<*Што за* ***клёпка*** *такая?*>

Усё гаворяць: "Што ў цябе – *дзісятай клёпкі ні хватая*?" Клёпка, што дзелаяць дзірявянныя вёдры, яны ж із клёпкі здзеланы...

Клёпка... Такія вузенькія, крышы крылі... Ета, як галава ў чылавека, у хаці – крыша...

"Ну як, хватая клёпкі ў вас? А то дзевяць забілі, дзісятая нада". Скажыш: "Ё ішчо клёпка". І гонтам крылі, і клёпкай, і саломай, і чэрятам, хто чым. Накрыя чэрятам, гаворя: "А-а-а, хваця з мяне на весь век чэрятам". Усяк людзі прыдумавалі.

**Галаву адсеч.**

У бабы кубел быў бальшы, а тады бацька здзелаў сундук, з крышкай адкрываўся. Мы палядзім, Ягорка малы быў, дак паглядзіць, дзе баба ключ паложа, возьме: "Дзеўкі! Я ключ бабін найшоў!" Што мы бралі? У бабы семкі там гарбузныя. Возьмем патрошкі – Туся, я і Ягорка. Ягорка: "А я ключ найшоў, я большы вазьму!" – "Ну, вазьмі". Баба палядзіць: "Хто семкі браў?" – "Баб, мы не бралі". – "Ой! Семак болей было. Мыш палузгала, дак ашкрёткі б былі". Матка: "Еслі хто семянныя семкі пабярэ, во тапор, **головы паадсякаю**!"

**Галаву звярнуць →Палкі не перясёк.**

**Гарбуз выкаціць**.

(а) Пашлі ў сваты к адной дзеўцы, а яна ні пашла за яго. Дак яны гаворяць: "Дзеўка **гарбуз выкаціла**". Ён сердзіўся, а яна ні пашла. Бывая так, што не панаравіцца... Вон песня ё: "Дзеўка не пашла, **гарбуз выкаціла...**"

<*Гарбуз сапраўды выкатывалі альбо проста казалі так?*>

Проста словы такія. Вот не пашла. Сказала: "Не пайду замуж!" І не пойдзя. Вот значыць, **гарбуз жа не выкачаяць**... Як ё, услед гарбуз качануць, а німа гарбуза, усё адно гаворяць: "**Гарбуз выкаціла**!" Вот прышоў Ісакавіч у сваты, да і гарбуз пакаціў. Словам выкаціў... Усі гаваряць: "Ну, высватаў, Ісакавіч?" – "**Гарбуза пакаціў**. Не высватаў".

(б) Заручаны... Бацька да матка ідуць, заручаюцца, бяруць у нявесты... Жаніх бярэ ў нявесты што-нібудзь цэннае, еслі ня пойдзя, ужо, бывая, адкажа... Як у шчодрах песня: "Куніца ўцякла, а дзеўка не пашла, маладому Іванічку **гарбуз выкаціла**..." Усяк жа бывая...

**Гарод любя гарбатую бабу. (План любя гарбатую бабу.)**

Штоб гарбацілася і гарбацілася... І ўсё палола і капала, падрыхляла – усё дзелала на агародзі. А еслі гарбатая баба ня ходзіць, да не работая, дак *кукіш палучыш*.

Не гарбацься там, дак такі тын парасце, да і ўсё.

**Гарэць агнём.**

Радзіла і пачала ўжо печ тапіць, да пачала шлякацца, калісь жа – марозы былі, і ў іе цімпіратура, родавыя нейкія падхваціліся, і яна ўзяла, лягла. Бабу нашу пазвалі. Мы цераз двор жылі. Дак прыйшоў Мелька: "Хадзі. Насцечка мая захварэла". Прышла, яна **гарыць агнём**. І матку пазваў маю. Мы з ім дружылі. Ну дак, ана і памёрла.

**Гарыць, як у караля, а варыцца, як у бабыля.** Гл. таксама: **Даць на язык.**

У караля ж усё – *шык-блеск*. Калісь усі так казалі. Уранні прыходзяць, палядзяць у печ... Дзед Майка: "**Гарыць, як у караля, а варыцца, як у бабыля**". Матка гаворя: "Ну, чаму? Свінням бульба, сабе супчык, бульба. А ў караля – лучшэ?" Ён: "Да няўжо кароль табе бульбу будзя есць?"

**Гарэлку піць – не карчы калоць (смаловыя).**

**Гарэлку піць горька, да не карчы калоць.**

(а) Ці на свадзьбе гуляць, ці на крэсьбінах, дак "**гарэлку піць – не карчы калоць смаловыя**", што чуць разаб'еш іх. Ета сідзі, паганяй адна за адной, рюмка за рюмкай. І смашна еш, да і ўсё!

(б) **Гарэлку піць горька, да не карчы калоць.**

Горькая гарэлка... Горька піць... Да не карчы калоць.. Калісь баба на дзеда Іванюшкава: "Ідзі дамоў! Толькі ўзнаў, дзе самагонка гоніцца, ты



**Казу вадзіць (звіць).**

(а) Мы пойдзіма гуляць, прыдзіма з гульні: "Ідзе вы ўжо **казу вадзілі**?" Мы гаворым: "Мам, там і там гулялі". Вот ты і я сабіраліся... Ета прыказка, усі бабы так гаварылі на сваіх дзяцей... і бабы сабіраяцца... "Што там, ужо **казу зводзілі**?". Там, кала каго сядзелі... "А тоя і тоя гаварылі". Матка прыдзя, бабі расказывая. Дак звалі "каза". "Дзе вы **казу вадзілі**?"

<*Проста сядзелі альбо гулялі?*>

Ты ідзеш гуляць. Пагуляў. Я гаварю: "Дзе ты ўжо **казу вадзіў**?"

Сабіраюцца бабы. І сплетні, адзін аднаго: тэй – такі, тэй – п'яніца". Во ета "каза".

(б) **[Грэцкі С. В.**:

**Казу звілі** кала Райкі.]

**Казу заняць (сагнаць, выгнаць, гнаць, дагнаць, дажаць, сагнаць).**

**Каза застаецца (стаіць, крычыць, мякая).**

(а) Вот жыта жалі, мы ідом, ужо і сцямнея, як брыгадзір гаворя: "Жніця! Рана не кідайця!" Баба карову ўстаня даіць, і мы падымаімся: матка, Туся, я і Маша. Матка занімая плошчадзь, там, гектары два жыта. Ідома, сонца ішчэ не ўзыходзя і да сміркання да цёмнага работалі – жнома. Баба ўжо наваря нам дома, пойдзя раней. А мы да цёмнага: "Мам, ужо цёмна!" Яна: "Ішчэ па снапу дажном", а хоць скажа: "Вот ету **казу дажнома** ўсю, штоб заўтры новы гектар занімаць". – "Мам, ужо цёмна!" – "Дажном. Дажном". Усі па снапочку, па снапочку... Дажнома і ўсё – вязьмо пустоя здзелала, паклалі і пашлі.

(б) Гаворуць: "Пойдзіма сабе жыта жаць, бліжэй і к дзярэўні, а ў калхозі длінна туды, штоб далёка не заходзіць, дак раней. "Баб, узбудзі! **Пойдзіма казу сабе займема**". І матка пойдзя, гектары два, штоб ужо дні два-тры жаць. **Каза завецца**.

<***Казой** што завецца?*>

Ну ета, заняць плошчадзь, ці бульбу капаіш. Во капаім бульбу. Туся наша лянівая была, дак яна то будзя стаяць, то: "Я пайду, я вады хачу". Абы штоб бульбу не капаць. Матка: "Не чапайця! **Хай яе каза стаіць**". Вот мы ўжо ўскапаім, пойдзім абедаць, і яна прэцца. Матка і гаворя: "Ідзі **сваю казу ўсполь і ўскапай**, тады прыдзіш абедаць.

<**Каза** – *увесь участак альбо тое, што засталося?*>

Участак... Зямлю не ўскапаў ці што-нібудзь, ну, ета – земляноя ўсё. Участак не дадзелаў, не ўскапаў, называіцца "каза". Вон ідзі **казу дагані** сваю. Штоб ня бегала аддзельна, а ў стадзі была. Во сена грябом... Шарахаіш скорынька, а другія будуць спакваля хадзіць, то стануць разгаварываць, ім кідаяць – ты сваю **казу гані**.

(в) **Каза засталася.**

<*Чаму* **каза**?>

дзеўкі: тыя – туды, тыя – туды... <*А пры чым тут:* **каждаму вугалку па шчанку***?*>

А ціперь кажды хоча сам сабе жыць, сабой камандаваць... І тады голыя не хадзілі... Бачаць, у тога парваліся бацінкі: “Усё! Етаму будзім купляць...” З хазяйства што прададзіма, купляць... І ўсё ласкава... А ціперяка **кажды шчанок лезя ў свой станок**... І адзін камандуя... Палучку... Дзей-та было калісь, штоб сыны работалі і ў карманах грошы насілі свае?.. Работая, у заработкі пойдзя, прыходзя, *да капейкі* ўсё аддае бацьку: “Бацька, столькі-столькі зарабіў...” У Касцючкавых было, заробя: “Давай, ты халасцяк, табе нада...” Што нужна гаразда надзяваць, зіма ідзець, зімняя што купляяць...

<*А вы да чаго сказалі:* “**Каждаму вугалку па шчанку**”?>

Ну, вот каждаму месту імя ёсці-ка... Хведараў бугор, Кулагін бугор... У нас называлі: “Куды пойдзіце ў шчавель?” – “У Штаны”. На Журавінкі, на Барыню... Каждаму шчанку па станку... Па імя... Каждаму імя ё. Дзіцёнак раждаіцца, імя накладаецца... Так і месту... Вот места... Во бярёза стаіць... “Куды пойдзіма?” – “На поле бярёза стаяла...” Кругом бярёзы лагавіна, шчавель там такі во... “Куды пойдзіце ў шчавель?” Штоб ужо зналі... Ета ціперь: “А табе нада? *Багата будзіш знаць, скора састарысся...* А *меней будзіш знаць, крэпчэ будзіш спаць...*”

(ж) **Каждаму шчанку па станку**

У яго былі чатыры сыны... І пажаніліся ўсі сыны... І долей спалі... Пасцеляцца, кажды са сваёй жонкай лажацца... А дзед з бабай ужо на карваці, а дзеці – то на печы, то на грубцы... Вот так жылі... І жылі... І ўпакот спалі...Тады ўжо строіцца пачалі... А ціперь **каждаму шчанку па станку**... Не ўспеіць вышчыніцца, ужо карвaць яму купляяць, і калыскі, і каляскі...

**Кажды Бога дзень.** Гл. таксама:**; Царства нябесная.**

(а) П’е **кажды Бога дзень**. У сям’е парядку німа. Яны прыехалі. Ён *адарваў ім серца*. Паехалі з плачом.

(б) Бог жа дае дзень. Вот табе: **кажы Бога дзень** – і гаворяць. Варыць што-нібудзь. “Баб, кашу нам вары!” Яна: “Ну, мы ж і так кашу **кажды Бога дзень**...”

**Казлы ў вачах.** Гл. таксама: **Бельмы заліць.**

П’яны ехаў... **Казлы ў вачах**... Ён жа едзя, ня бача... Ямка... І красная тряпка вісела... І ён зафугаваў туды... Ну, ехаў – ні бачыў... **Казлы ў вачах**... Усі так казалі калісь: “Што ў цябе?... Ня бачыш?..” Вот што-нібудзь... Я калісь... У ніты матка накідала... Я гаварю: “Мам, дай-ка я перябіраць буду... Навучуся...” – “На. Ну, еслі *блізну здзелаіш*, не здабраваць табе...” Ну, я ўзяла, *блізну здзелала*... Матка палядзела: “Што ў цябе ўжо **казлы ў вачах**? Ты палядзі!” Назад ўжо тыя ніткі выцігівалі... Ужо нанава... Еслі такую работу дзелаіш, толькі пра яе і думай.



туда!” А ён і гаворя: “Куліна, **гарэлку ж піць – не карчы калоць**. Ета ж карчы калоць – нада сіла. А ета хлябнуў і пайшоў”.

**Гаў, да ідзі.**

**Гаў, да і пад печ.**

Вот ты пабыў, паругаўся са мной. “**Гаў, да ідзі** ты”. Гаўкні ішчэ раз, да ідзі. І на чылавека: “**Гаў, да ідзі**”, – кажаць. Баба ўсё на нас: “Ваша дзела – **гаў, да і пад печ**!” Ета ўсё так на нас казала. Ці матка... Вот будзім што-нібудзь... Матка гаварыць што-нібудзь... ”Ваша дзела **– гаў, да і пад печ**!” Сабака – “гаў”, да і лезя пад печ.

.

**Гвазда нейдзе ўбіць → Чык на чык.**

**Гдзе агрэх – там будзя жыта мех.**

Ці ўглыб пойдзя колас, ці наверсі прысыпіш.

Смяялісь так: “**Гдзе агрэх, там будзя жыта мех**”. Ці – ячменю…

**Глотка ( хлешчака) хляшчом.**

Ета вот такія і бальшыя мужчыны ё, і бабы, і дзеці... Наш Сяргей, у яго вешна **глотка хляшчом** стаіць. Усё яму ня так, і ета ня так, і тоя ня так. Баба ўсё казала: “*Ня цішай*... А *засць*”. Па-калісяшняму. Дак баба будзя казаць: “Да засць ты ўжо. У цябе **глотка** ўсё **хляшчом** стаіць! Цішай ужо. Замаўчы, да і ўсё”. Ці на малога будзя. Ягор будзя: “Баба, пайдзём, кашы ты ўваллі”. – “Вон дзеўкі ўваллюць”. – “Я ня хочу, штоб яны ўлівалі!” І будзя: “Баба, ну, пайдзём! Ну, пайдзём, баба”. Баба: “Мой унучык, я ж во, – што-нібудзь будзя дзелаць. Ён будзя... Ужо **хляшчом глотка стаіць**. – Мне цяжка падняцца. Ніхай Варячка ці Тусячка ўваллюць”. Мы гаворым: “Баба, наллёма. Пагаўкая, да перястаня”. І было так дажа. Ён будзя крычаць: “Баб, пайдзём кашу, перялій!” Мы наллём, паставім. А ён будзя казаць: “Баб, пашлі-пашлі! Кашы налівай! Я етае ня хочу”. Мы гаворым: “Баб, еслі пойдзіш, пабачыш, што табе будзя... Не падчыняйся *гаўну сабаччаму*”. Вот ета **– хляшчом глотка**.

**Глядзіць, як вуж із-пад калоды.**

Наша баба ўсё песні... Вот будзя сядзець, прясць з маткай, пяюць песні, а я... Мне тыя ўрокі... Матка: “Вучы ўрокі! **Глядзіш, як вуж із-пад калоды**!” Вуж жа пад калодай ляжыць і наблюдая за табой. “Іш ты! Урокі ня вуча, а песні слухая”.

**Голад ня цётка... За хлеба лусцінку аддасі шаўкову хусцінку →Голад ня цётка, усё пажрэш.**

**Голад ня цётка, усё пажрэш**.

Тады ўсе: “Ешця вот ета...” – “Ня хочым!..” – “А-а-а... Голад ня цётка... Пажрыцё і ета...”. Ну, праўда... Як прыдзіш, німа нічога есць... Корж

ляжыць... І позаўчарашні будзіш... Цыбулю атарвом і наярываім... Матка: “Паядзяць усё...” А то... Вот і гаваряць: “**Голад ня цётка, усё пажрэш**...”

<**Вы раней казалі: “Голад ня цётка... За хлеба лусцінку аддасі шаўкову хусцінку**...”>

Да... Калісь баба казала: “Голад ня цётка, а за такую лусцінку аддасі паследняю хусцінку...” Так усі казалі, і мы казалі... Баба казала: “Голад... Дорага... Ніхай табе неўма што... Самы сабе прадаюць... У нас адзін... Красівы такі мужчына быў... Ён ажаніўся, яна [...] Учыцільніца... Яна ў свякрухі жыла... Вайна... Пажаніліся... Да шчэ дзяцей не было ў іх... Дак яна прыехала к свякрусі... А ў свякрухі... Бальшая сям’я... Паелі ўсё... А зямлю падзялілі... У Амяльном людзі пабралі, на шматкі падзялілі, харошаю... А падкаменцам – адны пяскі... Што яны пасеяць, нечага капаць.. Прышлі красныя... А есць — хоць ты *запалі, ня трэсня*, німа нічога... Дак яна... Нечыга есць... І прыдзя калісь к нам... З маткай яны дружылі нашай, прышла к нам: “Дайця мне хоць абы чаго...” Я не глядзела, корж, дак корж возьмя, будзя есць... Ну, а лётчыкі... Дзярэўня наша, і шлях, канчаіцца дзярэўня, і метраў дзесяць, і шлях, і там паставілі пад сасняком самалёты... Лётчыкі... Дак падкаменскія хадзілі туда, гулялі... Мы не хадзілі, а якія бабы ўжо, у каторых дзеці... Кажа: “Ну, што... З голаду ж не прапасць...” Бахонку хлеба ім давалі ці што яны давалі... І яна забярэменіла... Яна кажа: “Я ў двор – нічога... Куды я прынясу свякрусі... Сям’я такая... Паядуць... Хоць там ела...” І забярэмініла, радзіла дзевачку. Ён прышоў із салдатаў, ужо вайна кончылася. Ён прыслаў пісьмо: “Ну, як ты, мама там?” Ну, мама напісала, што радзіла Анька ат лётчыкаў... Такая-сякая. Ён прыехаў, да к нам... Мы радніліся, яго матка нашай маткі крёсная. Ён прышоў з сястрой большай, Алёнай к нам. Дак я кажу: “Данілачка! Мілінькі! Ну вазьмі ж ты, бяры Аньку, да жыві. Яна ж не вінаватая...” І матка яму казала: “Яна не вінаватая... Сам сабе...” І баба казала: “Даніла...” Пра лусцінку і хусцінку... Дак паследняю хусцінку... Галаве халодна... А есць жэ ўсё раўно хочыцца... Дак па галаве будзіш хочыцхадзіць, а ня еўшы, ножачкі ня пойдуць. “Дак што ёй дзелаць?... І дзіця ўзрасце... Ці ты любіш яе?..” — “Люблю...” — “Ну, дак жыві”. Ён: “З мяне будуць смяяцца”. Ну, ён красівы, дужа красівы... Ракрасавец. Анька тая с ума сышла... Кажа: “Я ня выцярплю”. Дзевачцы яна ўжо не дала есць... Нечаго было... Прыдзя калісь... Наша матка... Дзевачка такая малінькая... Паўтара месяца, яна яе супам карміла... Ну, нечага... У грудзях німа нічога, ня еўшая... І яна ад недаяданія... Яна пашла к бацьку, бацька выгнаў... Дзевачка ішчэ тут памерла... Свякруха выгнала: “Мой сын з табой не жыве... Ты мне ня нада...” С ума сышла... Нашлі яе дзесь мёртвую... Вот табе за лусцінку... І багата такіх случаяў было. Казала Соня Салодкая: “Чаго я... Ну, блядзь я... Ня буду я сама сябе хваліць...” Німа чаго есць, ідуць бабы на ўсякая... Німа чаго есць, ряшаюць: ці з голаду памерць, ці што дзелаць...



(в) Калісь матка казала… Спаць лажыцца, бацька і гаворя: “Наш Іваня ўжо ўзраслея, дзесь яму нада адзельна, штоб ён спаў”. А матка і кажа: “Ідзе ён будзя спаць? У пярэдняй хаце мы з табой спім, а там Ягорка і Ваня за грубачкай**. Каждаму вашанку будуць дзелаць па станк**у! Ажэніцца, тады ўжо адзельна...”

(г) Пачаном есці ў адну міску: “Баба, давай у дзве міскі!” А яна: “**Каждаму вашанку буду дзелаць па станку!** Давайця вы ешця ў вобшчым”. Дак мы ўжо ядзіма.

(д) Начальнікі... Адвязі аднаго начальніка... У дзірэктара свая машына, а ў замясцііля свая. **Каждаму вашанку, штоб па станку**. Нашто яму ў дзірэктара пытаць: туда і туда з’ездзіць, калі ў цібе свой шохвер і свая машына.

<*Вашанкі – гэта хто?*>

Ета вошы маленькія. Ціпер іх ужо ня найдзіш з агнём. Куды яны падзяваліся? Ціпер жа ўсякія прэпараты. Яны калісь былі. У каго навалам… Я не хвалюся… У нас не было. Мы ў школу хадзілі: Ваня, Маша, я і Туся, Ягор ішчэ не хадзіў… Калісь бацька памёр, матцы работы во так было, і мужчынская дзела, дак матка… Калісь жа прэпаратаў етых не было, што мазаць головы, ці што, і матка… У нас баня была свая, вот матка вытапя баню і нас ўсіх – у ваду. Возьмя керасіну валле перяд баняй, трошкі возьме па галаве… Ё ці німа… Яна не глядзіць, ці ё вошы, ці німа… Яна гаворя: “Ета я прафілакціку дзелаю”. Пабудзіма: “Мам! У нас не свярбяць головы!” – “Ета я знаю. Вош, калі хочыш, упаўзе! У Крыўцовых ходзіш... Дак наберяцёця!” І яна нас памажа, і сабе, і бабе, і мы нікалі... У скрысенне – празнік... Прыдзі ў любы двор, вошай шукаяць. А матка і кажа: “А етага дзела гіджуся! Я гіджуся, што яны – трэсь! трэсь! Можна керасінам. Хрёсная мая дзелала так – і Ліду, і Пецьку, і сябе, і дзеда. У дзеда барада была, яна кажа: “Стары, хадзі-ка! Прафілакціку здзелаю”. Ён: “Да ну, у барадзе ня будуць!” – “Бацька, усюдых завядуцца!” Яна возьмя, керасінам памачае. Усё – чыстата і парядак. Ета такія двары ё, а ё такія двары – роям. У школу мы хадзілі. Правярялі нас, у каго ё вошы, у каго німа. У нас косы былі длінныя, ніжэй сракі. У Машы, у Тусі, у бабы, у нашай бабы Алёнкі – чуць ні да пят былі, і у нас нікалі ў жызні вошай не было. А было: будуць сядзець, яны па хусці будуць паўзці. Маткі, наверна, не даглядалі.

(е) **Каждаму шчанку па станку.**

І па дзесяць душ, да па дзвенаццаць за сталом, па пятнаццаць сядзела... І ладзілі, із адной міскі елі... А цяперь **каждаму шчанку па станку**... І ня ладзяць, і цесна... Усё за багацтвам лопаяцца... Цяперяка хазяіны – унукі да праўнукі... А тады бацька ўстае, усім сынам, нявесткам дае наряд: “Ты – туды, ты –туды, ты – туды... Тое і то дзелайця... А ты, – на жонку, – вары яду...” Якую зваряць, не гаворяць.... Смашна-нясмашна...

(ё) **Кажды шчанок лезя ў свой станок**.

Каждаму вугалку па шчанку... Калісь сем’ямы жылі... Жыве сям’я... Ні сваркі, устане свёкар: “Ты тое... Ты тое...” Сынам, нявесткам... Летам

**Індзючыная галава → Ціпун табе на язык.**

**І прашчай, Родзіна → Іжыцу прышыць.**

**І смех і грэх.**
І смейся на яго, і плюй на яго.

**І ткаць, і прясць і чорту падковы падкаваць.**
(а) Вот я сама сябе не хвалю. Ну, я **і вышываць, і ткаць, і прясць і чорту падковы падкаваць** – я на ўсё гатова. Я, еслі што-небудзь ня разбяру, я перапытаю, но штоб толькі я ў точнасці. І Маша наша. А Туся наша – не. Ужо вышываць, яна так лёпка ня вышыя. Лёпка – ета красіва здзелана. У нас адна – нітку, яна вузёл завяжа і вышывая. Я гаварю: "Манька, ты ж іздзелай (вышыя – у яе з-пад другога боку, як сучча – вузлікі, вузлікі... Ты ж маю работу бачыў, у мяне і з тога боку, і з тога будзя ня так лёпка, патаму шта ніткі ідуць наверьх, а там уколы толькі дзелаюцца). А Шура ка мне прышла сівеньская: "Хочу сабе вышыць прастыню і не найду нійдзе ўзораў, дак у цябе ё?" Я гаварю: "У мяне ё ўзор, паглядзі", – паказала. Яна: "І!.." І січас жа сагрябла, сагрябла: "Я панясу дамоў прастыню тваю!" Я гаварю: "Дак ці нарысуіш ты?" – "Як-небудзь нарысую, – усё! Панясу! Панаравіўсь!" І яна вышыла. І дзве бальшых разніцы. Я прышла. Яна: "Прыдзі! Я ўжо канчаю". Я ёй *у вочы сказала*. Прышла палядзела. Яна: "Ну, як мая работа?" А мой *язык не заржавея*: "Херовая!.." Яна і гаворя: "Я ж усё (і прастыня мая, пакуль яна і вышыла)..." Я гаварю: "Палядзі на еты бок, у цябе даўжно быць роўна, што на еты бок – *шык-блеск*, і на еты бок. А ў цябе етага німа".
(б) Гаворяць: "Умелы доўжэн **і чорта падкаваць**". Ня чорта – блаху. Усё казаў дзед Майка: "Ой, атряха! – на мяне. – Ты, атряха, і **блаху падкуеш**!" А блаху ж не падкуеш.

**Каждаму вашанку (шчанку) па станку.**
**Кажды шчанок лезя ў свой станок.**
**(а) Насілі "звязду". Хлопцы майст**рылі хрэстам, тады мы цвяты дзелалі і насілі. Калісь жа марозы былі. Халодна была, дак "звязду" ряшылі не насіць. Гаварылі: "Ня нада!" Ніхто ня хоча браць. Нада голымі рукамы. Вязёнак не было. У школу ідом, у рукавы пазасаджываім рукі – да і ўсё. Ета ж ціпер гаворяць: "**Каждаму вашанку па станку***!"* І пярчаткі давай яму! І тоя дай!".
(б) Ета ўсё калісь казалі мужчыны і бабы. Во ціперяка... Калісь ляжуць упакот усі... І мы спалі... Іван спаў, Маша наша ўряд, тады я, тады Ягорка і баба... А ціперяка каждаму караваць нада, штоб адзін лёг. Нашага палажы з кім-нібудзь! Да не! Дак усё казалі: "**Каждаму вашанку па станку**". А тады ў шырэнгу ўсі лажыліс ці долей, ці дзе... Да і спалі.



**Гол, як сакол.**
Бедны чылавек: німа ў яго ні ўкрышыць, ні пасаліць.

**Гоп-кампанія.**
(а) Усё калісь у нас сабіраліся п'яніцы. Ета **гоп-кампанія** называлась. Сабіраяцца, туды і мужчыны ідуць, і бабы... І выпіваяць... Во і кажаць: "Во ў Паўліхі **гоп-кампанія** сабіраіцца..."
(б) Ну, вот сабіраліся п'яніцы, бабы сабіралісь п'яніцы. У нас хто казаў **гоп-кампанія**, а там адзін гаворя... Як ідуць яны, ужо адна за адной заходзяць, п'яніцы, дак ён гаворя, будзім сядзець на калёсах, ждом, брыгадзір будзя, ён: "Ну, што ты, Васіль, будзіш загадываць?" – "Некаму! Ішчэ *сіняя парція* не прыбыла. *Сіняя парція* ішчэ пахмеліцца *да пасіненія*". Усі *на смех падымуць* іх. Празвалі: "Хто-та ідзе?" – "А ета *сіняя парція*. *Да пасіненія* п'юць". Вот табе і **гоп-кампанія**. Харошым не называюць такіх. І ўвечары хлопцы дзе б'юцца, гаворяць: "Сабралася **гоп-кампанія**. Ужо біліся ўчора".

**Горы перявярнуць.**
Лапатай перявярну, да дабяруся. Казкі такія ё, што ён за ноч **горы перявярнуў**.
Я, напрымер... Я б **горы перявярнула**, но здзелала, я б найшла ўсё. Я табе так скажу... Калісь *Вы на сябе сказалі:* послі вайны, ну нечава ніадкуль узяць... Ні гвазда... Ні фабрык.. Вот і шукаіш... Маточык кінулі ваенныя дрота, *таней жа, як палец*, і вот як гвозд, хаваіш ужо... Ета ўжо што-нібудзь дзелаіш, сячэш такія во гвазды... Шукаіш кала кузні... Ё такія кавадлы, і на іх сячэш гвазды.
Матка будзя казаць: "Мой дзіцёнак..." Прышлі мы на Здзвіжання... Усё папалена, голыя... Німа нічыво ў свеці.... Што дзелаць? Разваліны... *Жывы чылавек пра жывоя думая...* Матка: "Ну, што будзім дзелаць? Давайця ў погрebi". Мы ў погрэбі жылі, начавалі... Зімавалі там. Матка: "А кароўцы дзе? У погреб карову не завядзеш". Я гаварю: "Мам, я **горы перявярну**, но я здзелаю карові што-нібудзь". І ў нас... Баня абгарэла... Секла хмызняк... Адзін бярэзнік... Я сяку, абгаліваю, а астальныя... Ягор, гадоў дзевяць яму было... Цягалі... А тады жэрдкі... Як пляцень... І пашлі ў чэрят... Іздзелалі ... Матка кажа: "Ну, ты палядзі які!.." Ну, мне і баба памагала... Дзе ня так – бача... Я бабу слухала. Іздзелалі... Карова і зімавала... Бубіна снега на яе не ўпала, ні даждзіна. Пайду, папытаю ў мужчын, у дзядоў: "Дзяды, хадзіця спасайця!" – "Ой, мужчынка ты наш дарагі..." І яны мне пакажаць. Нікалі не атказывалі. Колькі кала мяне дзядоў тут было, ніхто не атказваў. Будзя дзелаць сваё дзела: "Вот прышла к табе..." Калісь прышла к Мельку, а ён палены падымаіць, рубіў хату: "Ну што, мужчынка наш прышоў?" Я гаварю: "Ой, дзядзька Мелька, так і так... Хадзі... Уродзе, я не дапанімаю. Так будзя ці нядобра. Хадзі, штоб другі раз ня дзелаць". Ён: "Давай!" Я гаварю: "Да давай і я памагу!" Хоп! Палена тоя паложым. Ён кідая, ідзець.

Ціпер німа такіх людзей. Ціпер глядзяць, калі б ты з кармана бутэлю выцягнуў.

**Горы залатыя разрушыць.**
**Горы каменныя разарыць.**

(а) Еслі сужаны твой ряжаны будзя, дак ён і не варажыўшы возьмя... Баба скрозь наша казала. Матка: "Ета ўжо варажыць пабягіцё!?" А баба кажа: "Мая ўнучачка, ня лезця па сугробах". Калісь к такой парэ сугробы... Колья... Лезіш па снегу. А баба кажа: "Як будзя твой сужаны-ряжаны, дак ён не паглядзіць – і **горы разоря** за табой". Гаворяць: "Тэй адбіў, да тэй адбіў!" Ета ўсё няпраўда! Як хто каго любя, дак ён **горы залатыя разруша**, даб'еціца свайво. Ніхай і **горы стаяць каменныя, а ён разоря,** перялезя і забярэ.

(б) Казаў дзед Майка: "У Амерыку паехаць..." А яна гаворя, баба яго, Кулінджа: "Ты ж там быў. *Чаго* цябе *чорт* назад *нёс*? Я б адна ўжо і жыла". Ён гаворя: "Я б і ціпер, калі б мне цэбрык такі, кілаграм на пійсят, я б з аднаго моря да ў другоя перяліваў, што б дабрацца да сваей мілашкі ў Амерыку..." Так і горы. Кажаць: "Хто каго любя, **дак горы разруша**".

**Горя жыць дзеду на печы, папаліў бакі і плечы.**

Куды дзеду дзецца... А на печ, на голаю. Дак калісь наша баба дзелала сама сабе... Іздзелая із кухваяк із разных, пальчышкі дзірявыя... Дак яна сабе пасшывала па чарэні... Засцеля... Ляжыш на ёй... І мякінька. А былі... Што адна голая печ... Дзед качаіцца па кірпіччу. "Дзед!" – "Што?" – "Мулка табе?" – "Да ўжо ж, ні мулка, мае дзеці". Дак прыходзіў к нам, гаворя: "Алёнка, іздзелай мне хоць плецянёк". А баба гаворя: "Плецянёк здзелаю. Ён колкі... А рыззя німа..."

**Горя леташняя.**

Каторая ўжо прайшло. Ета баба наша ўсё казала. І дзед Майка. Як пачануць, *шкоду здзелая* Ягорка, ці мы што... Яна: "Во ўжо **горя леташняя**!" А чаго, я не скажу.

**Горя не шукай, яно само цябе найдзя.**

Гаворяць: "**Горя не шукай, яно само цябе найдзя**". І не шукаеш, яно само цябе найдзя. Хто горя хоча? Ні ты, ні я. *Справеку веку* гаворяць. Калісь баба наша, як толькі прыдзім, саб'ём... Ціпер у абуўцы ходзім... На склянку дзе расквасіш... Баба: "Во **не шукай горя, яно само найдзя"**.

**Горя прыклікі шукая. → Чорт прыклікі шукая.**

**Грэх у мех, мех прадраўся і грэх пацяряўся.**

Мы бабу так даглядалі! Самі не ядзім, перва – бабе. Мы, можа, і плоха дзелалі. Пост... Яна поставала. А мы возьмем да жыру жаранага ўваллёма-уваллёма. Яна палядзіць і кажа: "Скалкі ё! Хто Богу сагряшыў?" І я ўсё



"*іжыца*" – *чорт яго зная*, што-та за слова. Калісь дзед Марцін быў у нас. Дак гаварыў: "Тутака нада гаварыць, да ішчэ, – на бацьку нашага, – Сашок, нада гаварыць, да прыдзержываціца. Я магу з табой пагаварыць, з Поляй тожа (на матку) магу пагаварыць. Ета такія людзі, што замкнутыя. Нідзе не скажаць нічога. А, як такі... Як пачане гаварыць... Зразу **іжыцу прышыяць** – *і прашчай, родзіна*. Дак я на Сярожку (унук): "Языком не гаўкай! А то **прышыяць іжыцу**, дак і ўчоба табе будзя, і работа".

(б) **Іжыцу прышыла**... Сказала б... А **іжыцу** калісь **прышывалі**, ні за што людзей Сталін браў. Звалася "іжыца". Вот гаворяць: **іжыцу прышылі** табе, там, ці другому. Прыехаў "*чорны воран*". – "За што забраў?" – "**Іжыцу прышылі**". Хто-нібудзь набряхаў. Сказаў: "Так і так ён сказаў". І не разбіраліся нішто. Во табе і **іжыцу прышыць.**

**Іздзелаць канцэрт.**

Ён на любы празнік **іздзелая канцэрт**. *Сварку падымя* такую, што не за то, дак ...

**Із кожы вылезці → Адзін дзень сяўбы год кормя. Шчыры конь.**

**Із ранняга світання і да пазняга сміркання.** Гл. таксама: **Казу заняць (сагнаць, дагнаць, дажаць).**

(а) А ціпер хочаць: часы. Вот і глядзяць, штоб: "Ой! часы!" А мы работалі без часоў: **із ранняга світання і да пазняга сміркання**. Вот жыта жалі, мы ідом, ужо і сцямнея, як брыгадзір гаворя: "Жніця! Рана не кідайця!"

(б) Баба карову ўстаня даіць, і мы падымаімся: матка, Туся, я і Маша. Матка занімая плошчадзь, там, гектары два жыта. Ідома, сонца ішчэ не ўзыходзя, і да сміркання да цёмнага работалі – жнома. Баба ўжо наваря нам дома, пойдзя раней. А мы да цёмнага: "Мам, ужо цёмна!" Яна: "Ішчэ па снапу дажном", а хоць скажа: "Вот ету *казу дажнома* ўсю, штоб заўтры новы гектар занімаць". – "Мам, ужо цёмна!" – "Дажном. Дажном". Усі па снапочку, па снапочку... Дажнома і ўсё – вязьмо пустоя здзелала, паклалі і пашлі.

**І на нашым баку сонца засвеця.** Гл. таксама: **Беднаму Івану німа нігдзе талану.**

Баба ўсё казала: "**Ня толькі на іхнім баку сонца свеця, і на нашым засвеця.** Можа, што харошае і нам будзя".

*<На іхнім – на чыім?>*

Ну, вот каторыя жывуць... Начальнікі... Во ў мяне сусед... Ён прэдсідаціль... Тут машыны кала яго... Бінзін зліваяць, адгоны возяць... Сонца свеця – ён прэдсідацель, ён нікога не баіцца... Адгон – ета малако перарабатываяць... Смятана сабе, адгон сабе. У пачках малако адзін і два – ета ж адгон. Яны яго прадаюць. На ім піражка не спячэш. Адгон – вада. Яны свінней кормяць.

**Ідзе як завядзецца, так і вядзецца →Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**

**Ідзі ты з Богам. Ідзі ты к чорту.** Гл. таксама: **Ахоту сагнаць; Гэчы – на плечы, Багародзіцу – у карман і пайшоў; У сям'е (раду) не бяз вырадка; Чорны вол наступя на нагу.**

<*Чаму нааднаго кажуць* "**ідзі ты к чорту**", *а на другога* "**ідзі ты з Богам**"?>

Як харошы ідзець... Наша баба нікалі не казала, ета ў каго якая прывычка. Ёсць, што ўсё **к чорту** пасылая, а баба наша нікалі к чорту не пасылала, гаварыла: "*Чорт усё падбярэ*. Ня нада **к чорту**. Чорт – аб'ядальны, усё падбярэ". А будзя казаць: "**Ідзіця з Богам!**" Ніхай ён зло іздзелая, будзя казаць: "**Ідзі ты ўжо з Богам** сабе, а я сабе пайду". *Чорт ўсё падбярэ*. Казала на мяне: "Варачка, не прывыкай казаць: "**Ідзі ты к чорту**". *Чорт аб'ядальны, усё жрэ, жрэ і не нажыраіцца*. Яго ніхто не накормя.

**Ідзі (ты) ў баню халоднаю памыйся.**

(а) Разазліссся, што-небудзь, дак прыказка такая. "**Ідзі ты ў баню халоднаю памыйся**".

(б) <*Вы калісь казалі*: "**Ідзі ты ў баню халоднаю памыйся**".>

Ну, ета як разгарячыцца ці што-нібудзь пачане, гаворяць: "**Ідзі ты памыйся ў баню, у халодную**!" У халоднай бані прыятна мыцца?.. Да ішчэ і зімой... А чылавек як разойдзецца, дак гаворяць: "**Ідзі ты ў баню халоднаю памыйся**... Там цімпіратура скора спадзе".

**Іжыцу прышыць.**

(а) Усё баба наша гаворя... Во тут жыве Каця Асонава, дак іе бацька дзірэктар школы быў. Калісь балезь хадзіла, коні балелі – "сап" нейкі. Гаворяць: "Сап". Коні сапуць і сапуць. Дак яны гаворяць: "Сап". Ну, і прыехалі ў калхоз, і самых лучшых: праязную кабылу, жэрябкоў двох – самых первых коней прызналі ўжо, пагаварылі з вецінарам, прывязлі сюды, і сказалі, што "сап" у коней. Коней тых забралі, а еты Аляксеенка стаяў, як бы я і ты, з мужчынамі стаяў, ці ета каждаму даверысся, усякія людзі ё. Дак ён стаіць і гаворя: "Ніякая ні сапа". Проста ўрадзіцельства. Забралі первых коней. Ета – урадзіцельства!" І сёдня сказаў. І назаўтря прыехаў *чорны воран*, яго забраў. І яны ня знаюць, куды яго дзелі і да сёдняшняга дня. Усё гаварылі: "**Іжыцу прышылі**". І калісь дзед прыдзя. Пагаворым, ён: "Пагаварылі мы, і... А то **іжыцу прышыяць**, *чорны воран* прыляціць і забярэ дзеда Майку". І цішына была. А пры Сталіну можна была што гаварыць на Сталіна? Калісь Бізун у нас брыгадзірам быў... І штось пачалі... Падышоў Бізун і гаворя: "Ты хочыш... Цябе... Счас прыедуць... Толькі пісульку туда, што так і так сказаў". Я прышла да матцы расказала, дак матка гаворя: "А ты не гавары нідзе: **іжыцу прышыяць** ні за што. Ціпер я не знаю, як гаворяць, а тады – *іжыца*. А



дзелала, і Ягорка, і Туся – меншыя, Маша ня дзелала – раз яны большыя. І Ваня. "Ой, дзетачкі, ешця вы самы. Я ня буду есць". А калі возьмем трошкі валлёма, матка і кажа: "Нясіця трапкач!" І каждай як увудзя! "Во вам, як бабу *ў грэх уводзіць*. Баба постуя. Ета яе дзела. А вы нашто ёй?" Мы гаворым: "Баб, ня еш, мы ўлілі трошкі". Яна: "Ну, во ціпер мне і есць нечага. Я ўжо хлебца із'ем". Мы ж хацелі, штоб баба… А то пашлі ў цэрькву, з цэрьквы ідом, баба не дайдзя. Ета шэсць нідзель пdescribed паставаць. Матка гаворя: "Во табе як, што ты да двара ўжо не дайдзіш, да ў цэркві пастаіць, памоліцца, во табе: "**Грэх забірай у мех, мех прадраўся і грэх пацяряўся**". А нада есць што-небудзь".

**Гуляй свадзьбу!**

<*Справу зрабіў.*>

Ужо **гуляй свадзьбу**.

**Гэчы – на плечы, Багародзіцу –** у **карман, да і пайшоў**.

(а) Усё калісь: "Скорынька сабірайцісь! **Гэчы на плечы, Багародзіцу ў карман, і пайшоў**!" Ета ўсі казалі, і баба наша, і ўсі людзі казалі.

<*На каго так казалі?*>

Ну, ты сабіраісся. Тады ж на работу. Во, стаяць: "Пайдзём! Пайдзём! Скарэй!" – "Вой, тоя ўзяць!" Баба: "Да ладна! Давай! **Гэчы – на плечы, Багародзіцу –** у **карман, да ідзі**!" Забыла не забыла што – ідзі!

(б) <*Вы калісь казалі*: "**Гэчы – на плечы, Багародзіцу –** у **карман, і пайшоў!"** *Што такое "гэчы"?*>

Скрозь казалі: "**Гэчы – на плечы, Багародзіцу – у карман, і пайшоў**!" Вот у дарогу ідуць... Напрымер, я пашла замуж, не ўжылася... Вузёл на плечы, пасцель... Як бедная пойдзя... Ні сундука, нічога... І прыдзя дамоў... Прышоў к нам Жаваранка, гаворя: "Прышла наша Парасся з-пад Рявучага... (Падрявучае возера ё за Марозаўкай[18], і там пасёлак, і назвалі пасёлак тэй Падрявучы)... Гаворя: "Пашла замуж туды... Прышла... Сундука мы не давалі ёй... А так... Пасцель у вузёл паклалі, да і маладую павязлі... Дак з Міцькам не ўжылася... Дак **гэчы – на плечы, Багародзіцу – у карман, і дамоў пасакатала.** Вот к етаму гаворяць... Якая няўдача, дак гаворяць:"А **гэчы – на плечы, Багародзіцу –** у **карман, і пайшоў**!"

<*Што такоя* **гечы**?> Я ня знаю... **Гечы на плечы**!.. Мол, вузёл, там... Што там ужо… Узёл, можа, узяў... Калісь іду ў Злынку, баба і кажа: "Ну, мая ўнучачка, кладзі ўжо **гэчы – на плечы**, *да ідзі па-маленьку*..." Кашулкі павесіш, да аборы етыя былі, баба саўець із лапцяў... Рэжа плячо!.. Падымаш кашулкі... Летам слівы насілі, вішан нарвом, нясом, увосень яблакі... Вот табе і **гэчы – на плечы, і пашоў.**

(в) Гаворяць: "Ну-ка, **гечы – на плечы, Багародзіцу –** у **карман, і пашоў**".

---

[18] Вёска Добрушскага раёна.

[Грэцкі С.В.: “Вузел... Тада ж не была чэмаданаў і сумак... Чэраз плечы – і пашоў. Вузлы. Ззадзі і наперадзі – вузёл, а тут – шляя”.]

Туды – цяжалейшы, а наперадзі – лягчэйшы.

Ідзём: Туся, я і Ягор... Баба: “*Хай вам Гасподзь удачы дае*, да благапалучна штоб дайшлі. Накладаіма сліў... Сліў сілечча была... Мы ў Злынку насілі... Налог быў... Нада была расчытацца. Баба: “**Гечы – на плечы, Багародзіцу – карман,** *і ідзіця з Богам*”.

<*Багародзіца... Іконку бралі?*>

Нічога не бралі. Словам скажа, да і ўсё...

**Дабра, як у бабра.**

Німа нічога. Якое ў бабра... Плавай, да і ўсё, грызі дзерява, заставы тыя дзелай. Усё кажаць: “У яго **дабра, як у бабра**, німа дабра”.

**Дагавор – лучшэ дзенег.**

Вот дагаварыцца ў чом-нібудзь, а дзеньгі заплаціў, ета ўсё г...

**Даганяй у вадзе рыбку. Даганяй у рацэ рыбку. (А яна сваей дарогай паплыла).**

**Даганяй у вадзе рыбку, а ў яе толькі хвост бліснуў.**

Дзед Іванюшкаў казаў: “**Даганяй у вадзе рыбку, а ў яе толькі хвост бліснуў**”. – “Дзед, у вадзе ж німа дарогі”. – “У рыбы ё дарога. Рыба ж плавая. Адна адну ні ўбівая”.

<*Калі так казалі?*>

Што-нібудзь ужо прайшло. Там, дзелаіш што-нібудзь, і ні здзелаў. Дак усі казалі: “**Даганяй у рацэ рыбку. А яна сваей дарогай паплыла**”. Даганяй. Ужо нічога ня здзелаіш. Ужо прайшло. Ужо ні дагоніш.

**Дажылі і не ўчулі калі**.

<*Сказала пра Дабравешчанне.*>

**Дажэ ценя (яго, яе) ня хочу бачыць**.

Дажэ ня то шта тога чылавека, што табе ўрэд іздзелаў. Цені яго ня бачыш. Цень ета – німа ніштo. Быў і німа.

**Дай Божа.**

(а) Красці ідуць злодзеі, і то кажаць: “**Дай, Божа,** удачы”.

(б) На свадзьбі калісь сядзяць на вуліцах летам... І мужчыны, і бабы прыходзяць... Глядзяць... Выносяць, у каго доска, паложаць, штоб людзі не стаялі, сядзелі... І ўслоны выносілі. Ну, і выносяць, угашчаяць... Гарэлкі даюць па чарцы, усіх угашчаяць. А як ё такія жадныя, не выносяць, дак бабы, мужчыны гаворяць, падымаюцца, ня вынясуць: “*Штоб ім так жылося, як нам пілося*!” А баба наша ўсё казала: “Няльзя так казаць! Нада казаць: “**Дай Божа**, штоб яны жылі ўмесці”. Прычым, еслі бацька жадзен, нявеста не прычом”.



мяне, ты бачыў маю работу... І наліцо, і навыварат – усё, *як перязнятае*. Вот ета – качэственна. Так і качэствена прэдседацель пражыў.

**Ігрушы пакалаціць.**

(а) Ета ўсё калісь казалі, ціперяка кажаць: “Яму нада **ігрушы пакалаціць**!” Во – за *грудкі ўзяць*, да пакалаціць.

(б) Пакалаціць харашо. Па затылку. Нада ігр**ушы пакалаціць**, штоб ён пахіркаў, да душа вылязла.

<**Ігрушы пакалаціць –** *гэта пабіць?*>

Да. Усі так казалі: і бабы, і дзяды.

**Ідзе кулік прывык? У балоці.**

(а) Людзей павысілілі. А гравер бралі, вазілі на стройку радзіцыонны... Ікраз жылі бы, і калхозы былі б, і малако б тоя дзешава была. Харашо б была, калі б не разарылі Беларусію. А то сколькі ўнічтожылі людзей. Папаехалі… Гаворяць: “**Ідзе кулік прывык? У балоці**”. Так і мы прывыклі там.

Кулік жа нікалі ні ходзя на высокіх месцах, а штоб ногі яго былі мокрыя. І нясецца ў балоці.

<Калі так казалі?>

І калісь так казалі: “**Ідзе кулік прывык? У балоці**”. Ён жа ўсягда і гнёзды віў, і жыў там. Яго на сушы ніхто ні бачыў.

(б) <А ў вас так калі так казалі?>

У нас гаварылі так… Хто дзе ня ездзя, дамоў ужо едзя, гаворяць: “**Дзе кулік ня ездзіў**…” Паехаў дзед Майка ў Амерыку, Каршуны паехалі і дзед Івоня, Майкаў брат. І ў Закружжы багата людзей паехала, і з Амяльнога, хто хацеў у зарабаткі. І харашо там, і добря.

(в) Пайду да Сняжковых, яны ў Ветцы жылі… Гавару: “Заўтры ўжо пайду!” А баба будзя казаць: “Ня йдзі! Будзь у нас. І нам будзя весялей. Пад’еш, нічога ня дзелай, ідзі пагуляй к Нінцы, да к Ірцы”. Пайду, пагуляю. Хочу дамоў. Дзень пабуду ў іх – тады дамоў. Дзед будзя казаць, Конан звалі яго: “Мая ўнучка, ета ты знаш, чаго бяжыш? **Ідзе кулік прывык? А ў балоці.** Вот і ты ў сваё балота ідзеш”. Дома лучшы. Вот так калісь у Амерыцы... А чаго сюда ехалі… Сказалі: “Рэвалюцыя ета. Будуць зямлю дзяліць”. Усякія ж слухі былі. “Во там зямлю будуць даваць…” Людзі на зямле стряміліся работаць, а ціпер уцякаюць ад зямлі.

(г) <*Чаму вы на іх* <*на ўкраінцаў*> *сказалі:* “**Дзе кулік прывык... У балоці**...”>

**Дзе кулік прывык...** Пасадзі куліка на полі... У яго ногі пазасыхаяць... Кулік любя... Усё тады казалі: “Кулік, бусел любяць, штоб усягда мокрыя ногі былі...”

<*А на іх вы чаму сказалі?*>

Ну, і яны... Украінцы... Як ні харашо ім у Расіі... Ну, хочаць яны дамоў... Там у іх і кварціры... Можа, і планок які ё.

саправаждаюць. І, як наш Сяргей едзя экзамены здаваць, я гаварю: “Па правай руцэ ў цібе ангел, а па левай – чорцік. Гаворяць: “**Богу малісь, і чорта не гняві**”.

(б) Кажаць, баба наша казала: “На правы бок ангелы ідуць, а на левы – чэрці”. Усё баба казала, вот ідом, на двор *па-маламу* захочыш, яна: “На які бок нада сыходзіць? На левы, а не на правы. Патаму шта па правым баку ідуць ангелы, а па левым – чэрці”.

(в) **Богу маліся і чорта не гняві**… Прыказку тады такую казалі… Гаворя: “**Богу малюся**…” – “**І чорта не гняві**”. І чорта вазьмі, угняві, дак будя дзелаць урэд бесканечна. Так і на рабоці… Лучшэ іздзелай лішняга, штоб тваю работу не пераработалі…

**Іголкай не падчэпіш.**
**Іголкай не пракалоць.**

(а) Вот **іголкай не падчаплю**, гаворяць. Што-нібудзь харошая здзелаць, дак... Здзелай, дажэ іголачкай... Харошая швейка – яна іголачкай будзя часцінька, а другая пасігая-пасігая, пакуль ты іздзелаіш, дак яна сем рушнікоў прышыла ў кружыўя... *У с... ўтыкні* работу... І ў кружыў’і вязаць, і прышыць нада... Дак нада здзелаць так, штоб яно была роўненечка-роўненечка... Іздзелаіш *на жывую нітку* і палядзець, ці маршчыны ё, ці німа... А еслі так прышываіш, ужо так роўна ня дзелаіш... А другія... Пасцябая... Астаецца... “Ну і *чорт яго бяры*!”

(б) На другога чылавека гаворяць: “Ого! Етага чылавека дажэ і **іголкай не падчэпіш**!” Такія бываяць хітрыя людзі. Ты яго ніяк ня выпытаіш. У другога... Чуць-чуць... Усё табе разнясе, а ў другога... Усё казала баба наша: “Ого! Тога **іголкай не падчэпіш**! Еты хітрэннага роду”.

(в) Парукаў... Ва-первых, ён глядзеў калхоз харашо, ва-ўтарых, ён пільнаваў сваю сям’ю харашо, і чужыя сем’і дажэ ўспакаіваў. Пашцы каліcь казаў: “Ідзі, печ тапі, да мужыка накармі...” Ліда мая спала-ня спала, а ўрэмя – яна устала, печ вытапіла, супа наварыла, бліноў, сала нажарыла, і дзяцей у школу выправіла, мяне на работу выправіла... К ёй **іголкай не падчэпіш**, не за што мне яе.

(г) Вот хітры – нічога не выказывая. Каліcь матка кажа: “Што пагаворым у хаці, нічога з двара не выносця”. Усё на Тусю казала: “Пойдзіш, у Барысавых будуць выпытываць: “Што дзелаяць?” Будзь хітрая, **штоб іголкай не падчапіць**...”

(д) Ета Парукаў казаў: “Я жыву на чэснасць. Нічога ні бяру, ні краду ў калхозі. Мне яно ні нада. Мяса нада – выпішу. Я законна вазьму, грошы з мяне вывярнуць ці заплачу налічнымі. І гаворя: “Нічога ні краду, ні магу. Патаму шта на чэснасць. Ка мне ніхто **іголкай ні падчэпіцца**, патаму німа. Я нічым не грэшэн. І куды не капалісь, хацелі яго, там, такія мудряцы былі... А ўсё раўно ж не папалі яны ў прыдсядацелі... Вот вазьмі – другая вышыўка, і шыццё, і вышыўка, і вязанне – нідзе прычыны не найдзіш, усё вышыта будзя, *як па маслу*. Я не бяру людзей! Людзі ўсякія каліcь былі, і вузлы калісь вязалі, навыварат палядзіш: такія, як цюцюцны, ляжаць. А ў



**Дай, Госпадзі, у добры час!**

Так усі гаварылі: “**Дай, Госпадзі, у добры час!**” А я ня знаю, калі добры час бывая. Усі так... Калісь баба ідзець на агарод што-нібудзь: “**Дай, Госпадзі, у добры час!”** У добры час начаць.

**Дай (табе) Бог здароўя → Надваяка варажыць.**

**Да капейкі → Каждаму вашанку (шчанку) па станку.**

**Да лампачкі.**

Калхоз на вачах распаўся, і ўсім **да лампачкі**.

**Далёка ляжала кала (чаго-небудзь, каго-небудзь).**

Нявесту выкупілі, забралі, тады ж стаіць з тряплом, дзядзя ці хто, і ён ужо махая: “Дайце мне грошай!” Болей трэбаваў за нявесту. Я гаварю: “І грошай шчэ ўпяклі харашо, думалі, дзевачка. А ты ўжо **далёка ляжала кала** дзевачкі”.

**Да новых венікаў.**

Бараду, як усё жыта сажнуць, дак дзелалі бараду і ў калхозі. А тады нясуць прыдсідацелю. А так дамоў прынясуць тую бараду. Ужо стаіць яна: адна на агародзі, а другую ў хату прынясом. І кала ікон паставім. І ў калхозі прынясом. У канцыляріі стаіць яна **да новых венікаў**.

<*“***Да новых венікаў***” – гэта як?*>

Чагось калісь гаварылі: “Будзя стаяць, **пакуль новыя венікі парастуць**. Пакуль – вісна”. І яна стаіць, тады ўжо прыбіраюць.

<*А хто так казаў*: *“***Да новых венікаў***”?*>

Усі казалі: “У нас будзя стаяць **да новых венікаў**. Пакуль новыя венікі рэзаць”.

<*Так толькі на бараду казалі?*>

Ну, і так што-нібудзь, яны гаварылі. Я знаю, што матка наша без канца... Калісь спім, яна будзя гаварыць: “Падымайціся, а то **да новых венікаў** будзіця спаць: не разбудзі вас!”

**Да пасіненія → Гоп-кампанія.**

**Дарогу прабіваць.**

Матка казала наша: “Нада самім **дарогу прабіваць**” Я гаварю Сярёжку: “**Прабівай дарогу**. Можа, ты будзеш за сталом ідзе сядзець...”. Я і Грышу калісь казала: “Грыша, кідай ты ета! Ты бачыш, як цяжола грузіць... Лапатай брыкет набірай і кідай на машыну. А то *сілы падарвеш*, і дураком астанесся”. І Маша: “Грышачка, у цябе ж *галовачка варя*, ідзі...”

**Да смерці (хопіць) → Рады ня даць.**

**Даходу, як з трутня мёду. (Даходу, як з мухі і трутня мёду.)**

Калісь дзед Майка казаў, прыдзя, на Ягора, гадоў шэсць ці сем яму была: "Здароў, дармаед!" А ён... Ён яго дзед ня зваў: "Майка, я работаю!" – "Што ты дзелаіш?" – "У грубку дровы кладу". – " О-о-о! З цябе **даходу, як з трутня мёду**! Так і з цябе даходу. Які ты работнік! Нада ўнесці із надвор'я дроў. Вот ідзі ў тряскоўню, набяры да прынясі дроў у хату. А тут і дурак паложа. Хрёсная трутняў выкідала. Я гаварю: "Мам, пакажы якія яны". Такія, як авадні, бальшыя яны. Яны ж выводзяцца, іх нада ўбіраць. Таму шта яны мёд ядуць слішкам многа, а нікуды не лятаюць за мёдам. А пчолка тая – рабацяшчая. Кажаць, мурашка і пчолка – ета рабочая насякомая. Яны і хаткі сабе будуюць, а етыя авадні да трутні за *чужы счот жывуць*.

**Даць жызню.**

Матка: "Прядзіця ужо, *ідзе з волас, ідзе з колас*, да хоць прядзіця вы..." Харашо прядом, а, як песні пачаном, Туся сабе, я сабе. "Туся, давай песню!" Матка: "Пашло дзела ў ад! Ета ўжо ня будзя ня то шта... Песні будуць, а ўжо будзя ня то шта з колас і з волас, ужо ў трубачку скора ня ўлезя!" Там, у самапрядцы, трубачка, нітка ідзець туды. "Кіньця!" Мы ўжо перястаём пець. "Сусолак січас навешаіця!" Сусолкі – прядзеш, а дзе з колас, дак яно ж пойдзя, а ідзе з волас, яны ў етаю трубачку і перярязаюцца ці парвецца, а хоць будзя сукараціцца крута. Прядзіця раўнамерна! Інача аборай буду сеч!" І добря, што яна так і дзелала. Яна **дала нам жызню**. А як бы *пусціла на самацёк*... "Як хочыця, так і жывіця", дак з нас бы толку не было.

**Даць копаці.**

Ён яму **даў копаці**. Ругаў яго. І ў нас калісь там. Усі так казалі: "Я **даў копаці** яму!" Копаць – знаіш чаго? Во смаліна гарыць... Баба калісь... А мы любілі, як копаць ідзець... Запалім... У нас у Грэбільцы карчы былі, дак усі людзі капалі... Яны смаловыя... І паложыма, і ён гарыць – у хаці відна... Баба: "Вон пад комінам дзяржыцця! Што вы копаці надаіцё?" Ета значыць: плоха. А свет ужо прявялі, дак копаці німа.

**Даць на веру → Душэ празнік іздзелаць.**

**Даць на язык.** Гл. таксама**: Душэ празнік іздзелаць.**

Дзед Майка казаў, калі прыдзя: "Палашка, **дай-ка** мне **на язык**, *суха на языку*". А яна гаворя: "Майка, табе пастаў бітон, дак ты будзіш усё піць, і усё мала будзя. Заўтры прыдзіш, заўтры свята будзя". А ён гаворя: "*Заўтры і ў вераб'я будзя піва*. А ты мне сёдні дай". А хоць будзя гаварыць: "*Заўтры і ў караля будзя піва*. Заўтры будзя піраваць. А сёдні пакармі".



**Зямля гаворя → Бандарява карова.**

**Зямля – трэсь, і чорцік – скок.**

(а) Вот як хто прыдзя нячаяна. Я гаварю: "**Зямля трэсь – чорцік скок**!" <*А як гэта:* "**Зямля трэсь – чорцік скок!**">

Гаворяць: "**Зямля трэсь, а чорцік скок**", вот як хто прыдзя нячаяна. Нашы калісь з Гоміля прыедуць, я гаварю: "**Зямля трэсь і чорцік скок!**" Сяргей (сын): "Ці ты ні давольная? Калі прыедзім, тады прыедзім.

(б) Ета ўсё, як дзед прыдзя Майка, баба: "Во **зямля – трэсь, і чорцік – скок**". Ён к нам хадзіў і днём, і ўранні, ішчэ печ нашы думаюць затапліваць, як ён прышоў ўжо.

(в) Ці дзеўкі калі ка мне прыдуць, дак матка: "**Зямля – трэсь, і чорцік".**

**Зяцкі хлеб – сабацкі.**

(а) Як у зяці ідзець, гаворяць: "Куды ты ідзеш? **Зяцкі хлеб – сабацкі**". Там адзін у нас кінуў сваё, хату забіў, пашоў к адной жыць. А яму кажуць: "Ідзі ў сваю хату, прывядзі, ты будзіш хазяін". Яна яму і казала... Як што-нібудзь... Ці споря... Яна яму: "Ты мне крыва не гавары. Ты за майго мужыка сталом сядзіш..." Ён пачаў мужчынам казаць: мол, так і так. А дзед Жаваранка гаворя: "Помніш, я табе гаварыў: "**Зяцкі хлеб – сабацкі**". Ты тут век хазяін ні будзіш.

(б) **Зяцкі хлеб сабацкі**. Кату і тому кажы: "Здраствуйця". Гаворяць: "**Зяцкі хлеб сабацкі**". Як сабаку тому, кінуць, дак з'ясі. А не, дак...

(в) **Зяцкі хлеб** – **сабацкі**. Казаў маей кумы мужык, у зяцціях жыў: "Будзя ў мяне сын, нікада ў зяцці ні аддам". Я гаварю: "Не аддасі?" – "Не. Ета нада ката, і тога: "Кот Катовіч... Драствуй, Кот Катовіч. І сабаку нада пабацюшку называць".

**І Богу моліцца, і чорту верыць.**
**І Богу верыць, і чорт памагая.**
**Богу маліся і чорта не гняві.**

(а) **...і Богу верыць, і чорт памагая**. Калісь паціряла я іголку. Ішла, думаю: "Будзя грубка тапіцца, а я вязёнку буду лапіць: відро выносіць". І нясла, і – бац!" Рукі ж ніякія. Дзе тая іголка? І як яна выскальзнула? І шукала я, і не найшла. Тады пачала мост.... Думаю: "Дай-ка, я мост памыю". Адну маснічку памыю, пасяджу, аддыхну і зноў. Пагляджу: штось блішчыць каля дзвярэй. Узяла, падняла – іголка. А я ішчэ да етага пачала мыць да і гаварю: "*Чорцік Іванька, памажы мне*! Аддай мне! Бяры сваё!" Ішчо баба так вучыла. Пагляджу: іголачка блішчыць. Я іголачку тую ўзяла, гаварю: "І чорцік памог!" Хто Богу маліцца: "Госпадзі! Хоць бы найці!" Я іду ў лес, калісь хадзілі ў грыбы ці ў ягады, гавару: "Госпадзі! Бог не award памажа, *Іванька-чорцік, памажы*, штоб мы набралі ягад!" І пойдзім, чуць дапром ягады. А баба казала наша: "Дзеці, у лес ідзіцё, перяхрысціцесь: "Госпадзі! Памажы нам!" Патаму што з табой ангел ідзець паўз адзін бок, паўз правы, а чорцік ідзець паўз левы. І каждага чылавека

**З канцамы.**

Яна ўжо не прынясе. Усі так казалі: "Забраў – і **з канцамы**!". І Павел казаў: "Пазычыў грошы і не аддае. Ета ўжо **– з канцамы**. Ужо забывай... І *канцы схованы*".

**З кіпіча гаршка вырываць (атрываць).**

(а) Кіпіць гаршчок – выхваця. Ета так гавораць: "О! Тэй ужо чэлавек – то, *брат ты мой*, – хлюст: **з кіпіча гаршка вырвя**!" Усі, і баба наша, і дзед... Усё калісь старшыя гавораць, і мы гаворым. У нас Туся была, я вот была, я на смашнікі не такая, штоб ухваціла, сажрала – нет! А Туся была малая... Матка гаворя: "Бі масла!" Яна будзя... Ты знаіш, як б'юць?.. Б'е, за ручку дзяржыцца і б'е, яно выскаківая на крышку, масла тое... Яна ліжа, ліжа. Матка: "Ты **з кіпіча гаршка атарвеш**! Хай кіпіць, і ўсё – ты рукой палезіш, і рука не аблезя".

(б) Матка гаворя: "Ідзі смятаны глячок вазьмі, дак у борщч каждаму па ложцы". Яна пойдзя. Прыдзя. Смятаны палавіна ісхлёбана. Матка гаворя: "А што-та смятана із'едзеная?" А Туся: "Кот! Я ўскочыла, ён з погрэба лез". – "Дак крышка ж закрываіцца ў погрэбі. Як жа кот туды залезя?" – "А я знаю? Там адкрыта было". Баба: "Ну, глянь! Я была, там закрыта ўсё, а ў цябе адкрыта". Пакуль паймалі яе. "Во, – матка гаворыць, **– з кіпіча гаршка вырываш**".

(в) Ета афірыстка **з кіпіча гаршкі вырывая**... Яна *і ў агне не згарыць, і ў вадзе не патоня*.... Выскача і з агня, і з вады... *Не згарыць ні ў агне*... Гавораць: "О-о-о! Ё.. Ты, брат – хлюст!.. *Ні у агне ні згарыць, ні ў вадзе*... **З кіпіча гаршка вырвя**..."

<**Хлюст**... *На каго казалі?*>

На такіх, што і ўкрадзя, і зматая, і абдуря...

(г) Ён **із кіпіча гаршок вырвя**, свайго даб'ецца, *у чорта з зубоў вылезя*.

<**У чорта з зубоў**. *Гэта як?*>

Чорт зубамы будзя дзіржаць, і ўсё раўно ён вырвіцца і адтуль. Усі ета казалі. І вырываіш… *Як чорт зубамі дзяржыць*. Ета ўжо крэпка.

<*Калі так казалі* ***чорт зубамы***..?>

Вот і гвозд будзіш ірваць, і ня выцягніш… *Як чорт зубамы*, гавораць, *дзяржыць*.

**Зла не хватая.**

**Зло бярэ.**

Што-та не выходзя ў цябе... Вот хочыш, а яно не клеіцца, і ня лепіцца. Гаворыш: "**Зла не хватая**!" Злісся ж. Не выходзя, дак **зло бярэ**.

**З усія праўды → Шчырага каня і ў повадзе заводзяць.**

**З усія сілы → Шчыры конь.**



**Даць па каўняру → Даць у каўшня.**

**Даць у каўшня.**

Ета ж ціпер, знаіш што? Па-гарадскі гавораць, хто як уздумая. А тады па-калісяшняму гаварылі, не панімалі, што ета – ета беларускі. Дак усё баба казала: "**У каўшня б даў** табе!" Хоць: "*У хрыбет*!" – будзя казаць. Ілі: "*Па каўняру*", – будзя казаць. Ета ўжо ударыць. Я гаварю: "Баба, а ў морду?" – "У морду нільзя біць. Богам запрашчано. Вераб'і б'юцца, і тыя шчыпаюць пер'я, а ў морду ня б'юць.

**Даць у хрыбет → Даць у каўшня.**

**Дваццаты век →Паглядзіш, на чом свіння хвост носіць.**

**Дзевак порціць → Чарціная свадзьба.**

**Дзе ты (вы) т'анкі вадзіў (вадзілі)?**

Мы гуляіма… Матка: "**Дзе вы** ўжо **танкі вадзілі?** Што не было вас тут, на сярэдку". Мы абычна з двух краёў на сярёдак, кала нас сабіраімся… Дак усё гаварылі: "Танкі водзіш…." Ходзіця дзе… Ці пойдзіма ў лес, дак матка пытая ці баба: **"Дзе вы танкі вадзілі** ўжо?"

**Дзе (цябе) чэрці жанілі?**

(а) Павел учора прыйшоў, я гаварю: "**Дзе цябе чэрці жанілі?**"

(б). Гаварылі. Як гуляіш ідзе... Баба ці матка: "**Ідзе цябе чэрці жанілі?**" Як так ішчэ прыдзіш. А нада быў... А ня найдуць, дак: "**Ідзе цябэ чэрці жанілі?**" Ці: "Ідзе ты блытала?"

**Дзісціпліну дзяржаць (сабачаю, жалезнаю, стальную).**

(а) Матка **дзісціпліну дзяржала сабачаю**. Сабаку ўсё б'юць. То кусая, то гаўкая.

<**Сабачая дзісцыпліна –** *гэта калі б'юць?*>

Табе загадалі дзела, а ты дзесь пралындаў. Прышоў дамоў, матка будзя спрашываць: "Дзе ты лындаў? Давай-ка сюда!" Як урэжа аборай! Гаворя: "Я буду сваё *сэрца рваць* з вамы? Пяцера вас, дак вы будзіця, на *сабак глядзя рэсць*!" А калі скажа: "*На лес глядзя... Расцёця, на лес глядзя*... Лес пад неба расце – і вы... Гавораць: "*Вырас пад неба, да дурны як трэба*!" Яна **дзісціпліну дзяржала**. А ў Крыўцовых калісь было. На матку: "*Ідзі ты к чорту*! Не гаўкай!" Ета на матку! Разве ета дзеці?

Сабакі па волі бегаюць... У яго німа... На каго хочыць... Путны сабака, дак ён зная сваіх, курэй дажэ зная... У нас сабака быў: чужога разарве на шмацця, як чужая зайдзя, сваіх не чапая... Вот пачом ён зная?.. Куры ж, кажыцца, усі адзінакавыя. А другі сабака... Яму... Свой... Чужы...

(б) Матка **ў дзісціпліні дзяржала** і гаворя: “Я пушчу вожкі, конь пабягіць куды папала, і я вас не збяру”.

(в) У нас Козырыха... Наша матка не гаварыла... А Козырыха: “Дзеўкі, ідзіця дзелайця. Во курвы етыя сядзяць!” – ужо ўсяк пачане гаварыць. А наша матка толькі гляня, мы баялісь яе. І добря дзелала. Дзісцяпліна. Пайшоў Ваня ўжо у армію, дак у пісьме піша: “Мама, **дзяржала** ты над намы **дзісціпліну жалезнаю.** Ціпер **дзяржы стальную**. Дзісціплініраванаму ўсюды добря. Я ў сям’е такой жыў, што дзісцяпліну знаю, што дзелаць – што ня дзелаць, плахоя і харошая разлічаю. Дак мне і ў арміі харашо”.

**Дзісятыя клёпкі ў галаве не хватая. Дзісятыя клёпкі німа ў галаве.→ Галава садовая чэрятам крыта.**

**Дзіця пасадзі, дак і тоя вырасця.** Гл. таксама: **План такі, што дзіця пасадзі, дзіця вырасце**.

**План такі, што дзіця вырасця.** Планы такія харошыя. Што усё расло. План харошы. Усё расце. Не то шта там, пагода, дак выгарэ, ніз, дак вымякне. А такія роўныя, што **дзіця**, гаворя, **пасадзі, дак і тоя вырасця**.

**Доўг вочы сячэ.** Гл. таксама*:* **Доўг плацежом красен.**

(а) Ну, праўда. Еслі доўжын чылавек. Ён падыходзя... З якімі вачамы. Павел церяз унука... І гаворя: “Мне стыдна к вам іціць... **Доўг вочы сячэ**.”

(б) У нас скрозь гаварылі. Калі во хлеба пазычыў. Козырыха сёдні ў цябе... Німа хлеба, яна ходзя пазычая. Но яго ж аддаць-та нада. Баба кажа: “Нешта Козырыхі німа”. Матка: “То шта **доўг вочы сячэ..**.”

**Доўг плацежом красен.**

Як адаўжаіш, дак ты ж аддавай. **Доўг красен плацежом.** Пазычыў. Аддай назад. А як не аддаеш... Як Паўлаў унук не аддае, дак *доўг вочы сячэ*.

**Драпака даць.**

Бягом беч. Гаворяць: “**Драпака як дасі**”. Ці вот матка за што-нібудзь... Скарэй драпака... На печ лезіш. Яна: “Злезіш, я ўсё раўно табе атамшчу”.

**Дрыжыкі прадаваць.**

Дрыжыкі... Ты ж як сакалеіш... Прыдзіма... Матка: “Што, ужо **дрыжыкі прадаеш**?” . Баба: “Лезця на печку”. Баба пацапая: “У вас жа рукі, ногі халодныя”. А матка будзя казаць: “У іх жа *сабачая кроў*. Січас нагрыецца, січас прастывая”.

Я ўжо ні знаю. ”А ў дзяцей жа – *сабачая кроў.* Січас прастывая. Січас нагряецца. Будуць сядзець, **дрыжыкі прадаваць**, а будуць казаць: “Цёпла”.



Шыльда!” І будзя ляпаць у дзверы... Як мне калісь казаў: “Во шыльда напісана! А ты прышла... Сёдні нірабочы дзень”. А ў нас Парукаў прыдсідаціль быў. Будзя садзіцца ў машыну. І падыходзіў хто-нібудзь пытаць па сваём лічным дзелу. І ён табе – ні то шта хляп! Дзвярямы, як другія прыдсідацілі... І *пашоў-паехаў*! А ён ужо сядзя ў машыну, падыходзіш: “Ой, Павел Пятровіч, я хацела у вас што-та спрасіць”. Ён расчыняя, вылазя з машыны: “Што такоя?” – папытая. Ці лічны твой вапрос, ці калхозны, но ён атвецця па-чылавечыскі, і скажа: “Мне сёдні некада, прыдзеш вечарам”. І ўжо вечырам ён будзя ждаць. А як **з грязі залезя ў князі**, ета не падыходзь, ета задачы *поўна с*... будзя.

**З дарагія душы → На здароўе.**

**З добрай душой → Чым багат, тым і рад.**

**З залатой буквы ў залатой рямцэ.**

(а) Ты ўжо **з залатой буквы ў залатой рямцэ напісаны** – такі ты харошы. Ета ўжо чылавек – лучшэ быць не нада.

<*На каго так казалі?*>

Ну, еслі вот харошы чылавек. Калісь мой бацька харошы быў. Казалі. Дзед Майка казаў: “Ну, Сашок, ты – **з залатой бальшой буквы і ў залатой рямцэ памешчаны**. І памрэш, ты будзіш у Бога на первам месці ў раю.

(б) Я думала: “Ты вумны, **із залатыя буквы**”. А ціпер: “*Са ржавыя буквы*”, – буду цібе зваць.

**Зімні дзед.**

Ну, вот як цёпла. Надзеніцца другі, а жарка... Ці будзя ў дзвёх сарочках... “А што ты, як **зімні дзед**, надзеўся?”

<*Чаму* **зімні дзед**? *Другога слова німа?*>

Зімой жа халодна. Дзед усё надзіецца. Будзя кала грубкі сядзець, і ў куфайцы.

**Зімні дуб.** Гл. таксама: **Кала шулят адны мышы пішчаць.**

Ета **зімні дуб** называіцца. **Зімні дуб**, знаіш, што такое? Называіцца **зімні дуб**, хто *лянівы***.** Калісь звалі хто зімні, хто лянівы, ета *адзін чорт*. **Зімні дуб –** ета усі дзярэўя расцвітуць, пусцяць лісця, а зімні дуб будзя стаяць, ён толькі распуская лісця ў канцы мая-іюні, у канцы іюня. Усі дубы параспусківаюцца, а той дуб, хоць *лянівы дуб*, хоць зімні, ён усігда увосень, позна-позна лісця, кудзелі на ём, як і летам, аж карычнівая – красная. У адзін дзень начыная і абсыпаіцца. Яго завуць хоць **зімні**, хоць *лянівы*, ляніцца распускацца. Называяць яшчэ – *лянівы дуб*.

**Збор-дружына.**

Ягор наш іграў. У нас заведушчая клуба была, дак яна дзелала канцэрты. У Закружжы ня дзелалі, а ў нас яна дзелала. Ад нас клуб чэраз двор быў.

<*Якія песні спявалі?*>

Старынныя і такія... Ваенныя... **Збор-дружына**.

**Збрэшыш, ня дорога возьмеш.**

Хто брэша… Дорага ён плоціць за ета? Не. Брэша і брэша… А казаў Парукаў: “Скажы мне адно слова праўды. І прыятна і табе, і прыятна тому чылавеку, хто слухая”. А тады ў яго перяпытай нанава, як ён бряхаў… Еслі праўда, дак яна астаецца…

**Збыць з галавы → Адзін дзень сяўбы год кормя.**

**Зверьху – сукны, а пад нізом – хоць тукні.**

(а) Гаворяць: “**Зверьху – сукны, а пад нізом – хоць тукні**”. Хоць будзя ёр’я надзета, а ў сярёдку пагніла. Вот яна зверху здаровая, а ў сярёдку...

(б) Ну, напрымер, ты чылавек – на від красівы і харошы, а будзя *звер-звярюга*. Вот і будуць казаць: “**Зверьху – сукны, а ў сярёдку – хоць тукні**”.

**З голымы рукамы.**

У кармані руб нада падзяржаць.**З голымы ракамы** не ідзі к людям такім, мудрым. А нада, штоб у кармані... Такая прыказка была. “Нада, — гаворя, — руб у кармані...”

**З горям папалам**.

(а) Ета палавіна сіняга, палавіна галубова. Як ні п’е, дак харашо. А як вып’я, ні ўладзіць, ні пагаварыць... Учора дзень раждзенья быў Вары нашай, дак ён забыўся, а то Ірка пазваніла: “Сёдні дзень раждзенья, дак паздраў Варю”. Дак ён паздравіў Варю, ну і *душэ празнік здзелаў*. Я ўзяла, да хлеб у столік паклала. Дак ён, *як звер*: “Ты што кладзеш! Сама нажралась!.. Я ішчэ ні еў нічога!” І пачаў. Яму прычына: *бельмы заліў*. Я сабралась, і пашла на двор... Хоць ты адурэй.

Як п’е, дак *не зладзіць, як з ірадам... Ні то шта з чортам*. Як цвірёзы, можна і папытаць, і скажа... Усё харашо... Як толькі *ўзяў на язык*... Гаворяць: “*Чорт страшэн. А ірад ішчэ страшней*”. Казалі так людзі. А я ні бачыла ні ірада, ні чорта.

(б) **З горям папалам** клычымся. Ну, калі горя, калі трохі лучшэ. Так і клычымся.

**З грязі (з хама) залезя ў князі.**

Калісь баба гаварыла... “Ці з **хама… Ці грязі да лезя ў князя**”. А як **залезя ўжо з грязі ў князі,** тады ўжо не падыходзь к яму... Скажа: “Во!



**Дуба стаіць → Свая рубашка бліжай к целу.**

**Дубелыя рукі → Шаўковыя рукі.**

**Дубец укінь, і ён будзя рэсць → Дубца ня ўсоджана.**

**Дубовыя рукі.**

Вот дзелаць... “Я ня ўмею...” – “А ў яе век *рукі ў с...* Яна нічога...” Ё такія бабы. І сем’і ў іх. Матка тая ні зная і сарочку пашыць.... Мая матка ўмела і вязаць, і вышываць, і шыць на машыны.... І людзям шыла і кохты, і плацці дзіцям... І я ўсё ўмею. А другая... Ё такія бабы, што... Ні зная ні вышываць, ні вязаць, ні пашыць. Патаму шта **дубовыя рукі**. Баба наша казала: “**Дубовыя рукі**”.

**Дубца ня ўсоджана.**

Яна падышла летась, была валошка, ці чым яе завуць, яны пад вакном сыпяцца. Яна падышла, пачала рваць: “Варька, нарву я сабе, варэння зварю”. Я гаварю: “Нада пасадзіць, а тады варэнне варыць! Дак яно даўно б вырасла. А ты **дубца не ўсадзіла**”. Я вон сабе і маліны насадзіла, і смароды паперясаджывала, а яна нічога ні содзя.

<*Гэта вы так на яе сказалі, альбо ўсі так казалі: баба, матка?*>

Ета і баба. Калісь баба ўсё казала... Там сусед жыў: на агародзі **– дубца ня ўсоджана**. Як мы перясяляліся з Закружжа сюды, далі ўчастак, сяленія новая, усе рынуліся, дак бацька адтуль, з Закружжа, і вішэн накапаў, і маліны, што на агародзі было, і папасадзіў. А Крывец **не пасадзіў дажэ дубца**, што *дубец укінь, і ён будзя рэсць*.

**Дурака кусок → Страшнае дзела.**

**Дураку закон не пісаны.**

**Дураку закон не пісаны**, як хоча, так і гаворя. Кажаць: “**Дураку разве закон пісан?** Ён што хоча, то і меля. Што хоча, то і малоця, а вумны – ён змолча”.

**Дурна і камар ні ўкуся.**

Адганяіш, ён табе на зло дзелая. Гадзюка паўзе, ня трогай, яна папаўзе. А як ідзеш, махні на яе, яна ўжо табе атпор дае.

<Пра што казалі: “**Дурна і камар ні ўкуся”**?>

Што адганяеш, тады ішчэ большы рой ляціць. Адганяеш, а ён табе назло ляціць.

**Дурны, а не кружыцца.**

Гаворяць, дурныя ўсё кружацца. А ён **на розум дурны, а ня кружыцца**. Ета калісяшняя прыказка. Дурныя, дак яны кружацца. А ён ня кружыцца. А на розум дурны. Ня сходзя для сваёй глоткі.

**Дурны па паясок.**
Ужо дурней некуды.
<*Чаму* **па паясок**?>
Ета – канец. Ужо вумным ня будзеш.

**Душа баліць.**
Еслі я пачую, **душа баліць**, штоб я яе... Пабыла... Цекст красівы... Яна ж прагаварыла скорынька... Ён мне *ў душу ўлез...* Вот хочу!.. Ніхай буду паміраць, штоб толькі ўзнаць, раз мне панаравілась... Вот яна мне нада?... А вот **душа баліць**... Думаю: “Вот ішчэ тую песню... Песня тая не даработана мною. Яна даўжна, штоб я... Яна даўжна папасць мне на язык уся... Штоб я яе знала”.

**Душа вон → Маць мая родная**!

**Душа вон (вылазя, вылязя).** Гл. таксама: **Пражылі – і не замецілі калі.**
(а) Калісь матка казала: “Дзеўкі! Ідзіця паскладайця дровы. **Душа вон**, но штоб не склаўшы дровы, напрымер, у хату не прыходзьця!” Усё! **Душа вон вылазя**, а ўсё раўно, складай да палачкі.
(б) Ідом красць яблак увосень... Яны спелыя, наліўныя... У нас сад быў залаты.... Усё звалі: “Залаты сад”. Яблакі такія... Падыходзіш, яно пахня антонаўкай, ішчэ падыходзіш к саду... Дак мы з Верай пашлі ў сад. Мяхі ўзялі і пашлі. Ганнушка: “Ой, паймаіцеся!” Прышлі. Івоня дзед пакашлівая. Вера: “**Душа вон**, но мы ўжо ня пойдам без яблак. Будзіма сядзець хоць і да рання. Ну, і сядзіма. І ціха-ціха, ні ветру, нічога. Сабіраіма. Як падняць? Вера мне памагая, я Веры. А Івоня стаіць і кажа: “Эх, Варвара, паймалася ты! Даўно цябе хочу паймаць”. Я гаварю: “Скарэй прапусці мяне чэраз зладзейку, тады будзім гаварыць”. Ён атышоўся, да: “Ідзіця. Да толькі па такой дарозе, штоб прыдсядаціль...” Мы говорым: “Ой, дзед, **душа вон** вылязя, но мы цябе не падвядзём”.

**Душа гарыць.**
Майка: “Як выпіць захочу, думаю: “Пайду. Палашка, можа, плісне. Вот хочу выпіць”. Прыдзя: “Палашка?” – “Што?” Паківая галавой. Яна: “Што? Наверна, **душа гарыць**”. – “Гарыць, Палашка... Калі ё, дай”. Матка: “Ну што, калі **гарыць душа**, давай патушу”. Кружачку налле.

**Душа не падыхні → Атвалі, мая чырэшня.**

**Душа не прыстае (да каго-небудзь) → Прапала дзедава кляпала.**

**Душу адвесць.**
З другім пагаворыш – дак **душу адвядзеш**. А з другім, так можна разазліцца.



**Заўтракамы сабак ня кормяць. Заўтракамы сабак ня кормяць, як на ахоту ідуць, а нада сёдні пакарміць.**
(а) Прыказкі такія. Гаворяць: “Заўтра дзела здзелаць...” Гаворяць: “Ідзі здзелай!” – “Заўтры”. Во я Сяргею сказала: “Сярёж, павесь ты ўжо рушнік на Бога”. – “Баб, заўтры!” Я гаварю: “**Заўтракамы сабак ня кормяць**. Дзелай сёдні. А на заўтры ні астаўляюць”.
(б) Гаворяць: “**Заўтракамы сабак ня кормяць**, **як на ахоту ідуць, а нада сёдні пакарміць**. Штоб ён нанач пад’еў. І заўтры пад’еў”.

**Заўтры будзя дзень, будзя пуць → Спасіба табе за хлеб, за соль, за благадаць, а больш нечага табе сказаць.**

**Заўтры і ў вераб’я будзя піва → Даць на язык.**

**Заўтры і ў караля будзя піва → Даць на язык.**

**За харошым мужыком і чуліндра – жына.**
**У харошага мужа і чуліндра – жана.**
(а) “**За харошым мужыком, –** гаворяць, **– і чуліндра – жына**”. Хоць і ніякая, да ён іе снабжая. А як такі труцень пападзецца – мужык, алкаш, п’яніца, як ціперь... Што німа... Рад бы і зварыць... Не з чага... Гаворяць: “Ну што, *чорны вол наступіў на нагу*?”
(б) Гаворяць: “**За харошым мужыком дак і чуліндра – жына**. Хоць яна і ніякая. А як ў дурнога, дак і будзя і харошая... Ён яе і абмацюкая, і абганьбя.
<**Чуліндра –** *гэта хто?*>
Ета табе не магу сказаць, што такоя чуліндра.
(в) Чуліндра... Ета гаворяць: “І дурная, дак будзя жана, а ў дурнога і умная адурэя. Як ён будзя гірчаць і гірчаць ні за тое, дак за тоя... Ні за тоя, дак за тоя... Гаворяць: “*Ні за крупы, дак за сала, ліш бы па яго толькі стала*”. Ета ціпер па-другому гаворяць, а тады па-старыннаму ўсё гаварылі.
(г) У харошага мужыка... Ён будзя скрываць... Харошы мужык жонку не абс... І харошая жонка мужыка не абс...

**За хлеба лусцінку дак аддасі шаўкову хусцінкую.**
Усі так казалі: “*Голад ня цётка...* Жраць захочыш...” Усё баба наша казала: “**За хлеба лусцінку дак аддасі шаўкову хусцінкую**”. Таму шта есць хоча чылавек, дак неўма што аддасць і душу прадасць. *Страшней усяго голад...* **За хлеба лусцінку аддасі шаўкову хусцінкую**. Патаму шта, што на табе будзя вясець хуста, а ты есць хочыш. Дак *неўма што* б аддаў.

**За чужы счот жыць → Даходу, як ад трутня мёду.**

не?” А Майка і кажа: “Да скарэй! **За няўдачу ўсё даюць у прыдачу**! Дак які тавар няходкі, дак скорынька збывай з двара! Штоб *у бабы перяхрясцілася*”. Штоб замужам пабыла. Хоць і кінуць. Ну, калісь гарююць, но ўсё раўно не кідалі.

<*Што ўпрыдачу давалі?*>

Хто што: хто цёлку, хто парасёнка, у каго што ё.

**Запалі, ня трэсня.** Гл. таксама: **Голад ня цётка, усё пажрэш.**

(а) У іх вот **запалі, ня трэсня**. Німа ні грама чаго есць. Ну, вот **запалі, ня трэсня**: вазьмі ты мокрая што-нібудзь запалі. Спічкі папорціш, і не запаліш.

<*Калі так казалі?*>

Ці німа хлеба... **Запалі, ня трэсня**... Такая прыказка была. Гаворяць: “**Запалі, ня трэсня**. Німа на стале ні лусціны, ні каржа – нічога. Калісь прыду са школы, есць хочу. Туды возьмім па скібачцы хлеба. Бульба там... Прыгаркі чорныя... Баба ўсё збірала сабаку. А мы тых прыгарак возьмім, чорныя раты ад прыгарак... Пагрызом тыя прыгаркі, да скібачку хлеба дасць матка. На вялікім перяпынку з’ядзім тый хлеб. Пакуль жа ўвечары... Зімой... Чатыры кіломітры нада ж іціць. Дак прыдзім, я гавару: “Ой, баб, я есць хочу!” яна: “Ой, мая ўнучачка, **запалі, ня трэсня!** Німа нічога”.

(б) **(Грэцкі С.В.**: І ціпер. Прыдзі к любому, і паесць ё. А ў другога халадзільнікі пустыя, у бічэй етых: **запалі, і ня трэсня**. Жраць нечага. Такая пагаворка сушчыствуя ўсё ўрэмя. Прымерна, бутылку прынясеш, а ў яго закусіць... І гаворыш: “Што: **запалі – ня трэсня**?”

**За плячамы не насіць. На плячах не насіць.**

(а) Я знаю, як і сена ўвязываць. Баба наша ўсё знала, і мне ўсё паказывала, кажа: “Ета **за плячамы не насіць**. Нада што б ты ўсё знала”. Прыходзіцца ў жызні ўсяк. Штоб усё ўмеў”.

(б) Баба наша і кажа: “Ё песня Лён і Лляніца”. Я гавару: “Баб, ну, навучы ты мяне”. Вот поліма лён, дак яна і гаворя: “Мая ўнучка, што знаіш, **на плячах не насіць**. Давай з табой пець”. І па-ціхоньку і пелі.

**За свае грошы купі горя.**

Ета наша баба ўсё казала і матка: “Во, **за свае грошы да ішчэ і горя купі**”. Сярёжка... Пяць рублей ён аддаў, пашоў на іманіны. Прышлі адтуль, біцца пачалі. А калі б не пашоў, і грошы б цэлы былі, і горя б не было.

**За смерцю толькі пасылаць.**

Вот калісь баба ўсё казала наша на Тусю: “Тусячка, схадзі (ну, прымерам) цыбулі схадзі, нарві. Бульбу зварым, пакрышым... Тусячка, ідзі цыбулі...” – “Счас пайду”. Як пойдзя, па агароду пакуль паходзя... Будзім ждаць-ждаць, баба сабіраіцца, пойдзя: “Нарвала ты цыбулі?” – “Ішчэ нарву!” – “Дак бульба ж зварылася. Цябе **за смерцю толькі пасылаць**. Так нажыўся б чылавек уволю”.



<**Душу адвядзеш –** *гэта як?*>

Проста палегчае табе. Пасаветае табе... Ё людзі, што пасаветаяць. Так – ня так, а, можа, вот так?.. Ці ў дзелі, ці ў хваробі...

**Душу прадаць → Голад ня цётка.**

**Душэ празнік здзелаць.** Гл. таксама: **З горям папалам.**

<**Душэ празнік –** *гэта як?*>

Выпіў. Усі так гаварылі: “Што ўжо? Калісь Карма прыдзя Маруся, гавару: “Што ты ўжо прышла ка мне?” – “Прышла во к табе. Выскачыла. **Душэ ж празнік здзелаў**...” Ліда *на веру давала*. У нас такая магазіншчыца была, усё піша на веру... Дак яны ходзяць, *на веру бяруць*... Яна ім запісыя...

Ішчэ гаворяць: “Сёдні **душэ празнік здзелалі**. Там ужо лішняга смашнейшага што зваряць. Сёдні бярыця бліны, да сала, яешня... Сёдні **душэ празнік**...

Дзед Майка прыдзя: “Поля, *дай на язык*. Хоча душа выпіць”. Матка: “Счас пагляжу...” Налле. Ён: “**Душэ празнік здзелала**”.

**Еш, пакуль рот свеж.**

Усё ў Каляды смашная ядуць. Смашнейшая! А *пост прыдзя – ета ўжо падхіля хвост*: гуркі, да ўсё. Калісь баба наша і кажа: “Майка! Ты вумны, любіш гарэлачку, да штоб закусіць салца табе”. Тады ж – каўбасы счыняць, да к Ражаству аставяць. Наш Ягор быў малы: “Дзед Майка, што ты смашней-смашней усяго на свеці любіш?” – “Ну, Ягорка, скажу па сікрэту, я люблю лучшэ ўсяго на свеці гарэлачку і беларускі прадукт, ета бульба наша прыродная, і гурок. Вот і ўсё. Мне гарэлачку, бульбу і гурок давай, і большэ мне ня нада не каўбаса, не сала – нічога. А ты, Ягорка, што любіш?” – “О! Я б канхвет багата еў!” А калісь жа канхвет не было. Ета толькі, як захварэіць, да канхвет. А цяперяка дзеці ўжо… Шчэ гаваряць: “Плоха жыць!” Не! Ціпер усяго – пашоў купіў, што твая душа… А тады ж нейдзе было, і не за што, і нейдзе было. Калісь Сяргей мой малы быў, захварэў, пайшла ў магазін, там ларёчык быў, хто на тархвяніку работаў, давалі. Ён і кажа: “Мам, купі мне канхветачак”. Я гавару: “Ці дадуць мне? Тут жа рабочым толькі”. Ён прастудзіўся, цімпіратура, ляжыць. Малачка даю. “Ня хочу. Ня хочу нічога”. Я пабегла ў магазінчык у тэй. Гавару: “Алёна, дай ты мне грам сто канхвет”. Руб ей панясла: “На рубля”. А яна і кажа: “Угу! А рабочыя прыдуць, дак рабочым што? Ня дам!” – “Ну, дай мне хоць штукі дзве ці тры”. Такія ледзячышкі былі. І яшчык стаіць. “Куды табе ўжо так?” – “Сярёжка захварэў. Ну, дай мне. Пяць штук. На табе руб, толькі дай мне”. – “Ня знаю, як табе даць. А рабочыя прыдуць, і ня хваця людзям…” – “Ня хваця, скажы, што Варка забрала. Любому скажы, што ўзяла бальному хлопцу”. Яна круцілась-круцілась. Мужык яе прышоў, яна: “Во прышла канхвет... Рабочым нада... а не ёй канхвет!” Я гавару: “Сярёжка захварэў”. Ен: “Ну, дай штук пяць!” І

прынясла, яна мне дала штук пяць. Я прынясла, вывярнула бумажачку: "Сярёжка, на-ка табе канхвет етых". А ён ляжыць, гадкі яму тры была ці чатыры, і кажа: "Мам, я ўжо не хочу. Пакуль ты доўга была дзесь, дак ужо не хочу". Я гавbooksру: "На, із'еш, у рот укінь. Ён падзяржаў у пальчыках. І не ўзяў. Я гаварю: "Во, калісь баба казала наша: "**Еш, пакуль рот свеж!**" **Пакуль ішчэ роцік свеж, дак еш**. А калі захварэіш, хоць ты і неўма што дай. І не ўзяў канхветы. Ціпер ідзі, бяры, якія хочыш.

**Жывы чылавек пра жывоя думая → Горы перявярнуць.**

**Жыдкая бульба.**

(а) Хто – "суп", хто – "**бульба жыдкая**". Пільмені я заву супам. Сярёжка: "Які ета суп? Пільмені!" **Жыдкая бульба** завуць з аднае бульбы. "Давайця сёдні зварым **жыдкае бульбы**". Ета ўжо адна бульба і вада, без крупы без усякія. Дак ета **жыдкая бульба** называіцца. І вот калісь: "Сёдні што будзя?" – "**Жыдкая бульба**". Ета ўжо накрышываіш.

(б) Етага я ня знаю. Наша Туся еслі бульбу, жыдкаю бульбу… На **жыдкаю бульбу**, на суп, калісь "жыдкая бульба" казалі, ціпер ужо "суп", яна такімі тульнямы пакрямяча, пакрямяча. Матка і кажа: "Ну куды ты пакрямячыла так? Ты ж ідзелай, гаворяць "*малая пашэнька – дзелай іе харашэнька*", куды ты? У рот ня ўсодзіш – удавішся".

**Жыць, як у Бога за пазухай.**

Харашо жыве, дак гаворыць: "**Жыву, як у Бога за пазухай**". А ў Бога за пазухай жа цёпла. Дак усё калісь казалі: "**Жыве, як у Бога за пазухай**". Ета харашо.

**Жарябка падводзіць можна.**

(а) Там адна ўсё: "Я хварэю, хварэю". А ня месціцца ў андараку... **Жарябка падводзіць можна**. Дак дзед Майка кажа: "К табе шчэ жэрябка калхознага трохгадавалага падвядзі, дак ён пагуляя шчэ з табой".

(б) Калісь казалі: "**К ёй жарябца шчэ падвядзі**!" Такая здаровая баба. Усякія бабы ё. "**Жэрябка падвядзі к ёй**, дак яна прымя".

**Задаць перцу.**

Матка прыдзя, **задасць перцу**! За косы, дак за косы! Атлупя добря. Во перац які! *Век папомніш.*

**Задзелаць казу.**

(а) **Задзелая казу** такую... *Сварку падымя.*

(б) Вот які ўрэд ідзелаіш, дак: "Якую ты там **казу задзелаў**?" Урэд людзям, дак прыдуць жаліцца.

(в) Гаворяць: "Ідзе ты ўжо **казу задзелаў**? Каму?"

Прыдзім, матка: "Дзе вы ўжо **казу задзелалі**? Якую? Прызнавайся, іначэ счас абора будзя хадзіць.



**За дзяшавым гонішся, дак дарагоя паціряіш →За морям цялушка палушка, да руб перявоз.**

**За душой перяпёлкі шумяць → Кала шулят адны мышы пішчаць.**

**Зайшоў у – ні назад, ні ўперяд.**

Гаворяць: "**Зайшоў у нерят – ні назад, ні ўперяд**". У нерят – у прорву якую-нібудзь. І ня вылязя. І туды – ня ўтопіцца, і назад... Калісь паехалі мы ў лес. Дзед Майка і кажа: "Ну, як на тэй раз, Варячка, паедзім, я табе памагу. Што ж ты адна будзіш лаўжы класць?" І мы прыехалі, туды заехалі, а там – прысякі такія, па руцэ, і зачэпяцца сані, і ўжо ня выідзіш. Хоць воз кідай. Прысякі: адзін і другі ўлезя, дак ужо нада падсякаць. Дак ён і гаворя: "**Заехаў** Майка **ў нерят – ні назад і не наперяд**! Будзям начаваць тут!" Вот мы ўжо каня распряглі, ён сані абярнуў і тапаром пассякаў тыя. "Ну, як на еты раз мы з неряту выедзім!".

**Залатыя рукі.**

(а) Усё-усё ўмею, а Туся наша – не. Маша наша тожэ дасцепная. А Туся – у кружаве яна вяжа, а шыць – зацяжак такіх надзелая. А ета прышла (суседка), прыдзя, расцеля і кажа: "Я гляджу на тваю работу: якая яна дасцепная! На левы бок, навыварат, і так жа... У цябе **залатыя рукі**!" Дасцепная – ета ўжо лучшэ быць ня нада.

(б) Я счытаю, ета паганы чылавек, што не ўмея нічога дзелаць. Вот мужчыны... У нас мужчына сам рубашкі вышываў "хрястам". А я ўмею і "кл'опам", "хрястамі", італьянскім швом, прастым швом, у кружыві вязаць, і на машыну. Я на Амяльном і юбкі, і плацці, і кохты шыла. У міне **рукі залатыя**.

**Заліць фінгалы.**

Як **залле фінгалы** свае, дак што на языку сплюшча, то ён і гаворя.

**За морям цялушка – палушка, да руб – перявоз.**

Гаворяць: "Далёка... За морям цялушка... – Усі ў нас казалі. – Во там вон прадаюць ці на базары дзешава..." Да ўсё баба казала: "**За морям цялушка – палушка, да руб – перявоз** нада. І туда – перявоз руб. Дак адно на адно. *За дзяшовым гонішся, дак дарагоя паціряіш*".

**За няўдачу ўсё даюць упрыдачу.** Гл. Таксама: **Набойкі дзешава стояць.**

Гаворяць: "**За няўдачу ўсё даюць упрыдачу**". Еслі ніўдачная дзеўка, ці нікрасівая, ці гуляшчая, дак усё – абы з двара збыць. Дзед калісь Майка казаў: "Ну, як скарэй…" – на Барыса Петрачкова... Чатыры дзеўкі было ў іх, дак ён гаворя: "Ну, ні знаю, – выйшаў і хваліцца, – Дачку ў прапытකі прыходзілі: "Ці аддасцё? – Яна крываротая была... – Дак, ці аддасцё ці